Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

N 4






## БАЯВЫ АГЛЯД РЭВОЛЮЦЫЙНЫХ СІЛ МІЖНАРОДНАГА ПРОЛЕТАРЫЯТА!

ВЫДАВЕЦТВА ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА"
МЕНСК — 1938



ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б
ГОД ВЫДАННЯ XII

№ 4
Красавік 1938 г.

ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 7.
Тэлефон рэдакцыі па камутатару
20.000, даб. 50.



# *ЛОЗУНГІ К 1 МАЯ 1938 г*

*1. Няхай жыве 1-е мая—баявы агляд рэволюцыйных сіл міжнароднага пролетарыята!*

*2. Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся! Станавіцеся пад інтэрнацыянальны сцяг Маркса—Энгельса—Леніна!*

*3. Братам па класу, вязням капітала, афярам крывавага фашысцкага тэрора, барацьбітам за перамогу рабочага класа ў дзень 1 мая наша пролетарскае прывітанне!*

*4. Фашызм—гэта тэрарыстычная палітыка капіталістаў і памешчыкаў супроць рабочых, сялян і працоўнай інтэлігенцыі. Фашызм—гэта захватніцкая вайна. Фашызм—злейшы вораг дружбы паміж народамі свету. Мабілізуем сілы на барацьбу з фашызмам!*

*5. Рабочыя, работніцы, сяляне і працоўныя ўсіх краін! Пашырайце і ўмацоўвайце народны фронт барацьбы супроць фашызма і вайны! За мір, за дэмакратычныя свабоды, за соцыялізм!*

*6. Барацьба іспанскага народа супроць унутранага і замежнага фашызма—агульная справа ўсяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва. Прывітанне гераічнаму іспанскаму народу, які змагаецца за сваю незалежнасць і свабоду!*

*7. Брацкае прывітанне вялікаму кітайскаму народу, які змагаецца за сваю незалежнасць супроць японскіх і іншых захватчыкаў!*

*8. «Мы стаім за мір і адстайваем справу міру. Але мы не баімся пагроз і гатовы адказаць ударам на ўдар палпальшчыкаў вайны» (Сталін).*

*9. Няхай жыве наша родная, непераможная Чырвоная Армія, магутны аплот мірнай працы народаў СССР, верны страж заваяванняў Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай Рэволюцыі!*

*10. Абарона бацькаўшчыны ёсць свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна СССР!*

*11. Баявое прывітанне маладым байцам Чырвонай Арміі, прысягаючым 1 мая на вернасць совецкай уладзе, на вернасць нашай вялікай соцыялістычнай радзіме!*

*12. Няхай жыве Ваенна-Марскі Флот СССР—надзейная ахова марскіх граніц нашай радзімы!*

*13. Няхай жывуць совецкія лётчыкі, гордыя сокалы нашай радзімы, якія дабіліся сусветных авіяцыйных рэкордаў!*

*14. Прывітанне байцам-пагранічнікам, зоркім часавым краіны соцыялізма!*

*15. Няхай растуць і мацнеюць, няхай аваладваюць тэхнікай і загартоўваюцца наша родная, магутная Чырвоная Армія, Ваенна-Марскі Флот і Чырвоная авіяцыя!*

*16. Узмоцнім і ўмацуем інтэрнацыянальныя сувязі рабочага класа СССР з рабочым класам капіталістычных краін! Вышэй сцяг міжнароднай пролетарскай салідарнасці!*

17. Няхай жыве саюз рабочых і сялян—аснова совецкай улады!

18. Царская Расія была турмой народаў. У совецкай краіне расце і мацнее вялікі саюз роўнапраўных народаў. Няхай жыве брацкі саюз і вялікая дружба народаў СССР!

19. Няхай жыве маральнае і палітычнае адзінства совецкага народа, заваяваўшага свабоду і незалежнасць нашай радзімы пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі!

20. Сталінская Канстытуцыя—вынік барацьбы і перамог Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай Рэволюцыі. Няхай жыве Канстытуцыя перамогшага соцыялізма і сапраўднага дэмакратызма!

21. Ліквідуем поўнасцю ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі вынікі шкодніцтва права-трацкісцкіх наймітаў замежных разведак! Ператворым СССР у непрыступную крэпасць соцыялізма!

22. Многамільённай арміі ўдарнікаў і ўдарніц прамысловасці і транспарта, стаханаўцам і стаханаўкам,—знатным людзям нашай краіны—большэвіцкае прывітанне!

23. Даб'емся выканання і перавыканання гаспадарчага плана 1938 года—першага года трэцяй пяцігодкі! Разгорнем шырэй магутны стаханаўскі рух!

24. Рабочыя і работніцы, інжынеры і тэхнікі цяжкай індустрыі і машынабудаўніцтва! За высокую здабычу вугалю, нафты, метала, за своечасовы выпуск лепшых машын, якія з'яўляюцца асновай развіцця народнай гаспадаркі краіны!

25. Рабочыя і работніцы, інжынеры і тэхнікі абароннай прамысловасці! Мацуйце абаронную магутнасць нашай радзімы! Узбройвайце родную Чырвоную Армію навейшай тэхнікай!

26. Рабочыя і работніцы, камандзіры і інжынеры лёгкай прамысловасці! Больш паркалю, шоўку, сукна, трыкатажа, абутку грамадзянам совецкай краіны! Змагайцеся за паляпшэнне якасці прадукцыі!

27. Прывітанне стаханаўцам соцыялістычных палёў, па-большэвіцку выконваючым план веснавой сяўбы!

28. Калгаснікі і калгасніцы, аграномы і работнікі соўгасаў! Змагайцеся за ўзорнае завяршэнне веснавой сяўбы і высокі ўраджай! Няхай жыве заможнае і культурнае жыццё калгасаў і калгаснікаў!

29. Узнімем культурна-тэхнічны ўзровень рабочага класа да ўзроўню работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы!

30. Палкае прывітанне героям-папанінцам, адважным заваявальнікам Паўночнага полюса, дастойным сынам соцыялістычнай радзімы!

31. За далейшы росквіт культуры народаў СССР, за новыя поспехі і заваяванні совецкай навукі, тэхнікі і мастацтва!

32. Няхай жыве роўнапраўная жанчына СССР, актыўная ўдзельніца ў кіраванні дзяржавай, гаспадарчымі і культурнымі справамі краіны!

33. Піонеры і піонеркі! Навучаючыяся совецкай школы! Авалодвайце ведамі, вучыцеся стаць барацьбітамі за справу Леніна—Сталіна!

*34. Слаўным фізкультурнікам і фізкультурніцам совецкай краіны—першамайскае прывітанне!*

*35. Няхай жыве комсамол—магутны рэзерв і надзейны памочнік большэвіцкай партыі! Няхай жыве працоўная моладзь нашай радзімы!*

*36. Шырэй разгорнем крытыку і самакрытыку нашых недахопаў! Умацуем магутнасць соцыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян!*

*37 «Сувязь з масамі, умацаванне гэтай сувязі, гатоўнасць прыслухоўвацца да голасу масы,—вось у чым сіла і непераможнасць большэвіцкага кіраўніцтва» (Сталін).*

*38. Узмоцнім рэволюцыйную пільнасць! Пакончым з палітычнай бесклапотнасцю ў нашым асяроддзі!*

*39. Выкаранім ворагаў народа—трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных шпіёнаў і шкоднікаў, наймітаў замежных разведак! Смерць здраднікам радзімы!*

*40. Выкрыем усіх і ўсякіх двурушнікаў!Ператворым нашу партыю ў непрыступную крэпасць большэвізма!*

*41. Рабочыя і сяляне! Разгортвайце выбарчую кампанію! Вылучайце сумесна ў Вярхоўныя Советы саюзных і аўтаномных совецкіх соцыялістычных рэспублік лепшых людзей, адданых да канца справе Леніна—Сталіна!*

*42. Працоўныя СССР! Выбірайце ў Вярхоўныя Советы саюзных і аўтаномных совецкіх соцыялістычных рэспублік доблесных патрыётаў нашай радзімы, непахісных барацьбітоў за шчасце рабочых і сялян, за соцыялізм!*

*43. Комуністы! Мацней сувязь з беспартыйнымі масамі. Галоўнае ў выбарчай кампаніі—не адмяжоўвацца ад беспартыйных, а дзейнічаць разам з беспартыйнымі і сумесна з імі вылучаць кандыдатаў у Вярхоўныя Советы саюзных і аўтаномных совецкіх соцыялістычных рэспублік!*

*44. Няхай жыве блок комуністаў і беспартыйных у надыходзячых выбарах Вярхоўных Советаў саюзных і аўтаномных совецкіх соцыялістычных рэспублік!*

*45. Няхай жыве і мацнее наша магутная радзіма—Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік!*

*46. Няхай жыве Ўсесаюзная Комуністычная партыя большэвікоў—перадавы атрад працоўных СССР!*

*47. Няхай жыве Комуністычны Інтэрнацыянал—кіраўнік і арганізатар барацьбы супроць вайны, фашызма і капіталізма! Няхай жыве комунізм!*

*48. Няхай жыве вялікі, непераможны сцяг Маркса—Энгельса—Леніна! Няхай жыве ленінізм!*

*Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай*
*Комуністычнай Партыі (большэвікоў)*

# Баявое свята міжнароднага пролетарыята

1 мая—баявое інтэрнацыянальнае свята працы, вялікі дзень міжнароднай пролетарскай салідарнасці, дзень баявога агляду сіл міжнароднага рэволюцыйнага пролетарыята. Рабочыя і прыгнечаныя масы ўсяго свету сустракаюць вялікае свята 1 мая 1938 года ва ўмовах вострай і напружанай барацьбы паміж светам соцыялізма, дэмакратыі і прагрэсу і светам капіталізма, фашызма—светам азвярэлай, крывавай рэакцыі і мракабесія.

Ніколі раней не была так рэальна небяспека новай сусветнай вайны. Пры патуранні буржуазна-дэмакратычных краін і ў першую чаргу Англіі, фашысцкія канібалы з Берліна, Рыма і Токіо беспакарана распальваюць пажар сусветнай вайны. Фашысцкія драпежнікі ўжо прыступілі да гвалтоўнага перадзелу свету. Сілаю зброі з карты свету выкрэсліваюцца малыя дзяржавы. Італьянскі фашызм захапіў Абісінію, зняволіўшы свабодалюбівы абісінскі народ. Германія захапіла Аўстрыю,ператварыўшы 7-мільённы аўстрыйскі народ у рабоў фашызма. На вачах усяго свету ў гэтай раней свабоднай краіне ўстаноўлен рэжым крывавага фашысцкага тэрору. Карыстаючыся патураннем Англіі і Францыі, германскі фашызм з кожным днём узмацняе свае прошукі ў Чэхаславакіі. Гітлераўскай агентурай наводнена тэрыторыя гэтай краіны. Судэцка-нямецкая гейнлейнаўская партыя—гэта агентура Гітлера—імкнецца ўзарваць Чэхаславакію знутры для таго, каб стварыць спрыяючыя ўмовы для ўтаржэння ў яе германскіх фашысцкіх полчышчаў.

Другі год германскі і італьянскі фашызм вядзе вайну за зняволенне Іспаніі, за ператварэнне яе ў сваю калонію, у плацдарм для новай крывавай імперыялістычнай вайны. У груды развалін ператварылі германскія і італьянскія інтэрвенты квітнеючыя гарады і сёлы Іспаніі. Для таго, каб патапіць у моры крыві іспанскі народ і закаваць яго ў ланцугі рабства, Германія і Італія кінулі ў Іспанію дывізіі і корпусы сваіх рэгулярных войск, агромную колькасць авіяцыі, танкаў і артылерыі. Японскі імперыялізм уварваўся ў Кітай і вядзе там захватніцкую вайну. Над светам зласвесна навіслі грозныя хмары крывавай вайны. У вайну ўжо ўцягнута адна трэць насельніцтва зямнога шара. Пажар вайны разрастаецца і пагражае захліснуць увесь свет.

Гвалтоўна зняволькваючы малыя краіны, германскі, італьянскі і японскі фашызм расчышчае сабе дарогу, падрыхтоўвае плацдарм для нападу на першую ў свеце краіну соцыялізма—на Савецкі Саюз.

Бліжэйшымі саюзнікамі і агентамі фашысцкіх дзяржаў усюды выступаюць подлыя ворагі працоўных—трацкісты і бухарынцы. Гэта яны па заданню сваіх фашысцкіх гаспадароў вядуць падрыўную шпіёнскую работу ў Іспаніі і Кітаі. Гэта яны арганізоўваюць змовы, учыняюць самыя агідныя злачынствы супроць народных мас. Гэта яны—прадажныя псы фашызма—рыхтавалі ўдар у спіну вялікаму савецкаму народу.

Але ў той-жа час мацнее адпор фашыстам і іх агентам—злейшым ворагам чалавецтва, падпальшчыкам крывавай вайны, душыцелям свабоды і дэмакратыі. З кожным днём мацнеюць сілы народнага антыфашысцкага фронта. Іспанская народная армія грудзьмі абараняе кожную пядзю сваёй зямлі. Гераічны іспанскі народ падае ўсяму свету прыклады герагізму і адвагі, якія паказваюць, на што здольны народ, абараняючы сваю незалежнасць, сваю свабоду і дэмакратыю. Такія-ж прыклады гераізму паказвае і 400-мільённы кітайскі народ у сваёй барацьбе супроць японскіх захватчыкаў.

Гераічная барацьба народаў Іспаніі і Кітая супроць агрэсараў ярка сведчыць аб тым, што ў народных масах расце і мацнее супраціўленне фашысцкім захватчыкам. У процівагу сілам вайны растуць і мацнеюць сілы міру. Магутны Совецкі Саюз узначальвае фронт барацьбы за мір. У момант страшэннага разгулу фашысцкай агрэсіі Совецкі Саюз смела падняў свой голас у абарону міру. Вуснамі народнага камісара замежных спраў тав. Літвінава Совецкі Саюз заявіў:

«Сучаснае міжнароднае становішча ставіць перад усімі міралюбівымі дзяржавамі і ў асаблівасці вялікімі дзяржавамі пытанне аб іх адказнасці за далейшыя лёсы народаў Еўропы, і не толькі Еўропы. Ва ўсведамленні совецкім урадам яго долі гэтай адказнасці, ва ўсведамленні ім таксама абавязацельстваў, выцякаючых для яго са статута Лігі Нацый, з пакта Брыяна-Келога і з дагавораў аб узаемнай дапамозе, заключаных ім з Францыяй і Чэхаславакіяй, я магу ад яго імя заявіць, што ён са свайго боку па-ранейшаму гатоў удзельнічаць у калектыўных дзеяннях, якія былі-б вырашаны сумесна з ім і якія мелі-б мэтай спыніць далейшае развіццё агрэсіі і знішчэнне ўзмацніўшайся небяспекі новай сусветнай вайны. Ён згодзен прыступіць безадкладна да абмеркавання і іншымі дзяржавамі ў Лізе нацый або па-за ёю практычных мер, дыктуемых акалічнасцямі. Заўтра можа быць ужо позна, але сёння час для гэтага яшчэ не прайшоў, калі ўсе дзяржавы, у асаблівасці вялікія дзяржавы, зоймуць цвёрдую, нядвухсэнсную пазіцыю ў адносінах праблемы калектыўнага выратавання свету».

Паслядоўная палітыка міру, якую праводзіць магутная краіна соцыялізма, з'яўляецца галоўным фактарам, што адцягвае тэрмін усеагульнай вайны. Знешняя палітыка Совецкага Саюза выражае імкненні і надзеі ўсяго перадавога чалавецтва, шырокіх народных мас усяго зямнога шара. У дзень 1 мая, у дзень міжнароднай пролетарскай салідарнасці погляды рэволюцыйных мас усяго свету з любоўю і надзеяй звернуты на краіну перамогшага соцыялізма, якая з'яўляецца верным вартавым міру.

Дзень 1 мая ва ўсім свеце з'явіцца днём барацьбы ўсіх пролетарыяў і прыгнечаных супроць капіталізма, супроць фашызма, супроць вайны. 1 мая будзе днём далейшага згуртавання сіл народнага антыфашысцкага і адзінага пролетарскага фронта. Пад сцягам Комуністычнага Інтэрнацыянала, пад вялікім непераможным сцягам Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна працоўныя ўсяго свету будуць дэманстраваць сваю сілу, сваю згуртаванасць, сваю гатоўнасць змагацца з фашызмам і яго трацкісцка-бухарынскімі і буржуазна-нацыяналістычнымі агентамі, змагацца за першую ў свеце соцыялістычную бацькаўшчыну працоўных, за Совецкі Саюз.

* * *

Народы Совецкага Саюза прыходзяць да міжнароднага пролетарскага свята 1 мая з агромнымі дасягненнямі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. На аснове Сталінскай Канстытуцыі праведзены

выбары ў Вярхоўны Совет СССР, якія прынеслі бліскучую перамогу сталінскага блока комуністаў і беспартыйных. У дзень выбараў у Вярхоўны Совет СССР—12 снежня 1937 года, народы Совецкага Саюза прадэманстравалі сваю згуртаванасць вакол героічнай партыі Леніна—Сталіна, сваё маральнае і палітычнае адзінства. У СССР зліліся ў адно дзве сілы: народ і комунізм. Вялікія ідэі комунізма аўладалі ўсім народам. Комунізм, як мэта нашай барацьбы, стаў мэтай усяго совецкага народа. У рэзультаце напружанай барацьбы пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна ў Совецкім Саюзе здзейснена грандыёзная будоўля соцыялізма, ажыццёўлена ў асноўным першая фаза комунізма—соцыялізм.

Совецкая краіна заваявала агромныя гаспадарчыя перамогі. На дзевяць месяцаў раней тэрміну выканан другі пяцігадовы план вытворчасці па прамысловасці СССР. Валавая прадукцыя буйнай прамысловасці ў 1937 годзе ў дзевяць раз перавышала прадукцыю буйнай прамысловасці ў 1913 годзе. Прадукцыя машынабудаўніцтва павялічылася ў 28 раз у параўнанні з 1913 годам. Гэтыя поспехі асабліва ярка відаць у нацыянальных рэспубліках. У нас, на Беларусі, напрыклад, вытворчасць прамысловай прадукцыі ўзрасла ў параўнанні з даваенным узроўнем у 22 разы. Буйнейшыя поспехі дасягнуты ў галіне сельскай гаспадаркі. Даволі ўказаць, што ў 1937 годзе Совецкі Саюз сабраў ураджай зернавых у 7 мільярдаў пудоў, чаго раней ніколі не было. З кожным днём соцыялістычная сельская гаспадарка ўсё больш узбройваецца новай перадавой тэхнікай, якая павышае ўзровень і культуру сельскагаспадарчай вытворчасці і палягчае працу дзесяткаў мільёнаў калгаснікаў і калгасніц.

Вялікія перамогі комунізма выклікаюць рост матар'яльнага дабрабыту працоўных мас, палітычны і культурны ўздым найшырэйшых мас Совецкага Саюза. У рэзультаце гэтага ўздыму мы маем вялікі росквіт ва ўсіх галінах навукі, культуры, мастацтва і тэхнікі.

Гераічны совецкі народ заваяваў непрыступны Паўночны полюс. Гордыя сокалы краіны Советаў—совецкія лётчыкі заваявалі сусветную славу. Кожны дзень прыносіць яркія прыклады самаадданасці і гераізму патрыётаў краіны соцыялізма. З радоў совецкай моладзі выходзяць сотні і тысячы талентаў ва ўсіх галінах навукі і мастацтва. Маладыя совецкія скрыпачы і піяністы занялі першае месца на міжнародных конкурсах. Жыццё кожны дзень пацвярджае словы Леніна, што «толькі з соцыялізма пачнецца шпаркі, сапраўдны, сапраўды масавы, пры ўдзеле большасці насельніцтва, а затым усяго насельніцтва, адбываючыйся рух уперад ва ўсіх галінах грамадскага і асабістага жыцця». (В. І. Ленін, збор твораў, т. XXI, стар. 439).

Разам з ростам эканамічнай і палітычнай магутнасці совецкай дзяржавы расце і яе ваенная магутнасць. Наша Чырвоная Армія, любімая ўсім совецкім народам, апіраецца на гіганцкую прамысловую базу, створаную за гады сталінскіх пяцігодак. Прамысловасць аснашчае Чырвоную Армію перадавой навейшай тэхнікай. Наша магутная Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія забяспечана ў вялікай колькасці сучаснай, тэхнічна перадавою зброяй. У броню і сталь адзета краіна соцыялізма. Совецкі народ мае першакласны паветраны флот. Непрыступны граніцы Совецкага Саюза і з мора. Совецкі народ стварае цяпер магутны Ваенна-Марскі флот, дастойны вялікай соцыялістычнай дзяржавы. Магутнасць нашай арміі не толькі ў яе тэхніцы. Яна моцна сваімі кадрамі, да канца адданымі справе соцыялізма, партыі Леніна—Сталіна, сваёй соцыялістычнай радзіме.

СССР—многанацыянальная сацыялістычная дзяржава. З турмы народаў, якою была царская Расія, дыктатура рабочага класа здолела стварыць квітнеючую дзяржаву, у якой усе нацыянальнасці жывуць у цеснай дружбе і супрацоўніцтве. На глебе, расчышчанай ад эксплаататарскага пустазелля, расце і мацнее дружная сям'я савецкіх народаў. Нашы нацыянальныя рэспублікі і вобласці—не тое, што былыя задаўленыя каланіяльныя ўскраіны царскай Расіі. Вялікі рускі народ—першы сярод роўных у гэтай дружнай сям'і—сістэматычна аказвае брацкую дапамогу раней адсталым ускраінам, усяляк дапамагаючы ім уздужаць і расцвісці. Працоўныя масы, якія скінулі ярмо гнёту і ўзняліся да новага свабоднага жыцця, укладаюць увесь агонь свайго сэрца ў будаўніцтва сацыялізма. Да творчага жыцця будаўнікоў сацыялістычнай бацькаўшчыны прышлі мільёны людзей, у мінулым асуджаныя на падвойны прыгнёт, галечу, голад і беспрацоўе. Яны сваімі рукамі ствараюць найвялікшыя каштоўнасці, ператвараючы культурнае і эканамічнае аблічча нацыянальных рэспублік і абласцей. Беларусы, украінцы, грузіны, казахі, узбекі, кіргізы і іншыя народы СССР па праву ганарацца дасканала абсталяванымі прамысловымі прадпрыемствамі, машынатрактарнымі станцыямі—дзецішчамі першай і другой сталінскіх пяцігодак.

У прамове на нарадзе перадавых калгаснікаў і калгасніц Таджыкістана і Туркменістана, гаворачы аб дружбе народаў СССР, таварыш Сталін сказаў:

> «Дружба паміж народамі СССР—вялікае і сур'ёзнае заваяванне, бо пакуль гэта дружба існуе, народы нашай краіны будуць свабодны і непераможны. Ніхто не страшны нам, ні ўнутраныя, ні знешнія ворагі, пакуль гэта дружба жыве і здраўствуе».

Роўная сярод роўных Савецкая Беларусь ззяе ў яркім сузор'і нацыянальнасцей вялікай краіны сацыялізма. На граніцы Савецкага Саюза з капіталістычным захадам беларускі народ будуе сваю сацыялістычную прамысловасць і сельскую гаспадарку, зорка сочыць за заходнімі граніцамі сваёй радзімы і ўмацоўвае яе магутнасць.

Вялікі поспехі савецкага народа. Але яны былі-б яшчэ большымі, калі-б не подлая шкодніцкая, шпіёнская работа ворагаў народа—гнусных трацкісцка-бухарынскіх і нацыяналістычных агентаў фашызма. Фашысцкія захватчыкі разлічвалі пры дапамозе сваёй трацкісцка-бухарынскай агентуры ўзарваць наш тыл, заліць крывёю савецкіх людзей нашу краіну, аднавіць у ёй уладу капіталістаў і памешчыкаў, ператварыць вялікі свабодны народ у рабоў капіталізма. Не вышла і ніколі не выйдзе! Слаўная савецкая разведка, узначальваемая лепшым сталінскім вучнем Н. І. Ежовым, пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна і пры поўным падтрыманні ўсяго савецкага народа разграміла і знішчыла асноўныя асіныя гнёзды трацкісцка-бухарынскіх нацыяналістычных агентаў фашызма. Гэта перамога вялікага савецкага народа роўна выйгрышу вялікай бойкі з фашызмам.

Савецкі народ яшчэ вышэй узняў сваю рэвалюцыйную пільнасць, узрасла яго нянавісць да подлых ворагаў народа. Савецкі народ памятае неаднаразовыя ўказанні вялікіх геніяў рэвалюцыі Леніна—Сталіна аб капіталістычным акружэнні, указанні аб тым, што канчатковая перамога сацыялізма ў нашай краіне, поўная гарантыя ад інтэрвенцыі і рэстаўрацыі капіталізма не мыслімы без дапамогі пралетарыяў іншых краін, без аб'яднаных намаганняў савецкага народа і пралетарыяў капіталістычных краін. Ва ўмовах, калі фашызм прабуе патапіць у

крыві свабоду і незалежнасць кітайскага і іспанскага народаў і шалёна рыхтуецца да нападу на краіну соцыялізма, совецкі народ цвёрда памятае ўказанні таварыша Сталіна аб тым, што: «Трэба ўзмацніць і ўмацаваць інтэрнацыянальныя пролетарскія сувязі рабочага класа СССР з рабочым класам буржуазных краін; трэба арганізаваць палітычную дапамогу рабочага класа буржуазных краін рабочаму класу нашай краіны на выпадак ваеннага нападу на нашу краіну, роўна як арганізаваць усялякую дапамогу рабочага класа нашай краіны рабочаму класу буржуазных краін; трэба ўсямерна ўзмацніць і ўмацаваць нашу Чырвоную армію, Чырвоны флот, Чырвоную авіяцыю, Асоавіяхім. Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая «выпадковасць» і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку».

Гэта ўказанне любімага правадыра працоўных таварыша Сталіна з'яўляецца праграмай барацьбы за ўмацаванне інтэрнацыянальных пролетарскіх сувязей, за далейшае ўмацаванне магутнасці Совецкага Саюза.

Працоўныя Совецкай Беларусі, як і працоўныя іншых брацкіх саюзных і аўтаномных рэспублік, уступілі ў выбарчую кампанію ў вярхоўны орган улады сваёй рэспублікі. З агромнай радасцю і лікаваннем сустрэў беларускі народ пастанову прэзідыума ЦВК БССР аб пачатку выбарчай кампаніі ў Вярхоўны Совет БССР—26 чэрвеня. Гэты дзень з'явіцца сапраўды выдатным днём у гісторыі беларускага народа.

Вялікі і неймаверна цяжкі шлях прайшоў беларускі народ. Яго гісторыя да Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі— гэта суцэльны ланцуг ізуверскага капіталістычнага, памешчыцкага рабства, нечуванага палітычнага і нацыянальнага прыгнёту. Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя паклала канец гэтаму шматвяковаму прыгнёту. Кіруемы партыяй Леніна—Сталіна, з брацкай дапамогай вялікага рускага народа—народ Беларусі, звергнуўшы сваіх эксплаатататараў, выкінуў вон нямецкіх і белапольскіх захватчыкаў і навек ацвердзіў на сваёй роднай зямлі непераможны чырвоны сцяг Советаў, сцяг Леніна—Сталіна. Беларускі народ, які ўпершыню пасля Вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі атрымаў сваю дзяржаўнасць, цяпер, як роўны сярод роўных, пад сцягам Сталінскай Канстытуцыі ідзе на выбары вярхоўнага органа ўлады сваёй рэспублікі.

12 снежня 1937 г., у дзень выбараў у Вярхоўны Совет СССР, беларускі народ, як і ўсе народы Совецкага Саюза, дэманстраваў сваю згуртаванасць вакол партыі Леніна—Сталіна, сваю адданасць арганізатару грандыёзных перамог соцыялізма—вялікаму Сталіну.

97,4 проц. выбаршчыкаў Совецкай Беларусі галасавала за сталінскі блок комуністаў і беспартыйных. Не можа быць ніякага сумнення, што 26 чэрвеня—у дзень выбараў у Вярхоўны Совет БССР— беларускі народ яшчэ раз дакажа сваю адданасць справе соцыялізма, вялікаму інтэрнацыянальнаму сцягу Маркса—Энгельса—Леніна— Сталіна.

Задача партыйных арганізацый—па-большэвіцку кіраваць выбарчай кампаніяй, з дня ў дзень мацаваць саюз комуністаў і беспартыйных. Сталінскі блок комуністаў і беспартыйных забяспечыць абранне ў вярхоўны орган улады Беларускай ССР лепшых сыноў народа, да канца адданых сваёй радзіме, партыі большэвікоў.

Радасна будзе святкаваць совецкі народ свята 1-е мая. Першамайскія дэманстрацыі ва ўсіх кутках неабсяжнай краіны со...



пройдуць пад знакам далейшага ўмацавання інтэрнацыянальных сувязей рабочага класа СССР з рабочым класам капіталістычных краін. На сцягах дэманстрантаў ярка будуць праменіцца словы любві і сімпатыі да ўсіх тых, хто аддана змагаецца супроць капіталізма, супроць фашызма. Магутнымі першамайскімі дэманстрацыямі савецкі народ яшчэ і яшчэ раз выразіць сваё несакрушальнае маральнае і палітычнае адзінства, сваю бязмежную любоў да партыі Леніна—Сталіна, пад кіраўніцтвам якой заваяваны гістарычныя перамогі соцыялізма.

У дзень Першага мая народы Совецкага Саюза будуць дэманстраваць сваю нянавісць і прэзрэнне да ворагаў народа, сваю гатоўнасць задушыць усякую гадзіну, якая спрабуе напасці на Совецкі Саюз.

У дзень Першага мая ярка заззяюць вогненныя словы на баявых чырвоных сцягах дэманстрацыі.

**Няхай жыве Ўсесаюзная Комуністычная партыя большэвікоў— перадавы атрад працоўных СССР!**

**Няхай жыве Комуністычны Інтэрнацыянал—кіраўнік і арганізатар барацьбы супроць вайны, фашызма і капіталізма! Няхай жыве комунізм!**

**Няхай жыве вялікі, непераможны сцяг Маркса—Энгельса—Леніна! Няхай жыве ленінізм!**

**Няхай жыве вялікі правадыр рабочага класа ўсяго свету—таварыш СТАЛІН!**

---

# Аб забароне выключэння калгаснікаў з калгасаў

*Пастанова Совета Народных Камісараў Саюза ССР і Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)*

СНК СССР і ЦК ВКП(б) неаднаразова папярэджвалі мясцовыя партыйныя і совецкія арганізацыі аб шкодзе агульнага выключэння калгаснікаў з калгасаў. СНК СССР і ЦК ВКП(б) неаднаразова ўказвалі, што такая практыка з'яўляецца проціпартыйнай і процідзяржаўнай. Не гледзячы на гэта, ва многіх абласцях, краях і рэспубліках маюць месца факты неабгрунтаванага выключэння калгаснікаў з калгасаў. Асабліва шырокія размеры набылі перагібы і скажэнні пры выключэнні калгаснікаў з калгасаў у Свердлоўскай, Новасібірскай, Смаленскай, Калінінскай, Каменец-Падольскай, Жытомірскай абласцях, у Алтайскім, Краснадарскім, Орджанікідзеўскім краях і Казахскай ССР. СНК СССР і ЦК ВКП(б) падкрэсліваюць, што шкодная практыка выключэння з калгасаў мае месца і ў іншых абласцях.

Практыка паказвае, што праўленні і старшыні калгасаў замест таго, каб захоўваць статут сельгасарцелі і не дапускаць сваявольства ў адносінах да калгаснікаў, самі з'яўляюцца носьбітамі незаконных дзеянняў. Праверкай установлена, што пераважная большасць выключэнняў з калгасаў з'яўляецца зусім неабгрунтаванай і праводзіцца без якіх-небудзь сур'ёзных повадаў, па самых малаважных матывах. Найбольш распаўсюджаным відам незаконных выключэнняў з калгасаў з'яўляецца выключэнне з калгасаў членаў сямей, бацькі якіх пайшлі на часовую або пастаянную работу ў дзяржаўныя прадпрыемствы. Такое выключэнне з калгасаў па прызнаку сямейных сувязей у корані супярэчыць статуту сельскагаспадарчай арцелі.

Статут сельскагаспадарчай арцелі раней, чым дазволіць выключэнне з калгаса, прадугледжвае рад прамежных папераджальных мер выхаваўчага характару ў адносінах асобных калгаснікаў, парушаючых унутраны распарадак калгаса, напрыклад, абавязаць парушальніка перарабіць нядобраякасную работу без налічэння працадзён. Папярэджанне, вымова, ганьбаванне на агульным сходзе, занясенне на чорную дошку, штраф у размеры да 5 працадзён, перамяшчэнне на ніжэйшую работу, часовае адхіленне ад работы. Але праўленні калгасаў чамусьці не скарыстоўваюць гэтых мер і скрозь і ўсюды выключаюць калгаснікаў з калгасаў за простае парушэнне правіл унутранага распарадку ў калгасе.

Калі па статуту сельгасарцелі выключэнне з арцелі можа быць праведзена толькі па рашэнню агульнага схода членаў арцелі і пры тым пры абавязковым удзеле не менш ⅔ усіх членаў арцелі, то на справе гэта статутнае правіла скрозь і ўсюды парушаецца і нярэдкі выпадкі, калі выключэнне праводзіцца праўленнем калгаса і нават адным старшынёй калгаса.

Кіруючыя партыйныя і совецкія работнікі раёнаў замест таго, каб стрымліваць і выпраўляць падобную шкодную практыку выклю-

чэння з калгасаў, не прымаюць рашучых мер да прысячэння сваявольства, дапускаемага ў адносінах да калгаснікаў, бяздушна-бюракратычна адносяцца да лёсу калгаснікаў і іх апеляцый на незаконныя выключэнні з калгасаў, пакідаюць беспакаранымі асоб, праявіўшых сваявольства ў адносінах да калгаснікаў і зводзяць нярэдка ўсю сваю ролю да простага запісу фактаў выключэння калгаснікаў з калгасаў, да перадачы вышэйстаячым савецкім органам статыстычнай справаздачнасці па гэтых пытаннях. Больш таго, гэтыя работнікі самі часта штурхаюць старшынь і праўленні калгасаў на шлях незаконных выключэнняў калгаснікаў з калгасаў пад сцягам ачышчэння калгасаў ад сацыяльна-чуждых і класава-варожых элементаў.

СНК СССР і ЦК ВКП(б) лічаць, што ў аснове такой практыкі ляжаць фармальныя і бяздушна-бюракратычныя адносіны многіх кіруючых работнікаў калгасаў, а таксама партыйных і савецкіх кіраўнікоў раёнаў да лёсу жывых людзей, да лёсу асобных калгаснікаў. Такія кіраўнікі не разумеюць, што выключыць калгасніка з калгаса, значыць адняць у яго крыніцу існавання, значыць не толькі аганьбіць яго ў грамадскай думцы, але і асудзіць яго на галоднае існаванне. Яны не разумеюць, што выключэнне з калгаса штучна стварае незадаволенне і азлабленне ў выключаемых з калгасаў, параджае ў многіх калгаснікаў няўпэўненасць у іх становішчы ў калгасе, што не можа не адыгрываць на руку ворагам народа.

СНК СССР і ЦК ВКП(б) пастанаўляюць:

1. Забараніць правядзенне чысткі калгасаў пад якім-бы там ні было прадлогам.

2. Забараніць выключэнне з калгасаў членаў сямей калгаснікаў па матывах уходу аднаго з членаў сямей на часовую або пастаянную работу ў дзяржаўныя прадпрыемствы.

3. Забараніць выключэнне з калгасаў за парушэнне правіл унутранага распарадку.

4. Устанавіць надалей, што выключэнне калгаснікаў з калгасаў можа прымяняцца толькі, як крайняя мера, у адносінах членаў калгаса, яўна непапраўных, падрываючых і дэзарганізуючых калгас і толькі пасля таго, як вычарпаны ўсе прадугледжаныя статутам сельгасарцелі меры папераджальнага выхаваўчага характару і толькі са строгім захаваннем устаноўленага статутам сельгасарцелі парадку выключэння, г. зн. па рашэнню агульнага схода членаў арцелі, на якім прысутнічае не менш ⅔ агульнага ліку членаў арцелі.

Аднак і ў гэтых выпадках павінны быць забяспечаны самыя ўважлівыя адносіны да апеляцый выключаных з калгасаў.

5. Устанавіць, што рашэнне агульнага схода членаў калгаса аб выключэнні калгасніка з калгаса не ўступае ў сілу і калгаснік захоўвае поўнасцю ўсе правы члена калгаса надалей да канчатковага разгляду гэтага рашэння райвыканкомам

6. Папярэдзіць старшынь і членаў праўлення калгасаў, а таксама раённых партыйных і савецкіх работнікаў, што за парушэнне гэтай пастановы вінаватыя будуць прыцягвацца да суда, як крымінальныя злачынцы.

*Старшыня Савета Народных Камісараў*
*Саюза ССР В. МОЛАТАЎ.*

*Сакратар Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) І. СТАЛІН.*

19 красавіка, 1938 г.

# Аб няправільным размеркаванні даходаў у калгасах

*Пастанова Совета Народных Камісараў Саюза ССР і Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)*

Соўнарком СССР і ЦК ВКП(б) адзначаюць, што ў рэзультаце поўнай перамогі калгаснага ладу і павышэння ўраджайнасці калгасных палёў, значна ўзраслі як агульны даход у калгасах, так і даходы калгаснікаў па працаднях.

У той-жа час Соўнарком СССР і ЦК ВКП(б) устанаўляюць на аснове шматлікіх фактаў, што ў калгасах раду абласцей, краёў і рэспублік грашовыя даходы размяркоўваюцца няправільна, у прамым супярэчанні з палітыкай урада і партыі і інтарэсамі калгаснікаў. Праўленні калгасаў, пры прамым патуранні з боку партыйных і совецкіх арганізацый раёнаў, абласцей, краёў і рэспублік, асноўную долю даходаў затрачваюць на пабудову грамадскіх будоўляў у калгасах, на вытворчыя і адміністрацыйныя выдаткі, у выніку чаго доля грашовых даходаў, размяркоўваемых на працадні калгаснікаў, аказваецца заніжанай, што часта штурхае калгаснікаў на пошукі грашовых заработкаў па-за калгасам, а самі калгасы нярэдка церпяць ад недахопу рабочай сілы.

Напрыклад, у Татарскай АССР па 172 калгасах на працадні ў сярэднім размеркавана толькі 28 проц. даходаў; у Горкаўскай вобласці па 1279 калгасах размеркавана на працадні толькі 33 проц. грашовых даходаў калгасаў. У некаторых абласцях і рэспубліках (Растоўская, Варонежская і Разанская вобласці, Казахская ССР і інш.) ёсць калгасы, у якіх грашовыя даходы ў 1937 годзе зусім не размяркоўваліся па працаднях.

Соўнарком СССР і ЦК ВКП(б) маюць значную колькасць фактаў аб аналагічным становішчы спраў і па цэламу раду іншых абласцей, краёў і рэспублік.

Замест пастаянных клопатаў аб павышэнні працадня калгаснікам і правільным спалучэнні асабістых інтарэсаў калгаснікаў з грамадскімі інтарэсамі ў калгасе, праўленні калгасаў захапіліся капітальным будаўніцтвам, празмернымі вытворчымі выдаткамі і затратамі на адміністрацыйна-гаспадарчае кіраванне ў калгасах. Доля адлічэнняў у непадзельныя фонды, затраты на адміністрацыйна-гаспадарчыя патрэбы і выдаткі на культурныя патрэбы не толькі не зменшыліся, а наадварот, значна перавышаюць устаноўленыя статутам сельскагаспадарчай арцелі нормы.

Статут сельскагаспадарчай арцелі патрабуе, каб праўленні калгасаў выдаткоўвалі сродкі толькі ў тых размерах і па тых артыкулах, якія прадугледжаны зацверджаным агульным сходам калгасні-

каў каштарысам. На практыцы-ж многія праўленні калгасаў, па-першае, самі каштарысы складаюць з завышанымі расходамі, па-другое, зусім не лічацца з ужо зацверджаным каштарысам, не пытаючы агульны сход калгаснікаў, самавольна перасоўваюць сродкі з аднаго артыкула ў другі і выдаткоўваюць сродкі без учоту выканання плана па даходу. Такія старшыні калгасаў і праўленні калгасаў забываюць, што яны не маюць права самастойна змяняць зацверджаны каштарыс без згоды калгаснікаў, праводзіць тыя ці іншыя выдаткі, забываюць, што яны з'яўляюцца людзьмі—цалкам падсправаздачнымі агульнаму сходу калгаса. А рэвізійныя камісіі, як правіла, бяздзейнічаюць або ператвараюцца ў падсобны апарат праўлення для вынясення фармальнага заключэння па справаздачы к канцу года.

Статут сельскагаспадарчай арцелі патрабуе, каб усе работы ў калгасах выконваліся членамі калгаса і толькі ў асоба выключных выпадках дапускаўся часовы наём рабочай сілы. На справе-ж ёсць нямала фактаў, калі ў выніку дрэннай арганізацыі працы, праўленні калгасаў затрачваюць значныя сродкі грашыма і натурай на наём рабочай сілы звонку, што прыводзіць да разбазарвання калгасных сродкаў і зніжэння калгасных даходаў.

Замест таго, каб клапатліва адносіцца да правільнага выкарыстоўвання, хавання і рэалізацыі атрымліваемай у калгасе прадукцыі для павышэння грашовых даходаў калгаса, нярэдка праўленнямі некаторых калгасаў на працягу ўсяго года праводзіцца асуджаная партыяй і ўрадам практыка растранжырвання калгаснай прадукцыі на выдачу як унутры калгаса, так і па-за калгасам па нізкіх цэнах або зусім дарэмна. Хаванне прадукцыі пастаўлена неахайна, што выклікае масавае псаванне прадуктаў, а, як агульны рэзультат,—на працадні ў такіх калгасах грашовая выдача калгаснікам аказваецца нізкай.

Кіраўнікі абласных, краявых, рэспубліканскіх і раённых партыйных і совецкіх органаў, замест таго, каб прысячы парушэнне статута сельскагаспадарчай арцелі і ўшчамленне асабістых інтарэсаў калгаснікаў па сутнасці справы патакалі гэтай процікалгаснай практыцы.

Партыйныя і совецкія работнікі раёнаў, абласцей, краёў і рэспублік не разумеюць самі і не растлумачваюць калгасам таго, што значным ростам даходаў у калгасах і ўмацаваннем іх грамадскіх фондаў у выглядзе будоўляў, жывёлы, машын (пры абслугоўванні калгасаў машынамі МТС), створана ўжо поўная магчымасць к таму, каб скараціць адлічэнні з даходаў калгасаў у іх грамадскія фонды, на капітальныя і вытворчыя затраты і большую частку калгасных грашовых даходаў размяркоўваць на працадні.

Партыйныя і совецкія кіраўнікі раёнаў, абласцей і рэспублік забываюць, што такая практыка бесклапотных адносін да задачы павышэння працадня, да фактаў растранжырвання і раскрадання калгасных сродкаў, аб'ектыўна ёсць практыка процікалгасная і шкодніцкая.

Нашы партыйныя і совецкія кіраўнікі абавязаны памятаць, што ў радзе месц на штучнае раздуванне вытворчых і капітальных затрат у калгасах і заніжэнне грашовых даходаў, размяркоўваемых па працаднях, свядома штурхалі сядзеўшыя ў зямельных і іншых органах ворагі народа ў правакацыйных мэтах, каб падарваць калгасы.

Совет Народных Камісараў СССР і Цэнтральны Камітэт ВКП(б) пастанаўляюць:

1. Асудзіць практыку бесклапотных адносін да працадня калгасні-

каў і растранжырвання калгасных даходаў на празмерныя капітальныя, вытворчыя і адміністрацыйна-гаспадарчыя выдаткі, як антыкалгасную. Абавязаць абкомы, крайкомы і ЦК нацкомпартый на справе рашуча пакончыць з гэтай практыкай.

2. Адмяніць існуючы парадак размеркавання грашовых даходаў арцелі, прадугледжаны ў статуце сельскагаспадарчай арцелі, устанавіўшы надалей, што арцель размяркоўвае паміж калгаснікамі на працадні не менш 60—70 проц. усіх грашовых даходаў арцелі.

3. Устанавіць, што адлічэнні на капітальныя затраты не могуць перавышаць 10 процантаў грашовых даходаў, прычым сродкі на капітальныя затраты ў бягучым годзе адлічваюцца з даходаў прэйшоўшага года.

4. Устанавіць, што з зацверджанага агульным сходам калгаснікаў гадавога расходнага каштарыса на вытворчыя патрэбы калгаса, праўленне да канчатковага высвятлення відаў на ўраджай можа выдаткоўваць не больш 70 проц. прадугледжаных каштарысам расходаў. Астатнія 30 проц. астаюцца ў рэзерве і выдаткоўваюцца толькі пасля канчатковага высвятлення відаў на ўраджай і пасля рашэння агульнага схода калгаснікаў.

У адпаведнасці з гэтым змяніць артыкул 12 статута сельскагаспадарчай арцелі і падаць яго ў наступным выглядзе:

«12. **З атрымліваемых арцеллю грашовых даходаў арцель:**

а) уносіць дзяржаве ўстаноўленыя законам падаткі і праводзіць страхавыя плацяжы;

б) размяркоўвае не менш 60—70 проц. грашовых даходаў арцелі паміж членамі арцелі па працаднях;

в) праводзіць неабходныя расходы на бягучыя вытворчыя патрэбы, як-та: бягучы рамонт сельскагаспадарчых прылад, лячэнне жывёлы, барацьба са шкоднікамі і т. п.;

г) пакрывае адміністрацыйна-гаспадарчыя расходы арцелі, выдзяляючы на гэта не больш двух процантаў грашовых даходаў;

д) выдзяляе сродкі на культурныя патрэбы, як-та: падрыхтоўка брыгадзіраў і іншых кадраў, арганізацыя ясляў, устройства радыё;

е) папаўняе недзялімы фонд арцелі для ўтварэння выдаткаў у надыходзячым годзе на пакупку сельскагаспадарчых прылад і жывёлы, аплату будаўнічых матэрыялаў, расплаты з рабочымі, якія прыцягваюцца на будаўніцтва з боку, на чарговы ўзнос сельскагаспадарчаму банку па доўгатэрміновых крэдытах, прычым адлічэнне на папаўненне недзялімых фондаў праводзіцца ў размеры не звыш 10 процантаў грашовых даходаў арцелі.

Усе даходныя паступленні абавязкова запісваюцца ў прыход арцелі не пазней дня іх паступлення.

Як на даходныя паступленні, так і на выдаткаванне сродкаў праўленнем арцелі складаецца гадавы каштарыс, які ўступае ў сілу толькі пасля зацверджання агульным сходам членаў арцелі.

Выдаткаванне сродкаў праўленне можа праводзіць толькі па тых артыкулах, якія прадугледжаны каштарысам,—самавольная перасоўка сродкаў з артыкула ў артыкул расходнага каштарысу праўленнем не дапускаецца і для перасоўкі сродкаў з артыкула ў артыкул праўленне абавязана запытаць дазвол агульнага схода.

З зацверджанага агульным сходам калгаснікаў гадавога расходнага каштарыса на вытворчыя патрэбы калгаса, праўленне да канчатковага высвятлення відаў на ўраджай можа выдаткоўваць не больш 70 проц. прадугледжаных каштарысам расходаў. Астатнія 30 процантаў астаюцца ў рэзерве і выдаткоўваюцца толькі пасля канчатковага высвятлення відаў на ўраджай і пасля рашэння агульнага схода калгаснікаў.

Свае свабодныя грашовыя сродкі арцель хавае на сваім бягучым рахунку ў банку або ў ашчадкасе. Спісанне з бягучага рахунку праводзіцца толькі па загаду праўлення арцелі, які сапраўдны пры наяўнасці подпісу старшыні і рахункавода арцелі».

5. Устанавіць парадак, пры якім каштарысы кожнага калгаса пасля іх зацверджання агульным сходам уносяцца на разгляд прэзідыума раённага выканаўчага камітэта, які разглядае ўнесены каштарыс у прысутнасці старшыні праўлення і старшыні рэвізійнай камісіі калгаса.

6. Устанавіць, што наём вольнанаёмнай рабочай сілы ў калгасе ў выключных выпадках, як гэта прадугледжана статутам сельскагаспадарчай арцелі, можа быць праведзен толькі са згоды агульнага схода калгаснікаў. Абавязаць сакратароў райкомаў ВКП(б) і старшынь райвыканкомаў не дапускаць злоўжыванняў і парушэнняў пункта 13 статута сельскагаспадарчай арцелі, які забараняе карыстацца наёмнай працай з некалгаснікаў, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных даным артыкулам.

7. Абавязаць абкомы, крайкомы і ЦК нацкомпартый аднавіць работу рэвізійных камісій ва ўсіх калгасах з тым, каб рэвізійныя камісіі праводзілі сваю рэвізійную работу на працягу ўсяго года, як гэтага патрабуе статут, а не абмяжоўваліся дачай фармальнага заключэння па справаздачы праўлення толькі ў канцы года.

8. Устанавіць, што аддзяленні дзяржаўнага і сельскагаспадарчага банкаў выдаюць калгасам крэдыты толькі ў тым выпадку, калі ёсць на гэта рашэнне агульнага схода калгаснікаў.

9. Абавязаць абкомы, крайкомы, ЦК нацкомпартый, абласныя, краявыя выканкомы і соўнаркомы рэспублік, а таксама пракурораў прыцягваць да крымінальнай адказнасці асоб, віноўных у незаконным выдаткоўванні калгасных сродкаў, якія ідуць у парушэнне статута сельскагаспадарчай арцелі і інтарэсаў калгаснікаў, разглядаючы гэтыя дзеянні, як здраду справе калгасаў і дапамогу ворагам народа.

*Старшыня Совета Народных Камісараў*
*Саюза ССР В. МОЛАТАЎ.*

*Сакратар Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) І. СТАЛІН.*

19 красавіка, 1938 г.

# Аб падатках і іншых абавязацельствах у адносінах аднаасобных гаспадарак

*Пастанова Совета Народных Камісараў Саюза ССР і Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)*

На падставе шматлікіх фактаў СНК СССР і ЦК ВКП(б) устанаўліваюць, што партыйнымі і совецкімі органамі ў рэспубліках, краях і абласцях парушаецца палітыка і пастановы ўрада і партыі ў адносінах аднаасобнікаў. Совецкімі законамі ўстаноўлены дзяржаўныя абавязацельствы для аднаасобных гаспадарак па падатках, зернапастаўках і мясапастаўках. Аднак, замест таго, каб забяспечваць выкананне аднаасобнымі гаспадаркамі дзяржаўных абавязацельстваў, устаноўленых законам,—мясцовыя партыйныя і совецкія органы дапускаюць становішча, пры якім аднаасобнікі фактычна ўскальзаюць ад выканання дзяржаўных абавязацельстваў. Па раду абласцей і краёў аднаасобнікі зусім не прыцягваюцца да мясапаставак, выкананне-ж параённых заданняў па мясапастаўках ускладаецца на калгасы. Такім чынам, совецкія і партыйныя арганізацыі фактычна ставяць аднаасобныя гаспадаркі ў пераважнае становішча перад калгасамі, што, ў корані супярэчыць існуючым законам.

Коні ў аднаасобных гаспадарках, не абкладаемыя падаткам, выкарыстоўваюцца аднаасобнікамі, як правіла, не для правядзення сельскагаспадарчых работ у сваёй гаспадарцы, а як сродак спекуляцыі і нажывы.

Праўленні калгасаў пры патуранні раённых совецкіх і партыйных органаў, парушаючы статут сельгасарцелі, скрозь і ўсюды прыбягаюць да найму аднаасобнікаў для работы ў калгасах, даючы ім больш высокую аплату, чым прыходзіцца калгаснікам на працадні, што не можа не падрываць дысцыпліну ў калгасах.

У выніку такіх няправільных адносін да аднаасобных гаспадарак наносіцца прамая страта справе далейшага ўцягнення аднаасобных гаспадарак у калгасы.

Усё гэта сведчыць аб наяўнасці буйных памылак з боку совецкіх і партыйных органаў рэспублік, краёў і абласцей у адносінах да аднаасобніка.

СНК СССР і ЦК ВКП(б) **пастанаўляюць:**

1. Абавязаць ЦК нацкампартый, крайкомы і абкомы, СНК рэспублік, аблвыканкомы і крайвыканкомы пакончыць з процідзяржаўнай і процікалгаснай практыкай патурання ў адносінах аднаасобніка і строга сачыць за дакладным выкананнем аднаасобнымі гаспадаркамі ўсіх дзяржаўных абавязацельстваў па падатках, зернапастаўках і мясапастаўках і т. д.

*199. ОКЦЯБРСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Глуск).*

**Сельсоветы:** Каткаўскі, Слаўкавіцкі, Ляскавіцкі, Клетнянскі, Парэцкі, Окцябрскі і Гацкі Глускага раёна.

*200. ОЗЕМЛЯНСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—в. Оземля).*

**Сельсоветы:** Оземлянскі, Бярозаўскі, Перэкальскі, Казловіцкі Глускага раёна, Коўчыцкі, Пратасаўскі, Раманавіцкі, Любаньскі і Гарохавіцкі Парыцкага раёна.

*201. ПАРЫЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Парычы).*

**Парыцкі местачковы совет і сельсоветы:** Казлоўскі, Дабравольшчанскі, Шчэдрынскі, Шчэдрынскі нацсовет, Стэпскі і Каралева-Слабодскі Парыцкага раёна.

*202. ШАЦІЛАЎСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Парычы).*

**Сельсоветы:** Шацілаўскі, Чыркавіцкі, Дуброўскі, Ракшынскі і Чэрнінскі Парыцкага раёна.

*203. ДАМАНАВІЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—в. Даманавічы).*

**Сельсоветы:** Даманавіцкі, Новасёлкаўскі, Ліпаўскі, Асташкавіцкі Даманавіцкага раёна і Баравікоўскі Парыцкага раёна.

*204. АЗАРЫЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Азарычы).*

**Сельсоветы:** Азарыцкі, Валасовіцкі, Давыдаўскі, Халмянскі, Кабыльшчанскі, Круковіцкі, Хоміцкі і Мартынавіцкі Даманавіцкага раёна.

*205. НОВАСЕЛЬСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Капаткевічы).*

**Сельсоветы:** Колкаўскі, Веліка-Лучыцкі, Новасёлкаўскі, Кашэвіцкі Капаткевіцкага раёна, Ламавіцкі, Савіцкі і Капліцкі Даманавіцкага раёна.

*206. КАПАТКЕВІЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Капаткевічы).*

**Капаткевіцкі местачковы совет і сельсоветы:** Капаткевіцкі, Пцічскі, Бяседскі, Цerabоўскі і Чэлюшчавіцкі Капаткевіцкага раёна.

*207. КАМАРОВІЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—в. Камаровічы).*

**Сельсоветы:** Чырвонаслабодскі, Камаровіцкі, Бобрыцкі, Нова-Галоўчыцкі Капаткевіцкага раёна, Грабоўскі Петрыкаўскага раёна, Дзяковіцкі, Ветчынскі і Ляхавіцкі Жыткавіцкага раёна.

*208. КАПЦЭВІЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—п. Капцэвічы).*

**Сельсоветы:** Капцэвіцкі, Брынёўскі, Ляскавіцкі, Макарыцкі, Курычыцкі і Бабуніцкі Петрыкаўскага раёна.

*209. ПЕТРЫКАЎСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Петрыкаў).*

**Горад Петрыкаў і сельсоветы:** Скрыгалаўскі, Белкаўскі, Сметаніцкі і Канковіцкі Петрыкаўскага раёна.

*210. ЖЫТКАВІЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Жыткавічы).*

**Жыткавіцкі месгачковы совет і сельсоветы:** Юркевіцкі, Браніслаўскі, Людзеневіцкі, Руднянскі, Белеўскі і Жыткавіцкі Жыткавіцкага раёна.

*211. ТУРАЎСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Тураў).*

**Сельсоветы:** Азеранскі, Пераpоўскі, Верасніцкі, Запясоцкі, Рычоўскі і Тураўскі Тураўскага раёна.

*212. ЛЕЛЬЧЫЦКАЯ СЕЛЬСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Лельчыцы).*

**Сельсоветы:** Лельчыцкі, Бараўскі, Мілашэвіцкі, Глушкавіцкі, Сімоніцкі Лельчыцкага раёна, Дзяржынскі, Букчанскі і Тонежскі Тураўскага раёна.

*213. ЛЕЛЬЧЫЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Лельчыцы).*

**Лельчыцкі местачковы совет і сельсоветы:** Стадоліцкі, Грэбенеўскі Сініцка-Польскі, Картыніцкі Лельчыцкага раёна, Стара-Высоцкі, Кармянскі, Скараднянскі і Зосінцэўскі Ельскага раёна.

*214. БУЙНОВІЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—в. Буйновічы).*

**Сельсоветы:** Буйновіцкі, Замошскі, Астрожанскі Лельчыцкага раёна, Махновіцкі Ельскага раёна, Снядзінскі, Глініцкі і Асавецкі Петрыкаўскага раёна.

*215. ЕЛЬСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Ельск).*

**Сельсоветы:** Ельскі, Кузьміцкі, Роза-Люксембургскі, Мелешкаўскі. Качышчанскі, Рэмязоўскі, Багуціцкі і Санюкоўскі Ельскага раёна.

*216. МОЗЫРСКАЯ СЕЛЬСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Мозыр).*

**Сельсоветы:** Бібікоўскі, Юравіцкі, Бярозаўскі, Крышыцкі, Гулевіцкі Малааўцюкоўскі і Вялікааўцюкоўскі Мозырскага раёна.

*217. СЛАБАДСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Мозыр).*

**Сельсоветы:** Казіміраўскі, Слабадскі, Клінскі, Прудокскі, Каменскі Бабpоўскі, Бабраняцкі і Калінкавіцкі Мозырскага раёна.

*218. КАЛІНКАВІЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Калінкавічы).*

**Горад Калінкавічы і сельсоветы:** Якімавіцкі, Антонаўскі, Дудзіцкі Мозырскага раёна і Сухавіцкі Даманавіцкага раёна.

*219. МОЗЫРСКАЯ ГАРАДСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Мозыр).*

Горад Мозыр.

*220. ДУБРОЎСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—в. Васілевічы).*

**Сельсоветы:** Сведскі, Узнажскі, Дуброўскі, Какуевіцкі, Залатушскі, Зеляноцкі і Нахаўскі Васілевіцкага раёна.

*221. ВАСІЛЕВІЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—в. Васілевічы).*

**Сельсоветы:** Васілевіцкі, Бабініцкі, Ліскаўскі, Караваціцкі, Кабылеўскі, Маканавіцкі і Хатнянскі Васілевіцкага раёна.

*222. ХОЙНІЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Хойнікі).*

**Хойніцкі местачковы совет і сельсоветы:** Забалоцкі, Небытоўскі, Дварышчанскі, Алексіцкі, Загальскі і Барысаўшчанскі Хойніцкага раёна.

*223. ПАСЕЛІЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Хойнікі).*

**Сельсоветы:** Паселіцкі, Валокскі, Вяліка-Борскі, Корчаўскі, Малалушскі, Амелькаўскі Хойніцкага раёна і Мікуліцкі Брагінскага раёна.

*224. СТРЭЛІЧЭЎСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—в. Стрэлічаў).*

**Сельсоветы:** Стрэлічэўскі, Бабчынскі, Новасёлкаўскі, Тульговіцкі, Кажушкаўскі, Арэвіцкі, Рудакоўскі Хойніцкага раёна, Баршчоўскі і Радзінскі Камарынскага раёна.

*225. БРАГІНСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Брагін).*

**Брагінскі местачковы совет і сельсоветы:** Шкуратоўскі, Маложынскі, Малейкаўскі, Крыўчанскі, Лубяніцкі і Буркоўскі Брагінскага раёна.

*226. БРАГІНСКАЯ СЕЛЬСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Брагін).*

**Сельсоветы:** Астраглядаўскі, Глухавіцкі, Хракавіцкі, Савіцкі Выгрэбна-Слабодскі і Сперыжскі Брагінскага раёна.

*227. НАРАЎЛЯНСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Нароўля).*

**Нараўлянскі местачковы совет і сельсоветы:** Міхалкаўскі, Барбараўскі, Нараўлянскі, Галоўчыцкі і Дземідаўскі Нараўлянскага раёна.

*228. НАРАЎЛЯНСКАЯ СЕЛЬСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Нароўля).*

**Сельсоветы:** Вербавіцкі, Углоўскі, Акопскі, Бярозаўскі, Доўлядаўскі, Дзернавіцкі, Цешкаўскі, Хаткоўскі, Мохаедаўскі і Красноўскі Нараўлянскага раёна.

*229. КАМАРЫНСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Камарын).*

**Сельсоветы:** Ніжне-Жараўскі, Чыкаловіцкі, Асарэвіцкі, Гдзеніскі, Капоранскі, Калыбанскі, Новаіолчанскі, Лукаедаўскі, Верхне-Жараўскі, Піркаўскі, Крукоўскі, Камарынскі і Сцепанаўскі Камарынскага раёна.

## ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

*230. ЖУРАВІЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Журавічы).*

**Журавіцкі местачковы совет і сельсоветы:** Селецкі, Іскансні, Баханскі, В. Зімніцкі, Хатаўнянскі і Рэкцянскі Журавіцкага раёна.

*231. ДОЎСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—в. Доўск).*

**Сельсоветы:** Доўскі, Курганскі, Свержанскі, Званецкі, Балатнянскі і Абідавіцкі Журавіцкага раёна.

*232. КАРМЯНСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Карма).*

**Сельсоветы:** Вараноўскі, Струкачэўскі, Боравабудскі, Кароцькаўскі. Хізоўскі, Задубскі, Барсукоўскі і Куракоўшчынскі Кармянскага раёна.

*233. КАРМЯНСКА-ЛІТВІНАЎСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Карма).*

**Кармянскі местачковы совет і сельсоветы:** Курганіцкі, Бычанскі. Руднянскі, Літвінаўскі, Хлеўнянскі, Валынцаўскі і Струменскі Кармянскага раёна.

*234. РАГАЧОЎСКАЯ ГАРАДСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Рагачоў).*

**Горад Рагачоў і сельсоветы:** Збароўскі, Мадорскі і Кісценеўскі Рагачоўскага раёна.

*235. ГАРАДЗЕЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Гарадзец).*

**Сельсоветы:** Гарадзецкі, Вішанскі, Свяцкі, Сталпнянскі, Мала-Стрэлкаўскі, Гадзілавіцкі Рагачоўскага раёна і Майскі Жлобінскага раёна.

*236. ЦІХІНІЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Ціхінічы).*

**Сельсоветы:** Ціхініцкі, Крушынаўскі, Азеранскі, Запольскі, Старасельскі і Станькаўскі Рагачоўскага раёна.

*237. РАГАЧОЎСКАЯ СЕЛЬСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Рагачоў).*

**Сельсоветы:** Побалаўскі, Забалоцкі, Дварэцкі, Лучынскі Рагачоўскага раёна і Бабоўскі Жлобінскага раёна.

*238. ЖЛОБІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Жлобін.*

Горад Жлобін.

*239. ЖЛОБІНСКАЯ СЕЛЬСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Жлобін).*

**Сельсоветы:** Салонскі, Окцябрскі, Затонскі, Чэтвернянскі, Піравіцкі, Скепнянскі, Мормальскі і Стара-Руднянскі Жлобінскага раёна.

*240. СТРЭШЫНСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Стрэшын).*

**Стрэшынскі нацыянальны совет і сельсоветы:** Стрэшынскі, Верхне-Албянскі, Нова-Маркаўскі, Папаратнянскі, Добрагошчанскі і Кабанаўскі Жлобінскага раёна.

*241. ЧЫРВОНАБЯРЭЖСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Жлобін).*

**Сельсоветы:** Чырвонабярэжскі, Лукаўскі, Малевіцкі, Казіміраўскі, Кароткаўскі і Радужскі Жлобінскага раёна.

*242. ЧАЧЭРСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Чачэрск).*

**Чачэрскі местачковы совет і сельсоветы:** Меркулавіцкі, Глыбочыцкі Матневіцкі, Аторскі Чачэрскага раёна і Расохскі Кармянскага раёна.

*243. ЧАЧЭРСКАЯ СЕЛЬСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Чачэрск).*

**Сельсоветы:** Ленінскі, Нова-Зарэчанскі, Дудзіцкі, Халочскі, Наўхоўскі, Раўковіцкі, Нова-Малыніцкі, Залескі, Бяляеўскі, Закрынічны і Р. Барталамееўскі Чачэрскага раёна.

*244. СВЯЦІЛАВІЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—в. Свяцілавічы).*

**Сельсоветы:** Свяцілавіцкі, Жэлезніцкі, Неглюбскі, Мала Чемкаўскі, Янаўскі, Сталбунскі, Казацка-Балсунскі, Вяліка-Немкаўскі і Рудня-Сталбунскі Свяцілавіцкага раёна.

*245. ПАКОЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—в. Пакоць).*

**Сельсоветы:** Пакоцкі, Бабіцкі, Рэчкаўскі, Хізоўскі, Рудня-Шлягінскі, Акшынскі, Навілаўскі, Ухаўскі Свяцілавіцкага раёна, Нісімкавіцкі, Будзішчанскі і Палескі Чачэрскага раёна.

*246. ВЕТКАЎСКАЯ ГАРАДСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Ветка).*

**Горад Ветка і сельсоветы:** Бяседскі, Барталамееўскі, Сівенскі, Нова-Грамыцкі, Стара-Закружскі, Калінінскі і Тарасаўскі Веткаўскага раёна.

*247. ВЕТКАЎСКАЯ СЕЛЬСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Ветка).*

**Сельсоветы:** Данілавіцкі, Прыснянскі, Шарсцінскі, Радужскі, Хальчанскі, Старасельскі і Рудня-Споніцкі Веткаўскага раёна.

*248. БУДАКАШАЛЕЎСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА цэнтр—м. Буда-Кашалеўская).*

**Сельсоветы:** Будакашалеўскі, Патапаўскі, Кашалеўскі, Забабскі, Дуравіцкі, Губіцкі і Недайскі Будакашалеўскага раёна.

*249. БУДАКАШАЛЕЎСКАЯ СЕЛЬСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—Буда-Кашалеўская).*

**Сельсоветы:** Рагінскі, Забалоцкі, Ліпніцкі, Прыборскі, Буда-Люшаўскі і Любавінскі Будакашалеўскага раёна.

*250. УВАРАВІЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Уваравічы).*

**Сельсоветы:** Ліпскі, Сталінскі, Лапіцкі, Блюдніцкі, Рудзянецкі. Калінінскі, Аздзелінскі і Уваравіцкі Уваравіцкага раёна.

*251. УВАРАВІЦКАЯ СЕЛЬСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Уваравічы).*

**Сельсоветы:** Смычкоўскі, Чабатовіцкі, Крыўскі, Іволькі, Бацунскі. Цярэніцкі, Глазаўскі, Гусевіцкі, Пенчынскі і Стара-Беліцкі Уваравіцкага раёна.

*252. ЗАСПЕНСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—в. Заспа).*

**Сельсоветы:** Заспенскі, Холмецкі, Баршчоўскі, Артукоўскі, Сямёнаўскі і Свірыдавіцкі Рэчыцкага раёна.

*253. РОВЕНСКА-СЛАБОДСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—в. Ровена Слабада).*

**Сельсоветы:** Ровена-Слабодскі, Безуеўскі, Перасвятаўскі, Капораўскі, Дземехаўскі, Нова-Барсуцкі і Вышамірскі Рэчыцкага раёна.

*254. РЭЧЫЦКАЯ СЕЛЬСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Рэчыца).*

**Сельсоветы:** Горвальскі, Падалескі, Дзюрдзеўскі, Валадарскі. Чэрнянскі, Азершчынскі Рэчыцкага раёна, Бярвенаўскі, Борхаўскі і Целяшкоўскі Уваравіцкага раёна.

*255. РЭЧЫЦКАЯ ГАРАДСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Рэчыца, Дом саюзаў).*

**У граніцах**—рака Ведрыч, рака Днепр, вуліцы: Карла Маркса. Ленінская, Кулікоўская, Першая Палявая, Чапаева да чыгункі і Копаньскі Сельсовет Рэчыцкага раёна.

*256. РЭЧЫЦКАЯ ФАБРЫЧНА-ЗАВОДСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Рэчыца, Дом саюзаў).*

**У граніцах—па вуліцах:** Чапаева, Першая Палявая, Кулікоўская. Ленінская, Карла Маркса, рака Днепр і Жмуроўскі сельсовет Рэчыцкага раёна.

*257. УРЫЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Гомель).*

**Сельсоветы:** Касцюкоўскі, Яромінскі, Пакалюбіцкі, Прудкоўскі. Урыцкі, Прыборскі і Мільчанскі Гомельскага раёна.

*258. ГОМЕЛЬСКАЯ СЕЛЬСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр— г. Гомель).*

**Сельсоветы:** Ціценскі, Рамановіцкі, Давыдаўскі, Бабовіцкі, Жаробінскі, Міхалькоўскі, Дзятлавіцкі, Жарналінскі і Улукаўскі Гомельскага раёна.

*259. КЛІМАЎСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Гомель).*

**Сельсоветы:** Сеўрукоўскі, Клімаўскі, Зябраўскі, Прыбыткоўскі, Цярэшкавіцкі Гомельскага раёна, Насовіцкі, Церухскі і Пясочна-Будскі Церахоўскага раёна.

*260. ГОМЕЛЬСКАЯ СТАЛІНСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр— г. Гомель, камбінат «Спартак»).*

**У граніцах—па вуліцах:** Першая Красная, Савецкая, Піонерская рака Сож, пасёлкі «Касцюкоўка» і «Чырвоны Кастрычнік».

*261. ГОМЕЛЬСКАЯ ЛЕНІНСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр— г. Гомель, Аўтатэхнікум).*

**У граніцах—па вуліцах:** Першая Красная, лінія чыгункі, Вакзальная, Карповіча, Леніна, Совецкая, парк піянераў, Пушкінская, Парыжскай Комуны, Садовая, Арцёма, рака Сож, Піонерская, Совецкая, Першая Красная.

*262. ГОМЕЛЬСКАЯ ДЗЕРЖЫНСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр— г. Гомель, клуб фабрыкі «Праца»).*

**У граніцах—па вуліцах:** Арцёма, Садовая, Парыжскай Комуны, Пушкінская, парк піонераў, Леніна, Карповіча, Комсамольская, Каляева, Сялянская, Кааперацыйная, Інтэрнацыянальная, Комсамольская, рака Сож.

*263. ГОМЕЛЬСКАЯ КІРАЎСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр— г. Гомель, клуб швейнікаў).*

**У граніцах—па вуліцах:** лінія чыгункі, Сенная, Нова-Сталярная, Ветраная, Інтэрнацыянальная, 2-гі Інтэрнацыянальны зав., Спартак, Пролетарская, Комсамольская, Інтэрнацыянальная, Кааперацыйная, Сялянская, Каляева, Комсамольская, Карповіча, лінія чыгункі.

*264. ГОМЕЛЬСКАЯ КАГАНОВІЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр— г. Гомель, завод Сельмаш).*

**У граніцах—па вуліцах:** раён Сельмаша, Новікаўская рошча, лінія чыгункі, Ауэрбаха, Батарэйная, Одэская, Спартыўная, Ауэрбаха, Заходняя, Варашылава, Мільчанская.

*265. ГОМЕЛЬСКАЯ ВАРАШЫЛАЎСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—г. Гомель, база Белкаапсаюза).*

**У граніцах—па вуліцах:** Быхаўская, Слепнёва, Пескаватая, Льва Талстога, лінія чыгункі, Ауэрбаха, Батарэйная, Одэская, Спартыўная, Ауэрбаха, Заходняя, Варашылава, Мільчанская.

*266. ГОМЕЛЬСКАЯ ФРУНЗЕНСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр— г. Гомель, Навукова-даследчы інстытут).*

**У граніцах—па вуліцах:** Быхаўская, Слепнёва, Пескаватая, Льва Талстога, лінія чыгункі, Сенная, Нова-Сталярная, Ветраная, Інтэрнацыянальная, 2-гі Інтэрнацыянальны зав., Спартак, Пролетарская, парк, рака Сож, соўгас «Пяскі», паўночная частка Нова-Беліцы ў граніцах—па вуліцах: 11 Ліпеня, лінія чыгункі.

*267. НОВА-БЕЛІЦКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—Нова-Беліца).*

**Нова-Беліца** за выключэннем паўночнай часткі, уваходзячай у Гомельскую Фрунзенскую выбарчую акругу.

*268. ДОБРУШСКАЯ ГАРАДСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр— г. Добруш).*

**Горад Добруш і сельсоветы:** Мар'інскі, Жгуна-Будскі, Дземянкаўскі і Ачэса-Руднянскі Добрушскага раёна.

*269. ДОБРУШСКАЯ СЕЛЬСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр— г. Добруш).*

**Сельсоветы:** Харошаўскі, Агародне-Гомельскі, Кармянскі, Пераростаўскі, Крупецкі і Жгунскі Добрушскага раёна.

*270. ЛЕНІНСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Церахоўка).*

**Сельсоветы:** Ленінскі, Дуброўскі, Васільеўскі, Баршчоўскі, Кузьмініцкі, Усоха-Будскі і Кругавец-Калінінскі Церахоўскага раёна.

*271. ЦЕРАХОЎСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Церахоўка).*

**Сельсоветы:** Церахоўскі, Пракопаўскі, Маркавіцкі, Падабранскі, Глыбоцкі, Уцёўскі, Гардуноўскі, Краўцоўскі і Грабаўскі Церахоўскага раёна.

*272. ЛОЕЎСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Лоеў).*

**Сельсоветы:** Лоеўскі, Казерожскі, Карпаўскі, Рудне-Марымонаўскі, Першамайскі, Шарпілаўскі, Перадзельскі і Крупейскі Лоеўскага раёна.

*273. ЛОЕЎСКАЯ СЕЛЬСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА (цэнтр—м. Лоеў).*

**Сельсоветы:** Ручаеўскі, Дзяржынскі, Бывалькоўскі, Баршчоўскі, Хаткоўскі, Уборкаўскі, Ліпнякоўскі і Старадубскі Лоеўскага раёна.

**Вык. аб. Старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР**
**Н. НАТАЛЕВІЧ.**

**Вык. аб. Сакратара Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР**
**А. ЕРМАК.**

21 красавіка 1938 г.
г. Менск.

**Д. Маркін**

Вык. аб. сакратара Оргбюро ЦК КП(б)Б па Палескай вобласці, дэпутат Вярхоўнага Совета СССР.

# Падрыхтоўка да выбараў у Вярхоўны Совет БССР па Палескай вобласці

Агромны палітычны і арганізацыйны вопыт атрымалі працоўныя Палесся ад дня выбараў у Вярхоўны Совет СССР 12 снежня. Дзень выбараў з'явіўся вялікім, урачыстым святам. Выбаршчыкі Палесся праявілі нябачаную актыўнасць: 98,26 проц. прынялі ўдзел у галасаванні, 99,5 проц. галасоў Мазырскай выбарчай акругі атрымалі кандыдаты блока комуністаў і беспартыйных.

Гэтыя рэзультаты атрыманы дзякуючы таму, што наша краіна пад кіраўніцтвам вялікай партыі Леніна—Сталіна ў адносна кароткі тэрмін узнята на нябачаную вышыню. Соцыялізм у Совецкім Саюзе ўжо не з'яўляецца марай мільёнаў, а рэальным фактам.

Таварыш Сталін ахарактарызаваў сучаснае становішча нашай краіны наступнымі словамі:

> «...У нас соцыялізм не проста будуецца, а ўжо ўвайшоў у быт, у штодзённы быт народа. Год 10 таму назад можна было-б дыскусіраваць аб тым, ці можна ў нас будаваць соцыялізм ці не. Цяпер гэта ўжо не дыскусійнае пытанне. Цяпер гэта пытанне фактаў, пытанне жывога жыцця, пытанне быту, які пранізвае ўсё жыццё народа. На нашых фабрыках і заводах працуюць без капіталістаў. Кіруюць работай людзі з народа. Гэта і называецца ў нас соцыялізмам на справе. На нашых палях працуюць тружанікі зямлі без памешчыкаў, без кулакоў. Кіруюць работай людзі з народа. Гэта і называецца ў нас соцыялізмам у быту, гэта і называецца ў нас свабодным, соцыялістычным жыццём».

Вось чаму мы маем такія рэзультаты выбараў у Вярхоўны Совет СССР як па ўсёй нашай Беларусі, так і па Палескай вобласці.

Зараз Палеская вобласць узмоцнена рыхтуецца да выбараў вышэйшага органа дзяржаўнай улады нашай рэспублікі—Вярхоўнага Совета БССР—на аснове Сталінскай Канстытуцыі.

Ва ўсіх раёнах вобласці праведзены пленумы райвыканкомаў, пленумы сельскіх советаў, секцыі дэпутацкіх груп з актывам. На пленумах і нарадах прысутнічала звыш 10.000 чалавек. Па ўсіх раёнах праведзены партыйныя сходы, прысвечаныя падрыхтоўцы да выбараў у Вярхоўны Совет БССР.

Для вывучэння Канстытуцыі БССР і Палажэння аб выбарах арганізаваны 3063 гурткі, якімі ахоплена 71.323 чалавекі. Для работы ў гуртках прыцягнута 4.406 прапагандыстаў і агітатараў. У радзе раёнаў праведзены палітдні, прысвечаныя падрыхтоўцы да выбараў у

Вярхоўны Совет БССР (Лельчыцкі, Ельскі, Нараўлянскі), сходы жанчын, маладых выбаршчыкаў (Жыткавіцкі, Мазырскі), гутаркі і чыткі ў полі, брыгадзе, звяне (Капаткевіцкі, Тураўскі).

Зараз па ўсёй вобласці працуюць паліткурсы настаўнікаў, разлічаныя на 2—3 скліканні.

З часу выбараў у Вярхоўны Совет СССР у радзе гурткоў не спынялася работа і зараз добра праводзіцца вывучэнне Канстытуцыі і Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР. Да такіх адносяцца ў Мазыры: гурткі агітатараў Ігеева, Гінзбурга, Дварэцкага, Говара (фабрыка «Профінтэрн»), Лускінай, Зельдзінай, Брэгман (быўшы 2 участак), Махорава (Бібікаўскі), Спраўка (Слабодскі). У Лельчыцкім раёне: Шустэрман, Однакурава (Буйновічы), Каля (Стадолавічы), Міхалевіча (Грэбені). У Петрыкаўскім раёне: Піскуна, Голада, Сітнікава. У Тураўскім раёне: Кошман, Шэўчук, Тамаскевіч і інш.

У калгасе «Чырвоная зорка» Даманавіцкага сельсовета гурток па вывучэнню Канстытуцыі і Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР ужо закончыў праграму за 8 заняткаў. Гуртком кіраваў агітатар тав. Булаўка. Займалася ў гуртку 25 чалавек калгаснага актыва, якія акрамя вучобы ў гуртку самі праводзяць па дзесяцідворках гутаркі і чытку газетнага матар'ялу.

У Тураўскім раёне агіткалектыў Рычэскага сельсовета з 26 чалавек за апошнія паўтара месяцы правёў 5 заняткаў з агітатарамі (кіраўнік тав. Андрэеў). Гурткамі ахоплена 889 калгаснікаў і калгасніц. Заняткі адбываюцца два разы ў дэкаду. Лепшыя агітатары: тт. Гаранкоў, Косар, Сарокін, Карэцкая, Альзоба, Сенько, Ткашэвіч і інш.

У Нараўлянскім раёне агітатар тав. Дамчанка па сваёй ініцыятыве арганізаваў пасля выбараў у Вярхоўны Совет СССР школу калгаснага актыва з 25 чалавек. Праведзена 7 заняткаў два разы ў дэкаду. Як агітатар-комсамолец тав. Дамчанка вядзе вялікую выхаваўчую работу з калгаснай моладдзю. Пры яго актыўнай садзейнасці створаны дзве пярвічныя комсамольскія арганізацыі пры калгасах. У калгасе «Новая завадзь» Нараўлянскага сельсовета вялікую агітмасавую работу, сярод выбаршчыкаў свайго былога ўчастка праводзіць тав. Казлоў. У яго гуртку займаецца 28 чалавек. Зараз тав. Казлова, як лепшага агітатара, вылучылі палітінспектарам райана. У Даўлядоўскім сельсовеце агітатар тав. Юдэнка па асабістай ініцыятыве правёў сход маладых выбаршчыкаў, сходы жанчын, сходы моладзі па пытанню аб новым выбарчым законе БССР; у выніку комсамольская арганізацыя вырасла на 9 чалавек.

У Жыткавіцкім раёне працуе 325 агітатараў. Створана 17 агіткалектываў, кіраўнікі якіх зацверджаны райкомам партыі. Заняткі з агітатарамі праводзяцца два разы ў месяц. 30 сакавіка на занятках агіткалектыва пры местачковым совеце агітатары вывучылі выбарчы закон БССР і абмяняліся вопытам агітацыйна-прапагандысцкай работы. Усе агітатары прымацаваны да 10—15-дворак.

У Мазырскім раёне з гуртком работніц лесазавода «Пролетарый» і хатніх гаспадынь працуе тав. Гітліна. Яна правяла 8 заняткаў па вывучэнню Канстытуцыі і Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР. Перад кожным заняткам яна адводзіць 15—20 мінут для азнаямлення з пытаннямі міжнароднага і ўнутранага становішча. Рабоце гуртка актыўна дапамагаюць дэпутаты горсовета. Слухачы тт. Дыкштэйн і Больба, не гледзячы на тое, што кожнаму больш 60 год, на заняткі прыходзяць першымі і на «выдатна» засвойваюць

матар'ял. На былым першым выбарчым участку Мозыра кіруе агіткалектывам тав. Глагоўская. Створана 30 гурткоў сярод неарганізаванага насельніцтва. Заняткі адбываюцца па выхадных днях. Агітатарам забяспечана сістэматычная кансультацыя і інструктаж. За апошні месяц на агульных сходах выбаршчыкаў гэтага ўчастка прысутнічала каля 500 і на сходах жанчын—больш 300 чал. Наладжваюцца сходы выбаршчыкаў на тэму аб паходжанні і класавай сутнасці пасхі. Лепшыя агітатары гэтага ўчастка тт. Клімчык, Рэзнік, Гінзбург, Дварэцкая, Мацюкова.

Агітатар тав. Голад—рабочы фабрыкі «Профінтэрн»—кіруе гуртком па вывучэнню Палажэння аб выбарах і Канстытуцыі БССР сярод неарганізаванага насельніцтва. Заняткі актыўна наведваюцца і старыкамі: Голад 98 год, Камісарчык 55 год, Савенко 75 год. Усе слухачы гуртка ўступілі ў члены Мопра і Чырвонага Крыжа.

Агітацыйна-масавая работа спрыяе росту стаханаўскага руху, уступленню працоўных аднаасобнікаў у калгасы. У Лельчыцкім раёне за апошні месяц уступіла ў калгасы 225 гаспадарак, у Тураўскім—170.

Істотным недахопам нашай прадвыбарчай агітацыі з'яўляецца тое, што яна не заўсёды спалучаецца з канкрэтнай барацьбой за выкананне раёнамі ўсіх палітычных і гаспадарчых задач, што цэнтр яе цяжару не перанесен у выбарчыя ўчасткі, у поле, брыгаду, звяно, што не наладжан абмен вопытам работы паміж агітатарамі.

Каб знішчыць гэтыя недахопы, 15 красавіка была праведзена абласная нарада першых сакратароў райкомаў партыі па пытанню аб ходзе падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Совет БССР. 23 красавіка склікаецца абласная нарада ўсіх культпропаў райкомаў, прапагандыстаў, загадчыкаў парткабінетаў і па 1—2 чалавека з раёна лепшых кіраўнікоў агіткалектывамі. Гэтыя мерапрыемствы павінны палепшыць работу па падрыхтоўцы да выбараў у Вярхоўны Совет БССР.

Задачы палітычнай агітацыі ў надыходзячай выбарчай кампаніі патрабуюць, каб кожны райком цяпер-жа прымацаваў давераных да выбарчых участкаў. Кожны агітатар ужо зараз павінен азнаёміцца з той групай выбаршчыкаў, якую ён будзе абслугоўваць.

За арганізацыю выбарчай кампаніі на тэрыторыі раёна ўсю адказнасць павінен несці раённы камітэт партыі. Ён павінен штодзенна кіраваць палітычнай работай на ўсіх выбарчых участках. Кіраўнікі райкомаў павінны памятаць, што галоўнае ў выбарчай кампаніі—не адгароджвацца ад беспартыйных, а дзейнічаць сумесна з імі.

Наша Палеская вобласць паспяхова правядзе выбары ў Вярхоўны Совет БССР, трэба толькі яшчэ лепш арганізаваць падрыхтоўчую работу.

---

Ф. Еромiхiн

# Шырэй фронт антырэлiгiйнай прапаганды

Тварцы навуковага комунiзма Маркс i Энгельс барацьбу з рэлiгiйным дурманам лiчылi састаўною часткай вызваленчай барацьбы пролетарыята.

Што такое рэлiгiя? На гэта пытанне мы знаходзiм у Ленiна чоткi адказ:

«Рэлiгiя ёсць адзiн з вiдаў духоўнага гнёту, якi ляжыць усюды на народных масах, задаўленых вечнай работай на другiх, галечай i адзiноцтвам» *).

... «У адносiнах да партыi соцыялiстычнага пролетарыята рэлiгiя не ёсць прыватная справа. Партыя наша ёсць саюз свядомых, перадавых барацьбiтоў за вызваленне рабочага класа. Такi саюз не можа i не павiнен абыякава адносiцца да несвядомасцi, цемры або мракабесiя ў выглядзе рэлiгiйных вераванняў» **).

Наша партыя не раз адзначала неабходнасць разгортвання антырэлiгiйнай работы.

XVI партыйны з'езд у рэзалюцыi па дакладу таварыша Сталiна запiсаў:

«Партыя павiнна замацаваць i развiць значныя поспехi, дасягнутыя ў справе вызвалення мас ад рэакцыйнага ўплыву рэлiгii».

XVI з'езд партыi ўказаў, што профсаюзы

«...павiнны звярнуць асобую ўвагу на соцыялiстычнае выхаванне новых кадраў рабочых i работнiц, сiстэматычна змагацца з дробнабуржуазнымi настроямi, забабонамi i ўсякiмi перажыткамi капiталiстычнай старыны ў рабочым асяроддзi, правiльна арганiзаваць i ўзмацнiць антырэлiгiйную прапаганду, барацьбу з антысемiтызмам, шавiнiзмам, нацыянальнай абмежаванасцю i т. п.»

Як-жа выконваюць профсаюзы свае задачы ў галiне антырэлiгiйнай работы? Большасць ЦП саюзаў у лепшым выпадку абмяжоўваецца пасылкай дырэктыў. Выключэннем з'яўляецца ЦП саюза малочных i мясных соўгасаў. Старшыня саюза тав. Абушка цiкавiцца антырэлiгiйнай работай. Прэзiдыум саюза сiстэматычна заслухоўвае iнфармацыi старшынь рабачкомаў. У соўгасы выязджаюць iнструктары i практычна дапамагаюць iм у разгортваннi антырэлiгiйнай работы.

*) Творы, т. VIII, стар. 419.
**) Там-жа, стар. 421.

X з'езд комсамола абавязаў комсамольскія арганізацыі прыняць актыўны ўдзел у антырэлігійнай рабоце. Аб гэтым запісана і ў праграме комсамола. Але добрай пастаноўкай антырэлігійнай работы комсамольскія арганізацыі пахваліцца пакуль што не могуць.

Бялыніцкі райком комсамола не бачыць, што робіцца ў яго пад бокам—у Бялыніцкай няпоўнай сярэдняй школе. Комсамольская арганізацыя школы складаецца з 48 чалавек, сярод якіх нямала кандыдатаў партыі. Здавалася-б, ёсць каму кіраваць антырэлігійнай работай, але не тое мы бачым на справе. Ячэйка СВБ арганізавана, аднак яе кіраўнік тав. Фейман працаваць не хоча. У дні рэлігійных свят прагулы рэзка павышаюцца, сярод дзяцей—нездаровыя рэлігійныя перажыткі. Але гэта мала непакоіць сакратара камітэта тав. Арлоўскага.

Настаўнікам-комсамольцам гэтай школы трэба павучыцца ў калектыва Бяляеўскай НСШ (Чачэрск), які антырэлігійную работу вядзе рэгулярна не толькі сярод вучняў у сценах школы, але і сярод іх бацькоў, хоць райсовет СВБ у Чачэрску бяздзейнічае.

Бюро ЦК КП(б)Б 20 кастрычніка 1937 г. прыняла спецыяльнае рашэнне аб разгортванні антырэлігійнай работы. Рашэнне абавязвала райкомы партыі не пазней снежня 1937 г. аформіць райсоветы СВБ, стварыць групы антырэлігійных лектараў пры райкомах. Але... воз і зараз там. Сакратары і культпропы райкомаў партыі ў большасці адмахваюцца ад антырэлігійнай работы, як ад дакучлівай мухі. Яны лічаць, што антырэлігійная работа—гэта справа СВБ, а іх не датычыць.

Менскія райкомы партыі ўсё яшчэ не прыступілі да стварэння райсоветаў СВБ. Атрымаўшы пастанову ЦК і Менскага гаркома, прачыталі яе і супакоіліся на гэтым.

Шматлікія факты сведчаць аб тым, што класавы вораг, царкоўнікі ўсіх масцей і сектанты арудуюць там, дзе антырэлігійная работа ў загоне.

Выбары ў Вярхоўны Совет СССР паказалі, што ворагі народа ўзмоцнена скарыстоўвалі адзін з выпрабаваных эксплаататарамі сродкаў—рэлігію.

Узяць, напрыклад, Хойніцкі раён. За апошнія тры гады антырэлігійная работа зусім заглохла. Не дзіўна, што ў перыяд выбарчай кампаніі ў Вярхоўны Совет СССР у радзе вёсак (Стрэліча, Мканавічах, Тульгавічах) адкрыта арудавалі контррэволюцыйныя папоўска-сектанцкія групы.

Яшчэ горш у Шклоўскім раёне. У Таўкачэўскім сельсовеце сын папа Курыневіч Л. хадзіў па дварах калгаснікаў і агітаваў супроць выбараў у Вярхоўны Совет СССР. У вёсках Гідарова, Бабічы можна налічыць не адзін дзесятак баптыстаў. У самім Шклове, на віду ў партыйных і совецкіх арганізацый, яўрэйская сінагога прытуліла нямала клерыкалаў, якія вялі антысовецкую работу ў перыяд выбараў.

У Рэчыцкім раёне, у вёсцы Проная, сектанты Рудзенка Сяргей, Давідзенка Малання і Гапаненка Елена, абходзячы двары выбаршчыкаў, агітавалі іх супроць выбараў. У Дземіхоўскім сельсовеце жонка папа прабавала праз дзяцей уздзейнічаць на выбаршчыкаў-бацькоў. Антысовецкія выступленні царкоўнікаў былі і ў іншых сельсоветах гэтага раёна.

У Быхаўскім раёне аб актыўнай варожай дзейнасці сектантаў гаварылася на пленуме райкома партыі. Але далей гаворкі справа не пашла. Антырэлігійная работа ў Быхаве па-ранейшаму закінута

Дамы соцкультуры павінны стаць ачагом барацьбы з царкоўна-сектанцкімі элементамі на вёсцы. На жаль, толькі адзінкі загадчыкаў да-

мамі соцкультуры актыўна ўключыліся ў антырэлігійную работу. Паасобныя загадчыкі ДСК нават перашкаджаюць ёй. Загадчык Гарадзецкай хаты-чытальні Міхраў у рэлігійныя святы закрывае хату-чытальню, бо сам святкуе. У Смычкаўскім сельсовеце Уваравіцкага раёна звілі сабе гняздо царкоўнікі і сектанты. Ёсць там добры клуб, актыў настаўнікаў, але няма арганізатараў. Хатнік тав. Пінчук—рэдкі госць у клубе і хаце-чытальні. У сельсоветах Смалявіцкага раёна ёсць некалькі добра абсталяваных дамоў соцкультуры, але масавай работы, у тым ліку антырэлігійнай, яны не вядуць.

Гора-кіраўнікі прабуюць тлумачыць правал антырэлігійнай работы адсутнасцю падрыхтаваных кадраў. Але гэта няверна. Выбары ў Вярхоўны Совет СССР паказалі, што мы маем тысячы адданых партыі, палітычна граматных агітатараў, якіх можна і трэба прыцягнуць да антырэлігійнай работы, аказваючы ім сістэматычную дапамогу.

Здолеў-жа Магілеўскі гарком партыі стварыць лектарскае антырэлігійнае бюро, правесці курсы арганізатараў антырэлігійнай работы, умацаваць ячэйкі Саюза ваяўнічых бязбожнікаў. Значыць, там ёсць людзі, якія выконваюць рашэнні партыі. Хіба гэтага нельга было зрабіць у Менску, Віцебску і Оршы? Можна і вельмі патрэбна.

Чым адрозніваецца Гарадоцкі раён ад іншых? Абсалютна нічым. Тым часам у Гарадоцкім раёне вядзецца вялікая антырэлігійная работа, а Шклоўскі ў гэтай галіне нічога не робіць.

У Гарадоцкім раёне створан райсовет СВБ. Тав. Афанасьеў (старшыня) антырэлігійную работу паставіў на належную вышыню. У калгасах, прадпрыемствах, школах працуюць дзесяткі ячэек, да антырэлігійнай работы шырока прыцягнут совецкі актыў.

12 красавіка вучні 2-й сярэдняй школы ў пасёлку Васільева правялі вялікі антырэлігійны вечар. Вучань 10 класа Вярхоўскі зрабіў добры даклад на тэму: «Класавая сутнасць пасхі». Прысутныя з вялікай увагай выслухалі дакладчыка і засталіся задаволенымі. Пасля даклада вучні выступалі са спевамі, дэкламацыяй, плясакмі. У вечары самадзейнасці прынялі ўдзел і пажылыя калгасніцы (Барышава, Осіпава). Такія змястоўныя і разам з тым вясёлыя вечары трэба наладжваць часцей.

Развал антырэлігійнай работы тлумачыцца многімі прычынамі. Неабходна павесці рашучую барацьбу са шкоднымі «тэорыямі», што быццам «рэлігія адмірае сама па сабе», што «веруюць толькі старыя дзяды ды бабулькі», што «папоў засталося мала, і яны сталі людзьмі совецкімі».

Рэлігія сама па сабе не адмірае. Яе забабоны, на жаль, вельмі жывучы, і з імі трэба рашуча, настойліва змагацца. Дзядулі ды бабулі маюць яшчэ ва многіх выпадках уплыў на сям'ю, водзяць у царкву дзяцей.

Практыка паказала, што царкоўнікі ўсіх масцей ахвотна працуюць па заданнях замежных разведак. Разам з трацкісцка-бухарынскімі і нацыянал-фашысцкімі бандытамі яны ўсімі сіламі стараюцца падарваць нашу магутнасць, каб аднавіць капіталізм.

> «Партыя не можа быць нейтральнай у адносінах носьбітаў рэлігійных забабонаў, у адносінах рэакцыйнага духавенства, якое атручвае свядомасць працоўных мас». *)

Папоў стала менш, але яны змянілі сваю тактыку. У гарадах і вёсках з'явіліся папы-«перасоўшчыкі».

*) *Сталін.* „Пытанні ленінізма", стар. 193.

Такіх «перасоўшчыкаў» вельмі многа на Палессі. Лельчыцкі, Ельскі раёны не раз бачылі «паходнага» бацю, які вандруе па калгасах.

На дапамогу папам і сектанцкім начотнікам у вёску рушыла і шматлікая зграя манахаў ды манахінь.

Прычыну недахопаў і правалаў антырэлігійнай работы трэба шукаць перш за ўсё ў слабой арганізацыі Саюза ваяўнічых бязбожнікаў. Антырэлігійную работу трэба пачынаць з іх умацавання. У оргбюро, у райсоветы СВБ трэба вылучыць граматных і энергічных таварышоў, якія добра ведаюць гэту справу. Адначасова трэба пакончыць са шкоднымі разважаннямі, нібы антырэлігійнай работай павінны займацца толькі ячэйкі СВБ. Антырэлігійная работа павінна ўключацца ў агульны план масавай палітычнай работы партыйных і грамадскіх арганізацый.

У галіне антырэлігійнай работы вялікую і ганаровую ролю павінен адыграць ленінскі комсамол. X с'езд ВЛКСМ ясна ўказаў метады, якімі комсамольцы павінны праводзіць антырэлігійную работу.

У праграме ВЛКСМ запісана:

> «ВЛКСМ цярпліва растлумачвае моладзі шкоду прымхаў і рэлігійных забабонаў, арганізуючы з гэтай мэтай спецыяльныя гурткі і лекцыі па антырэлігійнай прапагандзе».

Новых членаў СВБ трэба вербаваць у індывідуальным парадку і зацвярджаць на сходах пярвічных арганізацый СВБ. У план гэтых арганізацый павінны ўвайсці наступныя пытанні: правядзенне антырэлігійных навукова-калгасных канферэнцый, індывідуальная работа з веруючымі, правядзенне антырэлігійных вечароў, арганізацыя антырэлігійных гурткоў, куткоў бязбожнікаў, выставак, насценных газет і т.д.

Да антырэлігійных вечароў трэба добра рыхтавацца. Дакладчык павінен улічыць нацыянальнасць, падрыхтоўку і ўзрост слухачоў, ведаць, ці ёсць сярод прысутных сектанты і якога яны напрамку.

Вельмі папулярны даклады, якія суправаджаюцца дэманстрацыяй антырэлігійных дыяпазітываў, а таксама хімічнымі вопытамі.

Пры добрай пастаноўцы антырэлігійныя вечары прыцягваюць масу слухачоў. Сотні калгаснікаў збіраюцца на даклады тав. Петрова (Асіпавічы, Зборскі сельсовет), якія ён суправаджае хімічнымі вопытамі. Чатыры антырэлігійныя лекцыі прачытаны настаўнікамі ў калгасе «Рухавік рэволюцыі» (Рэчыцкі раён). На лекцыі збіраліся слухачы з навакольных калгасаў. На даклады настаўніка тав. Арціховіча (Рагачоў, Паболаўскі сельсовет) збіраюцца калгаснікі, сярод якіх многа веруючых.

Трэба шырэй уцягваць у актыўную антырэлігійную работу настаўнікаў, інжынераў, урачоў. Яны змогуць прынесці вялікую карысць у разгортванні антырэлігійнай прапаганды, выступаючы з дакладамі кожны па сваёй спецыяльнасці. Вельмі карысна паставіць лекцыю ўрача для хатніх гаспадынь на тэму аб абязбольванні родаў, увязаўшы яе з легендай аб тым, нібыта «бог асудзіў жанчыну нараджаць у муках». Трэба паказаць, што абязбольванне родаў у нашых больніцах разбівае ўшчэнт гэту шкодную легенду. Карысна будзе і лекцыя гісторыка, які гістарычнымі фактамі пакажа, што царква тварыла велізарнейшыя злачынствы над чалавецтвам, учыняла ганенні на навуку і яе лепшых прадстаўнікоў.

У антырэлігійнай рабоце, як паказвае вопыт, могуць вельмі дапамагчы добра падрыхтаваныя калгасныя навуковыя канферэнцыі.

Добра падрыхтаваная канферэнцыя можа прынесці вялікую карысць разгортванню антырэлігійнай прапаганды і ўмацаванню ячэек

СВБ. Вялiкую каштоўнасць могуць таксама прынесцi падрыхтаваныя выступленнi пажылых няверуючых калгаснiкаў, iх расказы аб тым, як i чаму перасталi яны верыць у бога. Поўнасцю апраўдваюць сябе таксама добра арганiзаваныя вечары пытанняў i адказаў на антырэлiгiйныя тэмы.

Добра таксама разгарнуць гутаркi на кватэрах у веруючых, зачытваць урыўкi з антырэлiгiйнай мастацкай лiтаратуры i т. д.

ЦК КП(б)Б у сваiм рашэннi аб антырэлiгiйнай рабоце абавязаў райкомы партыi стварыць лектарскую групу, у якую побач з партработнiкамi ўключыць настаўнiкаў, аграномаў, урачоў. Тэматыку лекцый i метадычныя распрацоўкi заўсёды можна атрымаць ад ЦС СВБ БССР, якi высылае iх па першаму патрабаванню.

У школах антырэлiгiйная работа павiнна праводзiцца не толькi пiянератрадамi. Лекцыi настаўнiкаў таксама павiнны быць прасякнуты адпавядаючым тэме антырэлiгiйным зместам. Выкладанне такiх прадметаў, як бiялогiя, фiзiка, хiмiя, павiнна быць глыбока прасякнута антырэлiгiйнай прапагандай.

Антырэлiгiйную работу нельга зводзiць толькi да арганiзацыi насельнiцтва на патрабаванне аб зачыненнi цэркваў. На гэтым супакойвацца нiяк нельга. У Клiчаўскiм раёне царква зачынена, але сектанцтва не адмiрае. Раённыя кiраўнiкi не хочуць гэтага бачыць. Калi насельнiцтва патрабуе зачынiць царкву, то зрабiць гэта трэба. Але не трэба выкарыстоўваць цэрквы пад розныя склады, як гэта дзе-нi-дзе робiцца. Iх неабходна пераабсталяваць пад культурна-асветныя ўстановы.

Рыхтуючыся да выбараў Вярхоўнага Совета БССР, трэба яшчэ шырэй разгарнуць агiтацыйна-масавую работу сярод насельнiцтва, звярнуўшы асаблiвую ўвагу на якасць работы агiтатараў, на добрую падрыхтоўку да заняткаў. Агiтатар на яркiх прыкладах павiнен паказаць шырокiм масам працоўных, што толькi дзякуючы нястомнай барацьбе комунiстычнай партыi i совецкай улады пад кiраўнiцтвам таварыша Сталiна наша соцыялiстычная радзiма дабiлася велiзарнейшых поспехаў у пабудове шчаслiвага, заможнага i культурнага жыцця народаў СССР, тым часам як царскi ўрад пры дапамозе папоў i царквы стагоддзямi трымаў працоўныя масы ў галечы, невуцтве i цемры.

Наша агiтацыйная работа павiнна выхоўваць i ўзнiмаць дух совецкага патрыятызма сярод выбаршчыкаў на фактах велiзарных дасягненняў, якiх дабiлася ордэнаносная БССР, дзякуючы мудраму кiраўнiцтву партыi Ленiна—Сталiна, пры брацкай дапамозе рабочага класа ўсiх нашых рэспублiк i ў першую чаргу РСФСР.

У сувязi з надыходзячымi выбарамi ў Вярхоўны Совет БССР трэба перасцярэгчы супроць змешвання двух рэчаў. Першая—нашы адносiны да рэлiгii i рэлiгiйных абчын. Другая—нашы адносiны да веруючых.

> «Змешваць гэтыя дзве рэчы нельга. Супроць рэлiгii i рэлiгiйных арганiзацый мы вядзем i будзем весцi барацьбу. Масу-ж веруючых мы адукуем i пераконваем. Мы не вядзем барацьбы супроць веруючых, а вядзем барацьбу супроць рэлiгii. Адсюль i характар нашай антырэлiгiйнай дзейнасцi i зместу работы» (Яраслаўскi).

Галоўнае для сучаснага моманту—аб'яднаць актыўных бязбожнiкаў кожнай мясцовасцi, арганiзаваць для iх спецыяльныя курсы i семiнары. Неабходна павярнуць СВБ да масавай палiтыка-асветнай работы з веруючымi. Антырэлiгiйная прапаганда i агiтацыя не павiнны адрывацца

ад задач, пастаўленых перад намі партыяй і совецкім урадам. Барацьба наша супроць рэлігіі ёсць барацьба за новыя вялікія перамогі соцыялізма.

Трэба тлумачыць шырокім масам працоўных шматлікія з'явы прыроды, якія яшчэ па сёння многія з веруючых тлумачаць умяшаннем бога, д'ябла, святых, чарцей. Масы цікавяцца паходжаннем жыцця на зямлі. Біблейскім казкам мы павінны проціпаставіць шырокую прапаганду вучэння Дарвіна, работы Бербанка і нашых вучоных—Мічурына, Цырына, Лысенко. На гэтым матар'яле трэба паказаць недарэчнасць рэлігійных уяўленняў аб будове свету.

Наша прапаганда і агітацыя супроць рэлігіі, выкрыццё рэакцыйнай работы царкоўнікаў усіх масцей не павінны праводзіцца адцягнена. Штабамі антырэлігійнай прапаганды павінны стаць партыйныя кабінеты, загадчыкі якіх абавязаны сістэматычна аказваць антырэлігійным агітатарам канкрэтную дапамогу.

> «Мы, бязбожнікі,—гаворыць тав. Яраслаўскі,—у поўнай адпаведнасці са Сталінскай Канстытуцыяй думаем, што чэсныя совецкія грамадзяне могуць і павінны быць выбраны ў Советы працоўных незалежна ад таго, веруюць яны ў бога ці не. Але мы павінны змагацца супроць таго, каб у Советы былі выбраны тыя, хто абраў сваім рамяствам справу адурманьвання народа казкамі аб неіснуючых багах, святых, ангелах, д'ябле, пекле і раі. Мы супроць таго, каб у Советы працоўных праніклі актыўныя рэлігійнікі і напамінаем словы таварыша Сталіна ў яго дакладзе на Надзвычайным VIII Усесаюзным з'ездзе Советаў:
>
> «...Калі народ сям-там і выбера варожых людзей, то гэта будзе азначаць, што наша агітацыйная работа пастаўлена з рук вон дрэнна і мы ўпаўне заслужылі такую ганьбу, калі-ж наша агітацыйная работа будзе ісці па-большэвіцку, то народ не прапусціць варожых людзей у свае вярхоўныя органы. Значыць трэба працаваць, а не хныкаць, трэба працаваць, а не чакаць таго, што ўсё будзе прадастаўлена ў гатовым выглядзе, у парадку адміністрацыйных распараджэнняў» (Сталін)».

Трэба цвёрда памятаць, што варожыя совецкай уладзе элементы, у тым ліку і астаткі трацкісцка-бухарынскіх шпіёнаў, паспрабуюць у выбарчай кампаніі выкарыстаць рэлігійныя арганізацыі для правядзення сваіх людзей у Советы працоўных. Каб не дапусціць падобнай ганебнай з'явы, трэба неадкладна ўзмацніць палітмасавую работу сярод насельніцтва, шырэй разгарнуць антырэлігійную прапаганду.

---

**Б. Кацман**

Заг. парткабінета пры Гомельскім доме партасветы.

# Гомельскі дом партыйнай асветы

Дом партыйнай асветы ў Гомелі займае адно з лепшых памяшканняў горада. Ён мае 10 вучэбных пакояў, залу на 600 чалавек, бібліятэку з 30.000 кніг, чытальню, пакой адпачынку і 3 пакоі для парткабінета, адзін з якіх прызначан спецыяльна для агітатараў і прапагандыстаў. Пакой для агітатара і прапагандыста добра абсталёван. Тут ёсць наглядныя дапаможнікі па ўсіх галінах народнай гаспадаркі і культурнага будаўніцтва, дыяграмы і матар'ялы да выбараў у Вярхоўны Совет БССР. Падабрана літаратура да кожнай тэмы па гісторыі партыі, па міжнародных пытаннях. Ёсць рэпрадукцыі з матар'ялаў музея Леніна на тэму «Ленін і Сталін у барацьбе за Кастрычнік». Афармлены шчыты на тэмы: Маркс—Энгельс—Ленін—Сталін аб перарастанні буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную, аб дыктатуры пролетарыята. Да кожнай палітычнай кампаніі афармляюцца вітрыны. Кабінет наведвае штодзенна 15—20 чалавек.

Пры Доме партасветы працуе наступная сетка: райпартшкола, 4 урткі па гісторыі партыі, агульнаадукацыйная школа, семінар партыйнага актыва, семінар прапагандыстаў. Усяго навучаецца звыш 600 чалавек.

Парткабінет абслугоўвае прапагандыстаў сеткі партыйнай асветы ўсяго горада. Для комуністаў гор. Гомеля арганізаваны 19 гурткоў павышанага тыпу па гісторыі партыі, 24 гурткі, дзе гісторыя партыі вывучаецца па падручніку Ем. Яраслаўскага, і 14 гурткоў палітграматы. З гэтых гурткоў 35 вывучаюць паслякастрычніцкі перыяд, 10 гурткоў у красавіку заканчваюць курс гісторыі партыі.

Школы і гурткі абслугоўваюцца 53 прапагандыстамі, з якіх 15 чалавек скончылі Інстытут чырвонай прафесуры, комвузы, курсы марксізма-ленінізма, 3—курсы прапагандыстаў, 10—трохмесячныя курсы прапагандыстаў, 10—ВНУ і ВТНУ і 9—соўпартшколы. Астатнія 6 чалавек вылучаны з падрыхтаванага партактыва. Больш 20 прапагандыстаў кіруюць гурткамі першы год. Ім патрэбна штодзенная дапамога. З агульнага ліку прапагандыстаў 13 чалавек працуюць загадчыкамі парткабінетаў і штатнымі прапагандыстамі, 20 чалавек на прапагандысцкую работу вылучаны нядаўна.

Прапагандысцкія здольнасці праяўляюць многія таварышы, сярод іх Капароўскі (камбінат імя Ежова), Жэрднёў (торфазавод), Фердман (завод імя Кірава), Васерман (фабрыка «Праца»), Агранат («Спартак»), Грушын (інструктар гаркома партыі), Пастухоў (інструктар гаркома партыі). Большасць гэтых таварышоў не атрымала спецы-

яльнай адукацыі. Яны выраслі ў партыйнай сетцы Дома партасветы і ў сябе на прадпрыемствах.

У семінарах прапагандысты вывучаюць гісторыю партыі па першакрыніцах. 5 прапагандыстаў працуюць у гуртках на прадпрыемствах, 5—у семінары партыйнага актыва, астатнія выкладаюць у навучальных установах і кіруюць семінарамі. Семінар прапагандыстаў займаецца па 6-8 гадзін у дзень тры разы ў месяц з адрывам ад вытворчасці. Вывучаецца гісторыя партыі, гісторыя народаў СССР, літаратура. Па гісторыі партыі заканчваецца шостая тэма. Семінар павінен закончыць праграму ў кастрычніку, пасля чаго мяркуецца арганізаваць семінар па ленінізму і па асобных творах класікаў марксізма. Хоць семінары і афармлены арганізацыйна, аднак маюць яшчэ рад буйных недахопаў у падрыхтоўцы прапагандыстаў, у якасці вучобы і наведванні заняткаў.

У семінарах для партактыва (сакратары парткомаў, парторгі і дырэктары прадпрыемстваў) займаецца 152 чал. Яны вывучаюць гісторыю партыі, гісторыю народаў СССР і геаграфію. Цяпер у нас уведзены абавязковыя залікі па кожнай пройдзенай тэме, што цалкам сябе апраўдала. Дзесяткі таварышоў, якія раней не ўмелі самастойна працаваць над вывучэннем твораў класікаў марксізма-ленінізма, цяпер спраўляюцца добра з работай над кнігай. 100 чалавек за апошні час наведалі музей Леніна ў Маскве.

Кансультацыя для прапагандыстаў і агітатараў да апошняга часу была пастаўлена дрэнна. Цяпер прымацаваныя да прапагандыстаў кансультанты сустракаюцца з імі не толькі ў парткабінеце, але і бываюць на занятках, дзе лепш можна выявіць слабыя бакі прапагандыста і дапамагчы яму. Так, напрыклад, пабываўшы на занятках у тав. Жэлнова, кансультант выявіў, што па тэме, прысвечанай XIV партз'езду, ён не даў разгорнутага малюнка барацьбы нашай партыі з ворагамі народа на тым этапе і не ўвязаў тэму з сучаснасцю. Выкліканы ў парткабінет тав. Жэлноў зачытаў канспект сваіх чарговых заняткаў і атрымаў канкрэтныя ўказанні.

Цяпер прапагандысты больш ахвотна сталі наведваць парткабінет. 16 лютага на кансультацыю па адказу таварыша Сталіна на пісьмо комсамольскага прапагандыста тав. Іванова з'явілася 10 чалавек, па артыкулу Леніна «Аб лозунгу Злучаныя Штаты Еўропы» і «Дзіцячая хвароба «левізны» у комунізме» атрымалі кансультацыю 2 чал., самастойна працавалі ў кабінеце 8 чал.

Кансультацыі спрыяюць росту прапагандыста, павышаюць якасць вучобы. На жаль, кансультацыяй ахоплена яшчэ мала прапагандыстаў. Галоўная прычына—перагрузка прапагандыста. Так, напрыклад, тав. Капароўскі працуе загадчыкам парткабінета на камбінаце імя Ежова, кіруе школай па гісторыі партыі, агіткалектывам, з'яўляецца намеснікам сакратара парткома, прымае партыйныя ўзносы, дае кансультацыі па розных пытаннях і сістэматычна чытае масавыя даклады. Тав. Агранат—загадчык парткабінета, кіраўнік школы па гісторыі партыі, намеснік сакратара парткома і кіраўнік агіткалектыва. Такая перагрузка тыпова для большасці прапагандыстаў.

Для падрыхтоўкі новых кадраў пры Доме партасветы створана вячэрняя школа прапагандыстаў. Адна група ў 15 чалавек скончыла школу пасля паўтарагадовага навучання. Залікі паказалі, што 10 чал. могуць кіраваць гурткамі па гісторыі партыі, 5 чал.—гурткамі паліtграматы. Усе яны пасланы на экскурсію ў музей Леніна. Цяпер створана новая група прапагандыстаў.

Да выбараў у Вярхоўны Совет СССР мы не мелі агітатараў для масавай работы сярод насельніцтва. Агітатарам, якія працавалі на прадпрыемствах, партыйныя арганізацыі не дапамагалі. У час выбараў па гораду працавала 1850 агітатараў. Па вывучэнню Сталінскай Канстытуцыі і выбарчага закона было арганізавана 2500 гурткоў. Цяпер існуе 1975 гурткоў. Сярод насельніцтва працуе 1398 агітатараў, астатнія—на прадпрыемствах. 575 агітатараў прапушчана праз 10-дзенныя курсы, 260 чал. скончылі 2-дзенны семінар, 50 хатніх гаспадынь прайшлі 6-дзенныя курсы агітатараў. У студзені, лютым і сакавіку для агітатараў былі пастаўлены даклады аб задачах антырэлігійнай прапаганды, аб творчасці Шота Руставелі, «14 год без Леніна пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна», аб творчасці Некрасава, аб міжнародным і ўнутраным становішчы, аб барацьбе нашай партыі з ворагамі народа ў перыяд заключэння Брэсцкага міру, аб тым, як скарыстаць мастацкую літаратуру ў агітацыйна-масавай рабоце. Агітатары пабывалі на кінофільмах: «Ленін у Кастрычніку», «Балтыйцы», «Валачаеўскія дні», «Мы з Кранштата», «Граніца на замку», «Калі заўтра вайна» і інш.

Агітатары забяспечваюцца перыядычнай літаратурай для дакладаў і гутарак, нагляднымі дапаможнікамі. Вельмі дапамагаюць агітатарам выстаўкі-вітрыны на тэмы: «14 год без Леніна пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна», «20 год Совецкай улады», «20 год Чырвонай Арміі і Ваенна-Марского флота», «Сталінская Канстытуцыя», «8 сакавіка», «Антырэлігійная прапаганда». Шмат карысці прыносяць дыяграмы аб мінулым і сучасным беларускага народа, альбомы са спецыяльна падабранымі матар'яламі па міжнароднаму і ўнутранаму становішчу, аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР і інш.

Агітатары карыстаюцца і індывідуальнай кансультацыяй. Вельмі многа пытанняў было ў сувязі з адказам таварыша Сталіна на пісьмо комсамольскага прапагандыста тав. Іванова, па пытанню аб працэсе над контррэволюцыйнай трацкісцка-бухарынскай бандай, аб захопе фашысцкай Германіяй Аўстрыі, аб становішчы ў Чэхаславакіі. Цяпер агітатары зварачаюцца за кансультацыяй па пытанню аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР.

Зараз па Гомелю разгорнута работа па вывучэнню Канстытуцыі БССР. У гэтай рабоце дапамагае агітатарам і парткабінет, які склікаў нарады кіраўнікоў агіткалектываў па пытанню работы семінара агітатараў на прадпрыемствах і на выбарчых участках. Для агітатараў наладжваюцца лекцыі і даклады: аб Канстытуцыі БССР, аб мінулым беларускага народа і росце гаспадарча-культурнага будаўніцтва нашай рэспубліні, «БССР—неад'емная частка вялікага Совецкага Саюза», «БССР—фарпост нашай радзімы на мяжы з капіталістычным Захадам», аб барацьбе нашай партыі за ачыстку БССР ад шпіёнскіх трацкісцка-бухарынскіх элементаў. Пяць раз у месяц кабінет агітатара праводзіць кансультацыю па міжнароднаму і ўнутранаму становішчу, чатыры разы—па геаграфіі і літаратуры. Кабінет падабраў геаграфічныя карты і аформіў палітычную карту свету з выразкамі падзей у кожнай краіне за шасцідзенку. Агітатары ахвотна скарыстоўваюць геаграфічную карту ў сваёй агітацыйнай рабоце.

20, 22 сакавіка ў Маскве, у аддзеле партпрапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б) адбылася спецыяльная нарада, у якой прынялі ўдзел 30 загадчыкаў парткабінетамі Масквы, Ленінграда, Украіны, Беларусі і розных раёнаў. Нарада абагуліла накоплены парткабінетамі

вопыт, унесла яснасць у іх работу, вызначыла ролю парткабінетаў у сістэме партыйнай прапаганды і агітацыі.

Яшчэ многа трэба зрабіць для таго, каб парткабінет стаў цэнтрам метадычнай дапамогі прапагандысту і агітатару. Пры парткабінеце павінен быць інструктар-метадыст, які-б сістэматычна наведваў заняткі прапагандыстаў, паасобных агітатараў на ўчастку і аказваў ім дапамогу. Пры вялікіх парткабінетах і дамах партасветы неабходна стварыць пастаянныя лекторыі па міжнародных і ўнутраных пытаннях, па пытаннях антырэлігійнай прапаганды. Парткабінет павінен даць адказ прапагандысту і агітатару на ўсе пытанні, якія яго цікавяць. Па асобных пытаннях павінен быць даведачны матар'ял, падабраны ў папках. Пакуль выйдзе поўны падручнік па гісторыі ВКП(б), парткабінет можа аказаць вялікую дапамогу прапагандысту і слухачу шляхам падбору матар'ялаў з перыядычнай літаратуры, асабліва з такіх журналаў, як «Пропагандист».

Парткабінет павінен дапамагаць агітатару лекцыямі, інструкцыйнымі дакладамі. Асаблівае значэнне мае падбор газетнага матар'ялу да кожнай гутаркі і даклада. Вельмі зручны альбомы з выразкамі па пытаннях міжнароднага і ўнутранага становішча, абмену вопытам агітацыйнай работы.

Задача парткабінета—навучыць агітатара карыстацца геаграфічнаю картай для ілюстрацыі росту соцыялістычнага будаўніцтва, багаццяў нашай радзімы, новых будоўляў, падзей у Іспаніі, Кітаі.

У парткабінеце павінен быць матар'ял аб мінулым і сучасным данага горада, раёна, завода, калгаса. Гістарычны паказ таго, хто уладаў заводамі, зямлёю раней, пры царызме, і хто ўладае імі цяпер дасць магчымасць пераканаўча выявіць тое бяздонне, якое ляжыць паміж цяжкім мінулым і шчаслівым сучасным. Адказы на пытанні агітатараў трэба арганізаваць праз мясцовую газету, праз радыё, каб давесці да ўсіх агітатараў.

Задача парткабінета—узняць культурны і палітычны ўзровень агітатара, навучыць яго чытаць газету, кніжку, арганізоўваць разбор прачытаных кніг, прагледжаных фільмаў. Журналы «Пропагандист», «Спутник агитатора» павінны аказваць вялікую дапамогу ў рабоце прапагандыста і агітатара.

Асобую дапамогу парткабінет павінен аказаць комсамолу, бо 50—60 проц. агітатараў—комсамольцы. Іх мы павінны навучыць агітаваць за справу партыі Леніна—Сталіна.

Парткабінет павінен чула прыслухоўвацца да агітатараў. Свой план работы партыйны кабінет павінен абавязкова абмеркаваць з прапагандыстамі і агітатарамі, каб ён адпавядаў іх патрабаванням.

На выкананне пералічаных задач і канцэнтруе зараз сваю ўвагу Гомельскі дом партасветы.

Усё сказанае не вычэрпвае задач, якія стаяць перад парткабінетам. Але партарганізацыі павінны зразумець, што Дом партыйнай асветы і парткабінет—важнейшае звяно ў сістэме выхаваўчай работы. Парткабінету трэба ўдзяліць вялікую ўвагу, стварыць усе матар'яльныя ўмовы для плодатворнай работы, абсталяваць, забяспечыць літаратурай, прывучыць прапагандыста і агітатара звярачацца ў парткабінет па ўсіх пытаннях.

Пры належнай дапамозе партарганізацыі наш парткабінет стане сапраўдным рычагом ідэйна-палітычнага выхавання шырокіх мас комуністаў, комсамольцаў і вялікай сям'і беспартыйных агітатараў.

І. Жыткоў

Сакратар Слуцкага РК КП(б)Б

# Справаздачна-выбарчыя сходы ў партарганізацыях Слуцкага раёна

Як толькі былі атрыманы газеты з пастановай ЦК ВКП(б) «Аб правядзенні выбараў кіруючых партыйных органаў» і «Інструкцыяй аб правядзенні выбараў кіруючых партыйных органаў», пярвічныя партыйныя арганізацыі адразу прыступілі да вывучэння гэтых важнейшых дакументаў.

6 красавіка адбыўся пленум райкома партыі з удзелам усіх парторгаў і партактыва. Пленум абмеркаваў пытанне аб правядзенні выбараў кіруючых партыйных органаў і зацвердзіў календарны план справаздачна-выбарчых сходаў. Да пярвічных партарганізацый прымацаваны члены пленума райкома партыі, інструктары і іншыя таварышы з райпартактыва для дапамогі парторгам у складанні справаздач аб рабоце партарганізацый і ў правядзенні сходаў.

Перад усёй нашай партарганізацыяй стаяць выключна вялікія задачы.

Мы павінны па-бальшэвіцку падрыхтавацца і правесці выбары ў Вярхоўны Совет БССР, закончыць сяўбу яравых у сціслыя тэрміны з захаваннем усіх агратэхнічных правіл, каб забяспечыць ураджай, які даў-бы калгасніку на працадзень мінімум 5 кгр. зярна і 2 руб. грашмі.

Мы павінны задаволіць просьбу калгаснікаў аб аказанні практычнай, арганізацыйнай і гаспадарчай дапамогі ў перанясенні хутарскіх будоўляў на цэнтральную калгасную сядзібу.

Мы павінны нашу арганізацыйна-масавую і палітыка-выхаваўчую работу так арганізаваць, каб усе дзяржаўныя абавязацельствы былі выкананы ў самыя кароткія тэрміны, бо ўрадавыя ўжо пратэрмінаваны.

Усе гэтыя важнейшыя гаспадарча-палітычныя задачы можна ажыццявіць толькі ў тым выпадку, калі ўся райпартарганізацыя і кожны комуніст паасобку па-бальшэвіцку возьмуцца за іх выкананне і арганізуюць на гэту справу шырокія масы рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных раёна.

Ні на мінуту мы не павінны забываць указанне нашага правадыра і настаўніка—таварыша Сталіна, зробленае ім яшчэ ў 1933 годзе:

> «Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасці Совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх рэштак адміраючых класаў. Іменна таму, што яны адміраюць і дажываюць апош-

нія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў, апелюючы да адсталых слаёў насельніцтва і мабілізуючы іх супроць Савецкай улады. Няма такой пакасці і паклёпу, якія-б гэтыя былыя людзі не ўзвялі на савецкую ўладу і вакол якіх не спрабавалі-б мабілізаваць адсталыя элементы. На гэтай глебе могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэвалюцыйных партый эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і ўскраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэвалюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў. Гэта, вядома, не страшна, але ўсё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы хочам пакончыць з гэтымі элементамі хутка і без асобых афяр».

Гэта ўказанне таварыша Сталіна павінны цвёрда памятаць камуністы нашай партарганізацыі, бо ў Слуцкім раёне стаяўшыя ў кіраўніцтве ворагі нарабілі шмат шкоды як у галіне севазваротаў, так і жывёлагадоўлі.

Неабходна прызнаць, што многія камуністы нашай партарганізацыі яшчэ не вынеслі неабходных урокаў са шкодніцкай дзейнасці права-трацкісцкіх шпіёнаў, не ўзначалілі барацьбу мас за хутчэйшую ліквідацыю вынікаў шкодніцтва.

У Кучынскай МТС (дырэктар Гурбо) рамонт усіх трактароў праведзен яўна нездавальняюча. Два трактары пасля рамонту адразу-ж вышлі са строю.

Рамонт трактароў аказаўся нядобраякасным, таму што парторг не здолеў арганізаваць камуністаў, камсамольцаў і беспартыйных рабочых на чэсную работу, на павышэнне рэвалюцыйнай пільнасці, на разгортванне крытыкі і самакрытыкі. У сваім справаздачным дакладзе парторг абышоў факты прамога шкодніцтва ў рамонце. Агульны сход пярвічнай партарганізацыі Кучынскай МТС прызнаў работу парторга Літошка нездавальняючай, а пры выбарах парторга тайным галасаваннем яго кандыдатура была забалатыравана.

Таварыш Сталін у справаздачным дакладзе XVII партз'езду сказаў, што «перамога ніколі не прыходзіць сама,—яе звычайна прыцягваюць». Пацверджаннем гэтых слоў можа служыць работа слуцкай арцелі імя Молатава. Арцель выпрабляе мяккую мэблю. План першага квартала 1937 года арцель выканала на 59 проц., другога—на 96 проц., трэцяга—на 124 проц., чацвертага—на 130 проц. У рэзультаце праграма 1937 года выканана арцеллю на 101,2 проц. Першы квартал 1938 г. арцель выканала на 107 проц. У апошні час работа арцелі значна палепшылася таму, што было адноўлена партыйнае і гаспадарчае кіраўніцтва. Гэта адзначыў тав. Шпількін у справаздачным дакладзе, гэта адзначалася і ў спрэчках па дакладу. Агульны сход пярвічнай партарганізацыі прызнаў работу здавальняючай. Аднак другі сакратар райкома партыі тав. Азерскі выступіў з зусім няправільным заяўленнем, стараючыся сваім аўтарытэтам запэўніць сход, што работу трэба прызнаць нездавальняючай, што і было зроблена пры паўторным галасаванні.

У рабоце пярвічнай партарганізацыі арцелі імя Молатава ёсць, бясспрэчна, рад істотных недахопаў. На справаздачна-выбарчым сходзе зусім правільна адзначалася добрая пастаноўка масавай работы сярод членаў арцелі і актыва, чым тлумачацца гаспадарчыя поспехі і рост камсамольскай арганізацыі, створанай 8 месяцаў назад. Але

таксама правільна ўказвалася і на дрэнную работу па павышэнню ідэйна-палітычнага ўзроўню комуністаў, у рэзультаце чаго няма росту партарганізацыі, на слабое кіраўніцтва комсамольскай арганізацыяй. Гэтыя недахопы адзначаны зусім правільна. Але няправільна не бачыць з-за іх ролю комуністаў у выкананні промфінплана. Той факт, што арцель стала выконваць промфінплан, трэба, безумоўна, аднесці да арганізуючай ролі пярвічнай партарганізацыі. Няправільна абагульняць мінулае кіраўніцтва з аднаўленым, валіць усё ў адну кучу, без усякага размежавання, тым больш, што новае кіраўніцтва на радзе ўчасткаў паказала ўжо добрыя ўзоры работы.

14 красавіка першыя справаздачна-выбарчыя сходы былі праведзены ў 3 пярвічных партарганізацыях: Горсовета, Лесдрэўхімсаюза і Хлебапякарні. Нарада парторгаў пры райкоме партыі абмеркавала вынікі гэтых сходаў.

Праведзеная 11 красавіка нарада парторгаў разам з прымацаваным актывам адзначыла, што ў паасобных партарганізацыях ёсць рад сур'ёзных недахопаў і нават выпадкі парушэння статута партыі.

Так, напрыклад, Урэцкая тэрытарыяльная партарганізацыя, якая налічвае 19 комуністаў, па статуту партыі павінна мець партком. Тым часам там выбралі парторга. Але ні парторг тав. Халанскі, ні інструктар райкома тав. Шведак не заўважылі гэтага парушэння статута. Партарганізацыя Горсовета, якая складаецца з 18 комуністаў, таксама выбрала парторга, і ні парторг тав. Шведак, ні члены бюро райкома т. т. Эзрын і Дзенісевіч не прымецілі, што яны парушаюць статут партыі.

Пункт 51 статута нашай партыі гаворыць:

> «Для вядзення бягучай работы пярвічная партыйная арганізацыя выбірае партыйны камітэт... У партыйных арганізацыях, якія налічваюць менш 15 членаў і кандыдатаў, партыйныя камітэты не ствараюцца, а вылучаюцца партыйныя арганізатары».

З гэтага ўказання статута ясна відаць, што партарганізацыі Горсовета і Урэцкая павінны былі выбраць партком. Райком партыі прапанаваў ім правесці партсходы паўторна і выбраць партком.

Бюро райкома партыі дапусціла памылку тым, што загадзя не дало афіцыяльнага ўказання пярвічным партарганізацыям, дзе павінны выбірацца парторгі і дзе парткомы. Гэтую памылку мы хутка выправілі і думаем, што яна больш не паўторыцца.

Партыйна-комсамольская група міліцыі чыгункі станцыі Слуцк у прысутнасці парторга тав. Філіповіча і інструктара райкома тав. Ігаевай адкрытым галасаваннем выбрала дэлегата на раённую партканферэнцыю. Тут адразу два парушэнні: па-першае, парушана інструкцыя ЦК ВКП(б) аб тайным галасаванні і, па-другое, не ўлічана таго, што ў групе толькі два комуністы.

Пярвічная партарганізацыя загатавіцеляў склікала сход у цесным пакоі. У партарганізацыі хлебапякарні сход пачаўся са спазненнем на 2 гадзіны. Усё гэта гаворыць аб тым, што парторгі тт. Кабакоў, Мядзведзеў зусім нездавальняюча рыхтаваліся да сходаў пярвічных партарганізацый.

На 23 красавіка з 35 пярвічных партарганізацый раёна справаздачна-выбарчыя сходы праведзены ў 15-ці. Выбрана парткомаў 1, парторгаў 14, сярод якіх 10 ранейшых парторгаў. Гэта паказвае, што

абсалютная большасць парторгаў карыстаецца давер'ем у партыйных масах, як людзі, здольныя праводзіць лінію нашай партыі ў сваёй штодзеннай практычнай рабоце.

Актыўнасць комуністаў добрая. Агульны процант наведвання сходаў—93,7. Не былі на сходах 9 комуністаў выключна па ўважлівых прычынах (хвароба або працяглая камандзіроўка). У выступленнях прынялі ўдзел усе прысутныя на сходах, смела крытыкуючы работу райкома партыі, яго сакратароў, парторгаў і паасобных комуністаў. Крытыкавалі галоўным чынам за дрэнную пастаноўку работы з кандыдатамі, спачуваючымі, за нездавальняючае кіраўніцтва комсамолам, профсаюзамі, совецкімі і грамадскімі арганізацыямі.

Таварыш Сталін, гаворачы аб кіруючай ролі нашай партыі указваў:

> «Партыя ажыццяўляе дыктатуру пролетарыята. Але яна ажыццяўляе яе не непасрэдна, а пры дапамозе профсаюзаў, праз советы і іх разгалінаванні. Без гэтых «прыводаў» колькі-небудзь трывалая дыктатура была-б немагчыма».

Бокшыцкая тэрытарыяльная пярвічная партарганізацыя не здолела кіраваць сельсоветамі і калгасамі так, як вучыць нас таварыш Сталін. У выніку сельскі совет не выканаў плана фінансавых плацяжоў, рад калгаснікаў і аднаасобнікаў не выканаў плана мясапаставак.

У калгасе імя Закоўскага выключна вялікі процант падзежу маладняка толькі таму, што няма сапраўднай мабілізацыі калгаснікаў на барацьбу з ворагамі, якія нейкім чынам ухітрыліся падліваць газу ў малако для паення цялят. Дрэнна арганізавана дапамога калгаснікам, якія жадаюць пераехаць з хутароў на цэнтральную сядзібу.

Крытыка зусім правільна ўскрывае недахопы як у рабоце пярвічных партарганізацый, так і райкома партыі. Райком мала дапамагае пярвічным партарганізацыям у іх практычнай рабоце, сакратары райкома вельмі рэдка, а то і зусім не бываюць у пярвічных партарганізацыях. Аднак выступаючыя таварышы недастаткова ўскрываюць прычыны адставання як паасобных советаў, калгасаў, так у цэлым раёна ў правядзенні важнейшых гаспадарча-палітычных кампаній.

Паасобныя таварышы зусім няправільна разумеюць ролю нашай партыі і паасобных комуністаў на ўсіх участках нашай работы. Так, комуністка тав. Дэйнес лічыць, што яна можа і павінна працаваць толькі на кіруючай рабоце раённага маштаба і ніяк не пойдзе на радавую работу, на вытворчасць, не будзе экспедытарам, кантралёрам і інш. Яна зусім не хоча зразумець указанне таварыша Сталіна, што «толькі тыя кадры добрыя, якія не баяцца цяжкасцей, якія не хаваюцца ад цяжкасцей, а, наадварот, ідуць насустрач цяжкасцям для таго, каб перамагчы і ліквідаваць іх».

Ёсць яшчэ і такія комуністы, якія не засвоілі ўказанне ЦК ВКП(б):

> «Лічыць важнейшай задачай усіх партыйных арганізацый у надыходзячых выбарах забяспечыць выбранне ў кіруючыя партыйныя органы ўпаўне праверaных большэвікоў, беззаветна адданых нашай партыі, выпрабаваных у барацьбе з ворагамі

народа і здольных да канца абараняць справу комуністычнай партыі».

Так, партарганізацыя Лесдрэўхімсаюза вылучыла кандыдатуру тав. У. у намеснікі парторга. Але ёй быў дан адвод па тых матывах, што яе муж—вораг народа. Аднак вылучаўшыя тэтую кандыдатуру таварышы не разумеюць, што партарганізацыя паступіла зусім правільна—у адпаведнасці з указаннем ЦК ВКП(б).

Першы вывад, які можна зрабіць з праведзеных справаздачна-выбарчых сходаў, гэта—значны рост палітычнай актыўнасці комуністаў, павышэнне большэвіцкай пільнасці і шчырае жаданне змагацца за лінію партыі з усімі ворагамі з трацкісцка-бухарынскай банды япона-германа-польскага фашызма. Ва ўсіх пярвічных партарганізацыях павінна быць разгорнута такая крытыка, якая ўскрыла-б прычыны адставання, агульнымі сіламі намеціла канкрэтныя мерапрыемствы па выкананню задач, якія стаяць перад кожнай партарганізацыяй нашага раёна.

Толькі смелая, рашучая, сапраўды большэвіцкая крытыка і самакрытыка нашай работы дапаможа нам па-большэвіцку ліквідаваць вынікі шкодніцтва, ускрыць і выкарчаваць усіх ворагаў, якою-б маскай яны ні прыкрываліся, зрабіць наш раён адным з перадавых не толькі ў вобласці, але і ў рэспубліцы.

Ідучы да раённай партыйнай канферэнцыі і ў штодзеннай нашай рабоце мы павінны памятаць словы таварыша Сталіна, сказаныя ім на XV партз'ездзе:

«Калі мы, большэвікі, якія крытыкуюць увесь свет, якія, гаворачы словамі Маркса, штурмуюць неба, калі мы дзеля спакойнасці тых ці іншых таварышоў адмовімся ад самакрытыкі,—то хіба не ясна, што нічога, акрамя пагібелі нашай вялікай справы, не можа з гэтага атрымацца».

---

**П. Савіцкі**

В. а. сакратара Кагановіцкага горрайкома КП(б)Б.

# Выбары кіруючых парторганаў—сур'ёзная праверка партыйнай работы

Кагановіцкая партарганізацыя, як і ўся КП(б)Б, прышла да справаздачна-выбарчай кампаніі з агромнымі поспехамі.

З часу апошніх выбараў у партыйныя органы прайшоў год. За гэты год наша партыя пад кіраўніцтвам найвялікшага генія чалавецтва таварыша Сталіна, узброеная гістарычным рашэннем лютаўска-сакавіцкага пленума ЦК ВКП(б), ачысціла свае рады ад ворагаў народа—трацкісцка-бухарынскіх і нацыянал-фашысцкіх агентаў замежных разведак. За гэты год наша краіна пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна ўзнялася на новую ступень соцыялістычнага дэмакратызма. На аснове самай дэмакратычнай у свеце Канстытуцыі выбран Вярхоўны Совет СССР. Атрымана гістарычная перамога блока комуністаў і беспартыйных. Гэты блок стаў найвялікшаю сілай у нашай краіне, ён з'яўляецца фактам моцнай, непарушальнай сувязі большэвіцкай партыі з масамі. Вакол партыі вырас новы шматлікі актыў праверанных на грамадскай рабоце таварышоў. Вялікая колькасць з іх вылучана на кіруючую партыйную, гаспадарчую і профсаюзную работу.

Цэнтральны Камітэт ВКП(б) у сваёй пастанове аб правядзенні выбараў кіруючых парторганаў запісаў:

> «Лічыць важнейшай задачай усіх партыйных арганізацый у надыходзячых выбарах забяспечыць выбранне ў кіруючыя партыйныя органы зусім праверанных большэвікоў, беззаветна адданых нашай партыі, выпрабаваных у барацьбе з ворагамі народа і здольных да канца абараняць справу комуністычнай партыі.
>
> Выбары кіруючых партыйных органаў павінны быць праведзены пад знакам далейшага ўсямернага ўздыму партыйна-палітычнай работы, умацавання сувязі партарганізацый з масамі і паспяховага выканання палітычных і гаспадарчых задач, што стаяць перад партарганізацыямі».

Гэтыя ўказанні ляглі ў аснову нашай работы ў падрыхтоўцы і правядзенні справаздачна-выбарчых сходаў парторганаў.

Кагановіцкі райком партыі, у адпаведнасці з рашэннямі ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, з 2 красавіка прыступіў да падрыхтоўкі пар-

вічных партарганізацый да справаздачна-выбарчай кампаніі. Райком правёў нарады сакратароў парткомаў, парторгаў і ўпаўнаважаных па выбарах у пярвічных партарганізацыях. На нарадах абмеркавалі пастанову ЦК ВКП(б) «Аб правядзенні выбараў кіруючых партыйных органаў» і інструкцыю аб правядзенні выбараў. Бюро райкома партыі разглядзела і зацвердзіла план правядзення выбараў па пярвічных партарганізацыях. Пастанова ЦК ВКП(б) і інструкцыя аб правядзенні выбараў кіруючых партыйных органаў абмеркавана на сходах пярвічных партарганізацый. Парткомы і парторгі прыступілі да складання справаздач аб сваёй рабоце.

К 25 красавіка выбары партыйных камітэтаў закончаны ў 45 арганізацыях. Яркім паказчыкам ідэйна-палітычнага росту комуністаў з'яўляецца яўка іх на сходы. Усяго па 45 арганізацыях павінна было прысутнічаць 1.169 членаў і кандыдатаў партыі, фактычна прысутнічала 1.078, прычым без уважлівых прычын на сходы не з'явілася толькі 12 чалавек, што складае нязначны процант.

На справаздачна-выбарчых партсходах комуністы падверглі крытыцы работу парткомаў і РК КП(б)Б. Тав. Кацовіч (партарганізацыя завода «Ударнік») гаварыў: «Наша партарганізацыя мае вялікія дасягненні. Яна-б мела яшчэ большыя, калі-б партком займаўся праверкай сваіх-жа рашэнняў. Партком не правяраў, як комуністы выконваюць даручаную ім работу».

На сходзе партарганізацыі Наркамзема комуністы крытыкавалі партком за тое, што ён зусім не займаўся гаспадарчымі пытаннямі. Усе павесткі дня партсходаў і пасяджэнняў парткома былі запоўнены разборам асабістых спраў комуністаў, прычым значная частка гэтых спраў была паклёпніцкай. Аб адмене райкомам рашэнняў партарганізацыі Наркамзема і аднаўленні комуністаў, на якіх быў узведзен паклёп, сакратар парткома тав. Малашэнка не паведамляў партыйнаму сходу. Член партыі Балотнікаў пачкамі пасылаў заявы з паклёпніцкім матар'ялам. Толькі на комуністаў Наркамзема ён напісаў 12 заяў. Паводзіны Балотнікава не сталі прадметам абмеркавання парткома. Тав. Панамароў крытыкаваў тав. Малашэнка за тое, што ён не паказаў у сваім дакладзе комуністаў, якія нядрэнна змагаюцца за выкананне рашэнняў партыі, і ўсіх без разбору лічыў дрэннымі работнікамі. Тав. Панамароў расказаў сходу, як ён выклікаў на соцспаборніцтва нам. наркома тав. Івашчэнка і як той на працягу двух месяцаў не знайшоў часу прыняць Панамарова па гэтаму пытанню.

Комуністы фабрыкі імя Тэльмана крытыкавалі партком за бяззубыя рашэнні. На адным з пасяджэнняў партком заслухаў даклад аб стансвішчы палітычнай агітацыі і прапаганды ў арганізацыі і прыняў такое рашэнне: «1. Даручыць Соркіну ўкамплектаваць школу; 2. прапанаваць комуністам хадзіць на заняткі і 3. агітацыю лічыць нездавальняючай».

Зразумела, што такія рашэнні не мабілізуюць комуністаў і з'яўляюцца рэзультатам фармальных адносін да разбору важнейшых пытанняў.

У партарганізацыі фабрыкі «Куйбышэва» рэзкай крытыцы была падвергнута работа гаркома партыі, які да гэтага часу не здолеў наладзіць нармальную вучобу гарадскога партыйнага актыва. Комуністы ўказвалі, што гарком партыі ў даным пытанні паказаў пярвіч-

ным партарганізацыям прыклад, як не трэба арганізоўваць партыйную вучобу.

У гарадской партыйнай школе, гаварылі комуністы гэтай арганізацыі, існавала на яўрэйскай мове адна група па гісторыі ВКП(б) для таварышоў, якія дрэнна ўладаюць рускаю мовай, але невядома па якіх прычынах гэту групу ліквідавалі. Слухачы былі пераведзены ў іншыя групы, што значна адбіваецца на засваенні імі праграмы.

Парторг цэхавай групы фабрыкі «Кастрычнік» тав. Фрэйнклах на справаздачна-выбарчым сходзе гаварыла: «Наша партыйная арганізацыя пасля выкрыцця ворагаў народа мае значны рост комуністаў. Няма ў нас больш зажыму самакрытыкі, комуністы прыцягваюцца да штодзеннай работы, але партком слаба дапамагае парторгам. Я чатыры гады працую цэхавым парторгам, аднак партком ні разу не заслухаў маю справаздачу». Тав. Бурштэйн заявіў: «Партком не выканаў пастановы папярэдняга справаздачна-выбарчага сходу. Партыйныя сходы і цяпер праводзяцца налётам, без падрыхтоўкі. Вельмі часта комуністы ідуць на партсход, не ведаючы нават павесткі дня».

У партарганізацыі Наркоммясцпрома партком крытыкавалі за тое, што ён не прыцягваў да актыўнага палітычнага жыцця ўсіх комуністаў. Многія таварышы не мелі нават партыйных нагрузак. Райком партыі быў падвергнут крытыцы за роспуск партыйнага камітэта.

На фабрыцы імя Тэльмана комуністы крытыкавалі райком партыі за тое, што Вайчук, які згубіў свой партыйны білет, на працягу двух месяцаў прадаўжаў заставацца сакратаром партыйнага камітэта.

На справаздачна-выбарчым сходзе Сантэхбуда комуністы крытыкавалі парторга тав. Кадушына за дрэннае кіраўніцтва партыйнай вучобай. Гурток укамплектован няправільна. У ім займаюцца людзі з рознай палітычнай падрыхтоўкай, што перашкаджае засваенню праграмы. Тав. Юрэвіч заявіў: «Я малаграматны і таму мне вельмі цяжка паспяваць ў вучобе за больш развітымі таварышамі. Было рашэнне партыйнай арганізацыі аб разбіўцы гуртка ў адпаведнасці з развіццём комуністаў, але яно засталося на паперы».

На заводзе «Ударнік» члены партыі крытыкавалі райком за слабае кіраўніцтва партыйнай вучобай. За год у арганізацыі змяніліся 4 прапагандысты, на працягу 6 тыдняў партыйная вучоба зрывалася, а райком не прымаў мер.

У партарганізацыі Мединстытута комуністы крытыкавалі партком за тое, што не ўсе яго члены прымалі актыўны ўдзел у рабоце. Сакратар парткома тав. Рамашкоў празмерна загружаў сябе работай, не прыцягваючы да яе членаў парткома і партыйны актыў.

Рэзкай крытыцы падверглі комуністы цагельнага завода №2 работу райкома і гаркома ЛКСМБ. На заводзе—трое комсамольцаў і многа беспартыйнай моладзі. Парторг тав. Шаблоў не раз прасіў арганізаваць комсамольскую групу, работнікі райкома многа раз абяцалі, але на працягу года не знайшлі часу наведаць завод. Цікава, што гарком комсамола ў гэту неіснуючую комсамольскую арганізацыю ўвесь час шле свае дырэктывы. Вось некаторыя з гэтых дакументаў:

«Гарком ЛКСМБ прапануе пад асабістую адказнасць сакратара камітэта штомесячна прадстаўляць у гарком ЛКСМБ зводку: колькі пярвічнай арганізацыяй прынята ў члены ЛКСМБ, указаць наяўнасць моладзі. Сакратар гаркома ЛКСМБ Глебаў. 10 лютага 1938 года».

У другой адносіне гарком прыслаў форму для запаўнення, з прыпіскай: «за своечасовую дастаўку звестак персанальна адказвае сакратар камітэта, комсорг».

Каментарыі да гэтых дакументаў, як быццам, лішні.

Некаторыя сакратары парткомаў, парторгі фармальна падышлі да падрыхтоўкі справаздачна-выбарчых сходаў.

На сход партарганізацыі Соўнаркома з'явілася ўсяго 80 проц. комуністаў. Сход пачаўся са спазненнем на паўтары гадзіны. Сакратар парткома тав. Александраў за 50 мінут зрабіў свой справаздачны даклад, ні слова не сказаўшы, як выконваюцца пастановы студзеньскага пленума ЦК ВКП(б), не ўпомніўшы аб памылках, якія сам партком дапусціў пры разборы спраў аб выключэнні комуністаў з партыі.

Парторг партарганізацыі Белторфа тав. Жукаў умудрыўся закончыць свой справаздачны даклад за 15 мінут. Нічога не сказаў ён аб падрыўной рабоце ў трэсце ворагаў народа, выкрытых паміма партарганізацыі. Нічога не сказаў, што зрабіла партарганізацыя для ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў трэсце. Ні словам не абмовіўся аб тым, як член партыі Саўковіч узвёў паклёп на комуністаў, дабіваўся зацверджання сябе дырэктарам Белторфа. Комуністы зусім правільна далі рэзкі адпор Жукаву і аднадушна рашылі адкласці сход на пяць дзён, абавязаўшы парторга лепш падрыхтавацца да справаздачы.

Рэзкая крытыка на справаздачна-выбарчых сходах знайшла сваё адлюстраванне ў вынесеных імі рашэннях. Работа парткомаў многіх пярвічных партарганізацый (фабрыкі «Кастрычнік», шклозавода «Пролетарый») прызнана нездавальняючай. Комуністы сур'ёзна аднесліся да вылучэння кандыдатур у склад парткома, пакідаючы ў спісах таварышоў, якія карыстаюцца давер'ем і аўтарытэтам сярод членаў партыі і беззаветна адданы справе партыі Леніна—Сталіна.

У новаабраным кіруючым складзе пярвічных партыйных арганізацый павялічыўся процант рабочых, павялічылася колькасць беларусаў, сакратарамі парткомаў і парторгамі вылучана многа новых таварышоў.

Крытыка комуністамі памылак і недахопаў работы абавязвае парткомы і райком партыі ў першую чаргу ўзмацніць кіраўніцтва, быць пастаянна ў курсе жыцця пярвічных партарганізацый, наладзіць сістэматычную праверку выканання рашэнняў партыі, прыцягваць да работы актыў, яшчэ больш сур'ёзна заняцца пытаннем партыйнай прапаганды і агітацыі. Асобую ўвагу трэба ўдзяляць рэалізацыі рашэнняў і прапаноў комуністаў на справаздачна-выбарчых партсходах.

Выбары кіруючых партыйных органаў з'яўляюцца буйнейшай, сур'ёзнейшай праверкай партыйнай работы. Кіраўнікі партарганізацый трымаюць палітычны экзамен перад партыйнаю масай. Яны павінны паказаць, як згуртоўвалі большэвікоў на барацьбу за генеральную лінію партыі, як змагаліся і выкаранялі трацкісцка-бухарынскіх бандытаў, нацыянал-фашысцкіх агентаў і іншых заядлых ворагаў народа.

Самае галоўнае—правесці выбары на высокім палітычным узроўні, смела вылучаць маладыя кадры, пільна сачыць за тым, каб ні адзін вораг не прабраўся ў партыйныя органы. Пры вылучэнні і абмеркаванні кандыдатур у кіруючыя партыйныя органы трэба прымяняць

толькі ленінска-сталінскі прынцып падбору кадраў, ацэньваць людзей па іх палітычных і дзелавых адзнаках: як яны палітычна выхоўваюць масы, як выконваюць палітычныя і гаспадарчыя задачы, што стаяць перад партарганізацыяй.

Ажыццяўляючы гэты асноўны прынцып, большэвікі Кагановіцкага раёна гор. Менска пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б з чэсцю выканаюць пастанову ЦК ВКП(б) і выберуць у кіруючыя партыйныя органы ўпаўне правераных большэвікоў, беззаветна адданых справе нашай партыі, выпрабаваных у барацьбе з ворагамі народа, здольных да канца абараняць справу комуністычнай партыі.

---

**Ем. Яраслаўскі**

# Пятнаццацігоддзе XII з'езда партыі

Пятнаццаць год назад, 17-25 красавіка 1923 года, адбываўся XII з'езд ленінска-сталінскай партыі.

**В. І. Ленін,** будучы цяжка хворы, на гэтым з'ездзе не мог прысутнічаць. Аднак, як і ўсе з'езды большэвіцкай партыі, XII з'езд праходзіў пад глыбокім уплывам ленінскіх ідэй, строга кіраваўся ленінскімі ўказаннямі. Барацьбу на з'ездзе супроць усіх варожых ленінізму элементаў, супроць прэзрэнных трацкістаў-бухарынцаў, буржуазных нацыяналістаў і іншых подлых двурушнікаў узначаліў таварыш **Сталін.** Таварыш Сталін нястомна змагаўся за правядзенне ленінскіх прапаноў і ўказанняў, мабілізуючы ўсю партыю, усіх працоўных на іх ажыццяўленне.

У лістападзе 1922 года, выступаючы на пленуме Моссовета і падводзячы вынікі першага пяцігоддзя совецкай улады, **Ленін** гаварыў, што з «Расіі нэпаўскай будзе Расія соцыялістычная». Незадолга да XII з'езда **Ленін** у радзе артыкулаў даў надзвычай важныя прапановы. Гэтыя прапановы **В. І. Леніна** наклалі глыбокі адбітак на рашэнні з'езда і на ўсю далейшую дзейнасць большэвіцкай партыі.

Даволі пералічыць пытанні, пастаўленыя ў артыкулах **«Як нам рэарганізаваць Рабкрын»,** **«Лепш менш, ды лепш»,** напісаных, вярней, прадыктаваных Леніным ужо ў час хваробы, каб зразумець, якое агромнае значэнне мелі гэтыя ўказанні Ільіча. У сваіх артыкулах Ленін паставіў і геніяльна вырашыў усе важнейшыя пытанні палітыкі нашай партыі, спалучыўшы іх з праблемамі і перспектывамі сусветнай соцыялістычнай рэволюцыі, з задачамі пабудовы ў СССР бяскласавага, соцыялістычнага грамадства. Владзімір Ільіч даў важнейшыя ўказанні аб значэнні індустрыялізацыі і электрыфікацыі краіны пролетарскай дыктатуры, аб узаемаадносінах рабочага класа і сялянства, аб шляхах стварэння свабоднага ад бюракратычных скажэнняў апарата пролетарскай дзяржавы, аб мерах, папярэджваючых магчымасці расколу комуністычнай партыі, і рад іншых, не менш важных пытанняў.

У артыкуле «Аб кааперацыі», напісаным у студзені 1923 года, **Ленін** паказаў агромнае, зусім выключнае значэнне кааперацыі для перамогі соцыялізма.

Іменна ў гэтых артыкулах **Ленін** паставіў з усёй чоткасцю задачу—перасесці «з каня сялянскага, мужыцкага, агалелага, з каня эканомій, разлічаных на зруйнаваную сялянскую краіну,—на каня, якога шукае і не можа не шукаць для сябе пролетарыят, на каня буйнай машыннай індустрыі, электрыфікацыі, Волхаўбуда і т. д.» *)

*) *В. І. Ленін.* Збор твораў, т. XXVII, стар. 417.

**В. І. Ленін** падвёў вынікі барацьбы за соцыялізм і намеціў план пабудовы соцыялістычнай гаспадаркі, соцыялістычнага грамадства ў СССР. Высоўваючы на першае месца пытанне аб **індустрыялізацыі** краіны, аб яе электрыфікацыі, **Ленін** развіў свой выдатны **кааперацыйны план**—план пераводу шматмільённых сялянскіх мас на рэйкі соцыялізма. **Ленін** лічыў кааперацыю самым даступным, блізкім і зразумелым мільённым сялянскім масам шляхам перераробкі дробнай, аднаасобнай сялянскай гаспадаркі ў буйную, абагуленую, соцыялістычную гаспадарку. Для выканання гэтага плана, указваў **Ленін,** рашаючае значэнне мае **захаванне і ўмацаванне саюза рабочых і сялян** пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі.

Яшчэ ў 1921 годзе **Ленін** у плане брашуры аб продналогу пісаў:

> «10—20 год правільных суадносін з сялянствам і забяспечана перамога ў сусветным маштабе (нават пры зацяжцы пролетарскіх рэволюцый, якія растуць), інакш 20—40 год мучэнняў белагвардзейскага тэрору» *).

Таму задача захавання і ўмацавання саюза пролетарыята і сялянства пад кіраўніцтвам рабочага класа мела гіганцкае значэнне для барацьбы за соцыялістычнае будаўніцтва.

Перыяд, які ахапляе канец 1922 года і пачатак 1923 года, з'явіўся пераломным унутры нашай краіны. Сялянская гаспадарка значна ўмацавалася. Палепшаліся транспарт і прамысловасць. Вялікае значэнне мела для ўзмацнення магутнасці Совецкага Саюза і тая акалічнасць, што восенню 1922 года Чырвоная Армія і партызаны вызвалілі Далёкі Ўсход ад японскіх захватчыкаў.

У снежні 1922 года адбыўся Першы ўсесаюзны з'езд советаў, які яшчэ больш замацаваў сувязь і дружбу шматнацыянальных народаў Совецкай краіны ў адну магутную соцыялістычную дзяржаву. Па прапанове **Леніна і Сталіна,** першы ўсесаюзны з'езд советаў утварыў Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

* * *

XII з'езд партыі ў сваіх рашэннях выходзіў з ленінскіх прапаноў і ўказанняў. Большэвіцкая партыя дала рашучы адпор апартуністычным элементам, якія прабавалі звярнуць партыю з выпрабаванага ленінскага шляху.

Ужо першыя рашэнні, прынятыя XII з'ездам, паказалі, што партыя цвёрда і непахісна абараняе ленінскую лінію. У рэзалюцыі па справаздачы ЦК партыі з'езд, ухваляючы міжнародную палітыку Цэнтральнага Камітэта, рашуча асудзіў якія-б там ні было хістанні ў гэтай галіне. З'езд катэгарычна пацвердзіў таксама непахіснасць манаполіі знешняга гандлю. З'езд даручыў Цэнтральнаму Камітэту «прыняць сістэматычныя меры да ўмацавання і развіцця рэжыму манаполіі знешняга гандлю».

Адкуль-жа ішла небяспека зрыву манаполіі знешняга гандлю ў нашай краіне?

Гэта небяспека ішла з боку Бухарына, Сакольнікава, Радэка і іншых здраднікаў, выкрытых потым як прадажных агентаў фашызма. Прабуючы сарваць манаполію знешняга гандлю, яны выконвалі заданні разведак буржуазных дзяржаў. Капіталістычныя дзяржавы ўсімі мерамі імкнуліся сарваць манаполію знешняга гандлю.

*) *В. І. Ленін,* т. XXVI, стар. 313.

Напярэдадні XII з'езда, 18 снежня 1922 года, адбываўся Пленум Цэнтральнага Камітэта партыі, скліканы для абмеркавання і вырашэння пытання аб манаполіі знешняга гандлю. Яшчэ да Пленума ЦК **Ленін** у пісьме таварышу **Сталіну** пісаў з поваду Бухарына, які абараняў зрыў манаполіі знешняга гандлю:

«... Усе разважанні Бухарына аб мытнай палітыцы на практыцы азначаюць нішто іншае, як паўнейшую безабароннасць рускай прамысловасці і прыкрыты самай лёгкай вуаллю пераход да сістэмы свабоднага гандлю. Супроць гэтага мы павінны змагацца з усіх сіл і змагацца аж да партыйнага з'езда, бо ні аб якой сур'ёзнай мытнай палітыцы зараз, у эпоху імперыялізма, не можа быць і гутаркі, акрамя сістэмы манаполіі знешняга гандлю...

На практыцы Бухарын становіцца на абарону спекулянта, дробнага буржуа і верхавінак сялянства супроць прамысловага пралетарыята...» *)

Прыхільнікамі зрыву манаполіі знешняга гандлю выступалі выкрытыя потым ворагі народа Сакольнікаў, Бухарын, Радэк, Мдзівані і некаторыя іншыя.

**Ленін і Сталін** рашуча змагаліся супроць кулацкага пункту погляду Бухарына па пытанню аб манаполіі знешняга гандлю. Як устаноўлена цяпер, Бухарын і Сакольнікаў і тады з'яўляліся прамымі агентамі буржуазіі. Тое-ж самае трэба сказаць і аб грузінскіх нацыяналістах (Б. Мдзівані і інш.), якія адстойвалі стварэнне замежных банкаў на Каўказе.

Супроць каўказскіх нацыяналістаў рашуча выступілі таварышы **Сталін** і **Орджанікідзе.** Вельмі характэрна, што калі замежныя банкі ў Грузіі былі закрыты, то каўказскі нацыяналіст Б. Мдзівані (выкрыт потым як вораг народа, як агент фашыстаў, які рыхтаваў аддаць Закаўказзе ў кабалу імперыялістам) і іншыя настойвалі на неабходнасці аднавіць замежныя банкі, г. зн. аднавіць на савецкай тэрыторыі ачагі буржуазнага ўплыву.

Прыхільнікі гэтай палітыкі настойвалі на адкрыцці некаторых партоў для свабоднага гандлю з капіталістычнымі дзяржавамі, што азначала **ў той час** адкрыць граніцы для больш моцнага капіталістычнага рынка, адкрыць савецкія граніцы для пранікнення ў краіну пад выглядам гандлёвых агентаў, банкаўскіх фінансавых дзялкоў, камівояжэраў і т. п. агромнай колькасці замежных разведчыкаў, шпіёнаў і дыверсантаў.

Партыя дала бязлітасны адпор усім элементам, якія прабавалі звярнуць развіццё нашай гаспадаркі з соцыялістычнага шляху.

У рэзалюцыі **аб прамысловасці** зноў падкрэслівалася неабходнасць барацьбы супроць усіх спроб аслабіць манаполію знешняга гандлю.

* * *

Другім пытаннем, па якому партыя дала бой ворагам ленінізма, было пытанне **аб узаемаадносінах партыі і дзяржаўнага апарата.**

XII з'езд партыі спецыяльна адзначыў, што абстаноўка нэпа (не трэба забываць, што гэта быў першапачатковы перыяд нэпа) «стварае глебу для ўхілаў, небяспека якіх павінна быць прадугледжана

*) *В. І. Ленін*, Творы, т. XXVII, стар. 381.

партыяй, і якім партыя павінна з самага-ж пачатку даць рашучы ідэйны адпор».

XII з'езд партыі ўказаў, што асабліва небяспечнымі і згубнымі для рэвалюцыі і для нашай партыі з'яўляюцца ўхілы, якія **процістаўляюць** совецкую дзяржаву рабочаму класу і партыю—совецкай дзяржаве. XII з'езд папярэджваў, што развіццё гэтых ухілаў вядзе да ліквідатарскіх вывадаў, г. зн. да барацьбы супроць комуністычнай партыі і супроць пролетарскай дыктатуры.

Гісторыя далейшай барацьбы ленінска-сталінскай партыі паказала, наколькі права была партыя, аб'явіўшы сакрушальную барацьбу ворагам ленінізма. Гэтыя антыбольшэвіцкія элементы, выступаўшыя на XII з'ездзе партыі са спробамі аслабіць кіраўніцтва партыі дзяржаўным і гаспадарчым апаратам, потым перайшлі да прамой барацьбы супроць ВКП(б), супроць пролетарскай дыктатуры, сталі на шлях контррэволюцыі, скаціліся ў смярдзючае балота фашызма. Цяпер, пасля выкрыцця ворага народа Бухарына і іншых, мы ведаем, што некаторыя з выступаўшых тады з крытыкай партыі ўжо ў той час былі, як і Троцкі, агентамі замежных разведак. Яны толькі майстэрскі маскіравалі сапраўдны сэнс сваіх нападак на партыйную лінію.

Іуда-Троцкі, Радэк і Осінскі былі прыхільнікамі большай «незалежнасці» дзяржаўнага апарата ад партыі. Гэта было імкненне заклятых ворагаў рабочага класа вызваліцца ад партыйнага кіраўніцтва, звесці на нішто кіруючую ролю партыі.

У рэзалюцыі па справаздачы ЦК з'езд запісаў:

> «РКП кіруе і павінна кіраваць усёй палітычнай і культурнай работай органаў дзяржаўнай улады, накіроўвае і павінна накіроўваць дзейнасць усіх гаспадарчых органаў рэспублікі. Задача партыі не толькі ў тым, каб правільна размеркаваць сваіх работнікаў па асобных галінах дзяржаўнай работы, але і ў тым, каб ва ўсім істотным вызначаць і правяраць самы ход гэтай работы. Партыя ні ў якім разе не можа цяпер абмяжоўвацца толькі агульнай прапагандай і агітацыяй».

Далей, у той-жа рэзалюцыі сказана:

> «Сістэматычна прыцягваючы да гаспадарчай і агульнадзяржаўнай работы ўсё, што ёсць каштоўнага сярод беспартыйных рабочых і сялян, партыя, разам з тым, не можа ні на мінуту забыць, што галоўная адказнасць за работу гаспадарчых і агульнадзяржаўных органаў ляжыць на РКП, бо яна адна гістарычна заклікана быць сапраўдным праваднікам дыктатуры рабочага класа. **Яшчэ бліжэй да гаспадаркі, яшчэ больш увагі. кіраўніцтва, сіл гаспорганам,—такі лозунг партыі на бліжэйшы перыяд»** *).

* * *

У справаздачным дакладзе Цэнтральнага Камітэта XII з'езду партыі таварыш **Сталін** падкрэсліў агромнае значэнне **падрыхтоўкі комуністычных кадраў,** падрыхтоўкі змены кіраўнікоў. Калі цяпер, праз 15 год, прачытваеш справаздачны даклад таварыша **Сталіна**, з асобаю сілай адчуваеш усю правільнасць і важнасць установак, якія партыя давала ў гэтым напрамку.

*) „ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. 1-я, стар. 483. 1936.

Важнейшай палітычнай задачай, якая вызначае ўвесь ход рэвалюцыі, XII з'езд лічыў **захаванне і развіццё саюза рабочага класа і сялянства** ў духу ўказанняў, якія Ленін даваў у сваіх апошніх артыкулах. І іменна ў сувязі з неабходнасцю ўзмацніць гэты саюз, узмацніць змычку рабочага класа з сялянствам, на XII з'ездзе было зноў пастаўлена **нацыянальнае пытанне.** З'езд лічыў буйнейшай небяспекай для партыі недастаткова ўважлівыя адносіны да інтарэсаў працоўных мас агромнай колькасці раней прыгнечаных нацыянальнасцей.

Дакладчыкам па нацыянальнаму пытанню на з'ездзе быў таварыш **Сталін.** Указаўшы на агромнае міжнароднае значэнне нацыянальнай палітыкі савецкай улады і комуністычнай партыі, таварыш **Сталін** паставіў пытанне аб заваяванні рэзерваў, якія яшчэ адсталі ад ходу соцыялістычнай рэвалюцыі.

> «Адно з двух,—гаварыў таварыш Сталін,—або мы глыбокі тыл імперыялізма—усходнія каланіяльныя і поўкаланіяльныя краіны—расшавелім, рэволюцыянізуем і тым паскорым падзенне імперыялізма, або мы прамажам тут і тым умацуем імперыялізм, і тым аслабім сілу нашага руху. Так стаіць пытанне» *).

Да таго, што робіцца ў Савецкім Саюзе, уважліва прыглядаюцца працоўныя ўсяго свету. Таму правільная нацыянальная палітыка мае агромнае значэнне для згуртавання вакол Савецкага Саюза працоўных капіталістычных краін. Але і ўнутры Савецкага Саюза нацыянальнае пытанне адыгрывае агромную ролю. Першапачатковы перыяд НЭП'а быў асабліва небяспечны з пункту погляду развіцця розных ухілаў у нацыянальным пытанні. І таварыш **Сталін** адзначыў, што «НЭП узрошчвае не толькі шавінізм рускі,—ён узрошчвае і шавінізмы мясцовыя, асабліва ў тых рэспубліках, якія маюць некалькі нацыянальнасцей» **).

Таварыш **Сталін** указваў далей, што сутнасць класавай палітыкі нацыянальнага пытання заключаецца ў тым, каб устанавіць правільныя ўзаемаадносіны «паміж пролетарыятам былшай дзяржаўнай нацыі, які прадстаўляе найбольш культурны слой пролетарыята ўсёй нашай федэрацыі, і сялянствам, пераважна сялянствам нацыянальнасцей раней прыгнечаных» ***). Канкрэтная форма для правільных узаемаадносін заключалася **ва ўстанаўленні цеснага супрацоўніцтва народаў СССР—супрацоўніцтва гаспадарчага, палітычнага і ваеннага.**

Таварыш **Сталін** прывёў у сваім дакладзе цэлы рад фактаў праяўлення мясцовага шавінізма, у асаблівасці з боку грузінскіх нацыяналістаў.

Грузінскія буржуазныя нацыяналісты выдавалі ў той час дэкрэты, якія раздражалі іншыя нацыянальнасці Закаўказзя, яны праводзілі мерапрыемствы, якія нічога супольнага не мелі з ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкай.

Таварыш **Серго Орджанікідзе,** які быў у той час кіраўніком Закаўказскай партыйнай арганізацыі, вытрымаў на сваіх плячах увесь цяжар барацьбы з грузінскімі буржуазнымі нацыяналістамі. Гэтыя здраднікі ўжо тады праводзілі палітыку, яўна варожую ленінізму.

*) XII з'езд РКП(б). Стэнаграфічная справаздача, стар. 440.
**) Там-жа, стар. 441.
***) Там-жа.

Напрыклад, грузінскія нацыяналісты выдалі дэкрэт «Аб грамадзянстве соцыялістычнай савецкай рэспублікі Грузіі», па якому «грамадзянства Грузіі трацяць: грузінская грамадзянка ў тым выпадку, калі яна выйдзе замуж за іншаземца», а іншаземцамі грузінскія нацыяналісты лічылі ўсіх, хто жыве па-за Грузіяй.

У сакавіку 1922 года грузінскія нацыяналісты ўмудрыліся закрыць граніцу Грузіі для ўсіх прыязджаўшых з іншых рэспублік Совецкага Саюза. Спецыяльным «дэкрэтам» яны пагражалі ўсім асобам, якія прыбудуць у межы Грузіі без захавання устаноўленых правіл, што яны «падлягаюць арышту і высяленню на радзіму за свой кошт выключна ў этапным парадку, на арыштанцкім палажэнні».

На XII з'ездзе грузінскія нацыяналісты скардзіліся, што іх крыўдзяць. Перад з'ездам дзве камісіі пад старшынствам таварышоў **Куйбышэва** і **Дзержынскага** спецыяльна абследвалі становішча ў Грузіі і ўстанавілі наяўнасць антыпартыйных груповак грузінскіх нацыяналістаў, якія называліся тады нацыянал-ухілістамі.

Таварыш **Сталін** у заключным слове па справаздачы ЦК указаў на супраціўленне, якое сустрэлі мерапрыемствы па правядзенню большэвіцкай нацыянальнай палітыкі ў Грузіі. На пытанне грузінскіх нацыяналістаў, ці давярае Цэнтральны Камітэт РКП(б) комуністам Грузіі, таварыш **Сталін** адказаў, што справа ідзе не аб давер'і комуністам Грузіі, бо **комуністы Грузіі карыстаюцца поўным давер'ем,** а справа ідзе аб тым, што Цэнтральны Камітэт не можа давяраць невялікай антыленінскай групе, якая прабралася ў ЦК партыі Грузіі, групе, якая складаецца з нацыяналістаў і трацкістаў. Пазней гэтыя нацыяналісты поўнасцю выявілі сябе як ворагі народа, як агенты імперыялістаў і прамыя іх пасобнікі ў справе падрыхтоўкі інтэрвенцыі супроць СССР.

Грузінскія нацыяналісты ўжо тады знайшлі падтрыманне ва украінскіх і іншых буржуазных нацыяналістаў, як, напрыклад, у Ракоўскага, у Скрыпніка, у татарскага буржуазнага нацыяналіста Султан-Галіева. Неўзабаве пасля XII з'езда партыі склікана была спецыяльная нарада па нацыянальнаму пытанню. На гэтай нарадзе султангаліеўшчына была выкрыта як контррэволюцыйная арганізацыя буржуазных нацыяналістаў, якія імкнуліся да стварэння буржуазнай дзяржавы і расчлянення Совецкага Саюза.

Гэты факт паказвае, што выкрытыя і разгромленыя подлыя ворагі народа—буржуазныя нацыяналісты і трацкісцка-бухарынскія бандыты—вялі і тады шпіёнскую падрыўную работу і што ўжо тады розныя варожыя большэвізму групоўкі па раду пытанняў ядналіся ў барацьбе супроць партыі і яе ленінска-сталінскага кіраўніцтва, супроць совецкай улады.

* *
*

Важнейшае месца ў работах з'езда занялі пытанні **развіцця сельскай гаспадаркі,** у прыватнасці пытанні **налогавай** палітыкі ў вёсцы. XII з'езд партыі ўстанавіў адзіны прамы сельскагаспадарчы налог замест ранейшых розных налогаў (продналог, падворна-грашовы, працгужналог). Селянін загадзя павінен быў ведаць усю суму прамога абкладання, якое ад яго належыць, і мець справу толькі з адным зборшчыкам гэтага налога. Гэта быў значны крок уперад у справе ўстанаўлення правільных узаемаадносін рабочага класа і сялянства. Замена часткі натуральнага налогу грашовым значна палег-

чыла становішча сялянства, даючы вялікую выгаду сялянскай гаспадарцы.

XII з'езд, выходзячы з указанняў **Леніна** аб рэарганізацыі Рабкрына, ажыццявіў аб'яднанне ЦКК і РСІ, указаўшы, што ў яго задачы павінен уваходзіць кантроль партыйных і совецкіх органаў. Асноўнай задачай ЦКК XII з'езд вызначыў работу **па забяспечанню ва ўсіх адносінах партыйнай лініі ў дзейнасці ўсіх совецкіх органаў.** Кіраўніком ЦКК—РСІ партыя вылучыла таварыша Валерыяна Владзіміравіча **Куйбышэва.**

XII з'езд прыняў разгорнутую рэзалюцыю па **арганізацыйнаму** пытанню, у якой звярачаюць на сябе ўвагу пункты аб арганізацыйным рэгуліраванні складу партыі, прынятыя ў адпаведнасці з пісьмамі **В. І. Леніна,** пасланымі ім таварышу **Молатаву** напярэдадні XII з'езда партыі. У гэтых пісьмах **Ленін** прапанаваў падоўжыць кандыдацкі стаж і ўзмацніць патрабаванні ў адносінах рэкамендацый і праверкі кандыдатаў партыі.

На з'ездзе было прынята таксама разгорнутае рашэнне аб **пастаноўцы антырэлігійнай прапаганды і агітацыі,** якое захавала значэнне і на сённяшні дзень, у якасці разгорнутай партыйнай дырэктывы.

Асоба падрабязна была распрацавана рэзалюцыя **аб рабоце партыі ў вёсцы,** аб рабоце сярод **работніц і сялянак** і аб рабоце саюза **моладзі.**

* * *

XII з'езд партыі ахапіў велізарнае кола пытанняў. Ён падагуліў рэзультаты новай эканамічнай палітыкі за першыя два гады. Гэтыя вынікі ўказвалі, што партыя стаіць на верным шляху. Таварыш **Сталін** заявіў на з'ездзе:

> **«Наша партыя засталася спаянай, згуртаванай, вытрымаўшай найвялікшы паварот, ідучай уперад з шырока разгорнутым сцягам».**

XII з'езд даў рашучы адпор трацкістам і іншым антыленінскім групам, разграміў буржуазных нацыяналістаў, якія імкнуліся звярнуць партыю з правільнага, ленінска-сталінскага шляху.

Вялікае вучэнне **Леніна** натхняла XII з'езд і ўсю партыю большэвікоў на далейшую барацьбу за соцыялізм. Скончана была барацьба з інтэрвентамі. Партыя мела ўжо значны станоўчы вопыт барацьбы за соцыялізм ва ўмовах новай эканамічнай палітыкі. Партыя **Леніна—Сталіна** ўпэўнена ішла наперад, да новых і новых перамог соцыялізма. Аднавіўшы народную гаспадарку краіны да даваеннага ўзроўню, завяршыўшы сталінскія пяцігодкі, большэвіцкая партыя пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) на чале з вялікім прадаўжальнікам ленінскай справы таварышом **Сталіным** прывяла народы нашай краіны да перамогі соцыялізма.

**„Партийное строительство" № 8 за 1938 г.**

**А. Свам**

# Міжнародны агляд

Вялікае першамайскае свята—дзень міжнароднай пролетарскай салідарнасці—працоўнае чалавецтва сустракае ў 1938 годзе ў абстаноўцы новага абвастрэння пагрозы вайны.

Пажар вайны ўжо лютуе на двух процілеглых канцах нашага кантынента: у Іспаніі—на крайнім Захадзе Еўропы і ў Кітаі—на крайнім усходзе Азіі. Штодзень смерч вайны вырывае тысячы чалавечых жыццяў. Фашысцкія германа-італьянскія варвары і іх японскія саюзнікі спакойна сціраюць з твару зямлі цэлыя гарады, знішчаюць агнём агромныя матар'яльныя і культурныя каштоўнасці, якія чалавецтва стварала вякамі. Японскія, германскія і італьянскія драпежнікі на іспанскай і кітайскай зямлі праходзяць практыку «татальнай» вайны, якую яны абвясцілі законам чалавечага агульнажыцця. Яны правяраюць на жывых людзях, на жанчынах, на дзецях, старыках смертазабойчую сілу розных тыпаў авіябомб, меткасць агня сваёй артылерыі, руйнуючую сілу выбуховых матэрый.

Вайна ў Іспаніі і Кітаі наглядна паказала працоўнаму чалавецтву, што чакае яго ў далейшым, калі аб'яднаны «блок агрэсараў» прыступіць да «вялікай вайны» за панаванне над светам, якую яны даўно рыхтуюць.

Супроць самай магчымасці такой «вялікай вайны», за абузданне фашысцкай агрэсіі змагаецца цяпер усё перадавое прагрэсіўнае чалавецтва на чале з перадавым атрадам працоўных—міжнародным рабочым класам. Пад лозунгамі барацьбы супроць фашызма і супроць вайны выступаюць у першамайскія дні 1938 г. працоўныя ўсіх краін.

Вось чаму іменна сёння трэба ўзважыць і ацаніць пройдзены шлях барацьбы за мір, вызначыць, як на сённешні дзень складваюцца суадносіны сіл міру і сіл вайны, выявіць прыяцеляў і адкрытых і замаскаваных ворагаў міру.

Паглядзім, перш за ўсё, што адбываецца ў лагеры падпальшчыкаў вайны, якія новыя планы агрэсіі рыхтуюць гэтыя ізвергі чалавечага роду супроць мірных народаў.

7 лістапада 1937 г. канчаткова аформіўся так званы «блок агрэсараў», «Вось Берлін—Рым»—г. зн. палітычнае і ваеннае супрацоўніцтва Італіі і Германіі, абвешчанае ўвосень 1926 г., і германа-японскі ваенна-палітычны саюз, заключаны пад маскай дагавора аб барацьбе з Комінтэрнам у лістападзе 1936 г. ператварыўся ў тройственае ваенна-палітычнае супрацоўніцтва Італіі, Германіі і Японіі, накіраванае супроць усяго прагрэсіўнага чалавецтва.

Кожны з удзельнікаў гэтага блока агрэсараў прынёс у яго свае захватніцкія планы. Японская ваеншчына прынесла свае планы поў-

нага зняволення Кітая, якое яна разглядае як першы этап на шляху да заваёвы Інда-Кітая, Галандскай і Брытанскай Індыі, Савецкага Далёкага Ўсхода і Сібіры, амерыканскіх уладанняў на астравах і на ўзбярэжжы Ціхага акіяна. Італьянскі фашызм уступіў у гэты блок у надзеі заваяваць панаванне ў басейне Міжземнага мора, палегчыць сабе захват Іспаніі, французскіх уладанняў у Паўночнай Афрыцы, калоній у Малай Азіі. Германскі фашызм прынёс у блок не менш брэдавыя надзеі на заваяванне сусветнага панавання вышэйшаю «расай» белакурых паўночных варвараў. Заваяванне Цэнтральнай Еўропы, Балканскіх і Прыбалтыйскіх краін, французскіх і брытанскіх калоній, план антысавецкай вайны, захвату Савецкай Беларусі, Украіны, Крыма і Каўказа, распаўсюджанне ўлады фашызма да самага Урала(!)—вядомыя ўсяму свету звенні адзінага плана, падананага Гітлерам яшчэ да захопу ўлады ў кнізе «Мая барацьба».

Японскія, германскія і італьянскія драпежнікі адкрыта пахваляюцца тым, што кожны з іх паасобку і ўсе яны разам гатовы і дастаткова моцны, каб ажыццявіць гэтыя планы. Гэта пахвальба з'яўляецца адным з метадаў іх палітыкі запалохвання і шантажу, з дапамогай якога яны стараюцца ўнесці разлажэнне і страх у лагер прыхільнікаў міру, адарваць ад яго хістаючыяся, нястойкія элементы.

Чым, як не такім шантажным прыёмам, з'яўляецца, напрыклад, нядаўняя прамова Мусаліні (31 сакавіка 1938 г.). Мусаліні хвасліва заявіў, што Італія можа ў любы момант мабілізаваць армію ў 8—9 мільёнаў чалавек, з якіх не менш 5 мільёнаў у першыя-ж дні вайны могуць быць скарыстаны на перадавых лініях. Ён гаварыў і аб «магутнай ваеннай прамысловасці», якая складаецца з 876 заводаў і 580 тысяч рабочых, днём і ноччу рыхтуючых ваеннае снаражэнне. Ён хваставуся і тым, што італьянскі ваенны флот к 1940—1941 г. будзе раўняцца 240 тыс. тон і што італьянская авіяцыя ўжо цяпер з'яўляецца адною з самых сільных у свеце.

Мусаліні абыйшоў, аднак, маўчаннем пытанне аб тым, на якія-ж сродкі ён будзе утрымліваць сваю 9-мільённую армію агрэсіі, якім вугалем, нафтай і сыравінай будзе снабжаць сваю ваенную прамысловасць, марскі флот і авіяцыю, якім хлебам будзе карміць галадаючае ўжо цяпер насельніцтва.

Усяму свету вядома, чаго каштавала Італіі адна толькі абісінская авантура. 30 мільярдаў лір страціў фашызм на вайну ў Абісініі.

На фінансах Італіі гэты выпадак адбіўся самым плачэўным чынам. Бюджэтныя дэфіцыты склалі сумы ў 504 млн. лір у 1930—31 бюджэтным годзе, 6.371 млн. лір у 1933—34 годзе, 12.686 млн. лір у 1935—36 годзе і 16.230 мільёнаў лір у 1936—1937 годзе. Італія прымушана ўвозіць з-за мяжы ў мірны час на 2 мільярды лір зернапрадуктаў, больш чым на мільярд лір бавоўны, на поўмільярда лір шэрсці, на агромныя сумы яна ўвозіць нафту, змазачныя маслы, скуру, жывёлу і т. п.

Дэфіцыт і знешне-гандлёвага банка складае суму парадку 6-ці мільярдаў лір. Але, каб іх знайсці, трэба літаральна спусціць некалькі скур з італьянскіх працоўных, сціскаць іх і па лініі заработнай платы і па лініі цэн. Не дзіўна, што хвастлівы Мусаліні адначасова з абвяшчэннем басні аб «несакрушальнай магутнасці» жабрацкай фашысцкай Італіі вядзе перамовы аб тлустай пазыцы ў лонданскіх банкіраў.

Не лепш становішча і двух іншых драпежнікаў-агрэсараў.

Фашысцкая Германія, як славуты Трышка, адразае рукавы сваёй гаспадаркі, каб падшыць полы, і адразае полы, каб падшыць рукавы. А кафтан-гаспадарка трашчыць і развальваецца па швах. Гарматы замест масла, картачкі замест хлеба, дрэва замест шэрсці, салома замест дрэва—так круціцца дзіравае кола германскай эканомікі, штурхаючы прывязаных да яго гаспадароў сучаснай Германіі на пошукі «поспехаў» у іншых галінах—на шляхах знешне-палітычных авантур, якія пагражаюць ператварыць свет у палаючы дом вар'ятаў.

Унутраная слабасць фашысцкіх драпежнікаў у дастатковай меры выявілася ўжо ў тым, як цяжка ім прыходзіцца выблытвацца з ужо пачатых авантур.

Вайна ў Кітаі цягнецца ўжо 10 месяцаў. План «быстрай, як маланка» расправы з кітайскім народам сарвала гераічнае супраціўленне кітайскай нацыі, якая паўстала на барацьбу з захватчыкамі. Гаспадарка Японіі трашчыць, не вытрымліваючы цяжару «ваеннай прагулкі», якая раптоўна зацягнулася. Ды і самая прагулка не падобна на тое, як яе ўяўляла сабе японская ваеншчына. Пасля першых «поспехаў», захватаў Бейпіна, Шанхая, Нанкіна, японскія войскі пачынаюць выдыхацца. Да гэтага часу японскаму генштабу не ўдалося звязаць у адзіны фронт тэатры вайны ў Паўночным і Цэнтральным Кітаі. У Шандуні кітайскія войскі б'юць японскія арміі. Растуць сілы супраціўлення кітайскага народа, расце яго армія, авіяцыя, арганізаванасць тылу, рашучасць біцца да канчатковай перамогі.

Італа-германская інтэрвенцыя ў Іспаніі цягнецца ўжо каля 22 месяцаў. Інтэрвентам удалося нанесці цяжкія ўдары іспанскаму народу, знішчыць дзесяткі тысяч жыццяў, сцерці з твару зямлі цэлыя гарады. Але і зараз іспанскі народ цвёрда ўпэўнен у немінучасці сваёй канчатковай перамогі над усімі ворагамі. Вопыт гераічнай абароны Мадрыда, разгром італьянскіх інтэрвентаў пад Гвадалахарай, нямецкіх полчышчаў на Хараме, вопыт барацьбы за Тэруэль, за Лерыду паказалі, што калі-б у рэспубліканскага ўрада не былі звязаны рукі палітыкай «неўмяшання», якая дазваляе інтэрвентам беспакарана пасылаць цэлыя ўзброеныя да зубоў арміі на іспанскую зямлю, разгром інтэрвентаў быў-бы ўжо даўно здзейсніўшымся фактам.

Нямалаважнай акалічнасцю, якая характарызуе сілы лагера падпальшчыкаў вайны, з'яўляецца і тое, што толькі з вялікаю нацяжкай можна гаварыць аб «салідарнасці», якая яднае гэтых драпежнікаў. Гэта «салідарнасць» ёсць «салідарнасць» разбойнікаў, гатовая змяніцца панажоўшчынай пры першым-жа зручным выпадку. Для ілюстрацыі германа-італьянскай «салідарнасці» вельмі характэрна тая кіслая міна, з якою Мусаліні праглынуў «здзейснены факт» захвату фашысцкай Германіяй Аўстрыі, што знаходзілася пасля вайны 1914-1918 гг. у сферы інтарэсаў італьянскага імперыялізма. Цяпер, калі італа-германская граніца праходзіць у Альпах, на Брэнеры, цікава ўспомніць, што гаварыў той-жа Мусаліні толькі аб магчымасці такога становішча. У 1925 г., калі Германія яшчэ не была казармай, перапоўненай узброенымі да зубоў салдатамі, Мусаліні, на пасяджэнні італьянскага сената сказаў: «Недастаткова гарантаваць граніцы на Рэйне (справа ішла аб Лакарнскіх гарантыях французскай і бельгійскай граніцы з Германіяй), трэба гарантаваць і граніцу на Брэнеры. Італія ніколі не пацерпіць такога яўнага парушэння дагавораў, якім з'явілася-б анексія Аўстрыі Германіяй. Гэта анексія па майму перакананню, знішчыла-б усе плады італьянскай перамогі».

З таго моманту як на Брэнеры з'явіліся германскія войскі, Італія страціла ўсе свае пазіцыі ў Аўстрыі, і пад непасрэднай пагрозай аказаліся яе пазіцыі на Балканах, у Югаславіі, Балгарыі і Грэцыі. Унутраныя супярэчнасці ў лагеры агрэсараў, бясспрэчна, аслабяць сілы кожнага з іх і ўмацуюць сілы абаронцаў міру.

Было-б няправільным лічыць, што адносная і выявіўшаяся ўжо эканамічная, ваенная і палітычная слабасць агрэсараў і супярэчнасці ў іх радах з'яўляюцца самі па сабе гарантыяй супроць пагрозы «вялікай вайны». Справа абстаіць якраз наадварот. Тое, што глеба гарыць у іх пад нагамі, тое, што час працуе супроць іх—штурхае іх на ўсё новыя і новыя авантуры, на распальванне пажару сусветнай вайны.

Новым штуршком для разгортвання знешне-палітычных авантур фашысцкіх агрэсараў з'явілася афармленне «блока агрэсараў» у лістападзе 1937 г. Непасрэдным рэзультатам гэтага «блока» было тое, што фашысцкая Германія адкрыта паставіла ў парадак дня пытанне аб тэрытарыяльных набытках у Еўропе і аб перадзеле калоній. Ужо ў тым-жа лістападзе 1937 г. Гітлер у гутарцы з лордам Галіфаксам, у той час членам англійскага кансерватыўнага ўрада паставіў пытанне аб захваце Германіяй Аўстрыі, аб расчляненні Чэхаславакіі, аб свабодзе захватаў у Цэнтральнай Еўропе, на Балканах і аб перадзеле калоній.

11 сакавіка Гітлер з дапамогай аўстрыйскіх фашыстаў, якія адкрылі перад захватчыкам вароты сваёй радзімы, захапіў Аўстрыю ваеннай сілай і знішчыў яе як незалежную дзяржаву.

Чым-жа прыцягвае Германію Аўстрыя? Па-першае, эканамічна Аўстрыя—даволі магутная індустрыяльная краіна, якая ўладае значнымі запасамі метала (жалеза, медзь, свінец)—прыцягвае Гітлера, як крыніца рэсурсаў для вайны, якую ён рыхтуе. Па-другое, Аўстрыя мае 7,5 мільёнаў насельніцтва, якое ў патэнцыяле можа паставіць мільённую армію. Па-трэцяе, захват Аўстрыі набліжае фашысцкую Германію да дзяржаў, якія ўладаюць значнай колькасцю гаспадарчых і, у прыватнасці, сельскагаспадарчых рэсурсаў. Гэта—Чэхаславакія, Югаславія, Венгрыя, Румынія з яе нафтай.

Такаво эканамічнае і сацыяльна-палітычнае значэнне далучэння Аўстрыі да Германіі. Для германскага фашызма Аўстрыя, перш за ўсё,—крыніца эканамічных рэсурсаў, жывой сілы і плацдарм будучых захватаў.

Захват Аўстрыі рэзка абвастрыў палітычнае становішча ў Еўропе. Было зразумела, што на чарзе стаіць пытанне аб незалежнасці і іншых цэнтральна-еўрапейскіх і Балканскіх краін і, перш за ўсё, пытанне аб незалежнасці Чэхаславакіі, якая аказалася ў кальцы германскіх і польскіх армій. Пагроза незалежнасці Чэхаславакіі з'явілася і пагрозай усеагульнаму міру. Чэхаславакія звязана ваенным саюзам з Францыяй. Адразу-ж пасля захвату Аўстрыі германскім фашызмам Францыя заявіла аб сваёй рашымасці выканаць саюзныя абавязацельствы, якія ляжаць на ёй у адносінах Чэхаславакіі. Напад германскага фашызма на Чэхаславакію, такім чынам, азначаў-бы пачатак вялікай вайны.

Фашысцкая Германія не асмелілася пакуль расправіцца з Чэхаславакіяй ваеннымі сродкамі. Германскія захватчыкі зразумелі, што прамы напад на Чэхаславакію можа ім дорага абыйсціся, бо чэхаславацкі народ гатоў да рашучага супраціўлення.

Гітлер таму прыбег да ўжо вядомага, улюбёнага ім метаду, які адыграў сваю ролю ў захваце Аўстрыі. Ён прывёў у рух сваіх

агентаў у Чэхаславакіі і ў першую чаргу партыю Гейнлейна—фашысцкую арганізацыю, якая працуе сярод нямецкага насельніцтва Чэхаславакіі. Нямецкія фашысты ў Чэхаславакіі, па загаду Гітлера выступілі з патрабаваннем аўтаноміі для судэцкіх немцаў. Гэта патрабаванне было падтрымана фашысцкімі групамі, якія працуюць сярод польскай, венгерскай, славацкай меншасцей Чэхаславакіі. Ажыццяўленне «аўтаноміі» азначала-б нішто іншае, як распад Чэхаславацкай рэспублікі, раздзел яе паміж Германіяй і Польшчай, знішчэнне асноўнай перашкоды на шляху да германскага панавання ў Цэнтральнай Еўропе і на Балканах. Распальванне германскім фашызмам антыўрадавай дзейнасці фашысцкіх груміровак у Чэхаславакіі стварала, з другога боку, абстаноўку для правакацыйных хваляванняў у краіне, якія маглі адкрыць Гітлеру вароты ў Чэхаславакію.

Калі па прыкладу Гітлера польскі Мальбрук сабраўся ў паход і задумаў налёт на Літву, у многіх з еўрапейскіх палітыкаў паўстала пытанне: ці няма тут зговару паміж Гітлерам і Польшчай? Што Германія правакавала выступленне Польшчы,—гэта бясспрэчна, бо не гледзячы на існаванне джэнтльменскага пагаднення паміж двума разбойнікамі, Польшча добра разумее, наколькі небяспечны для яе яе ласкавы сусед. Аб гэтай небяспецы польскія дзяржаўныя дзеячы ведаюць з пачатку існавання польскай дзяржавы.

Па польска-германскаму дагавору ад 25 студзеня 1934 г. Германія абавязалася 10 год не чапаць польска-германскіх граніц і мірна супрацоўнічаць з Польшчай. На самай-жа справе за гэтым дагаворам хаваецца іншае: Германія Польшчу не будзе чапаць дзесяць год, затое Польшча абяцала Германіі не перашкаджаць яе дзеянням у Аўстрыі. Але гэты саюз нетрывалы, рана ці позна Польшчу пасцігне лёс Аўстрыі.

Германіі патрэбен разгром Польшчы, але Савецкая дзяржава супроць гэтага. Ленін яшчэ ў 1920 г. на з'ездзе працоўнага казацтва заявіў, што мы добра разумеем тое злачынства, якое было калісьці зроблена ў адносінах да польскага народа, мы разумеем нянавісць палякаў да палітыкі гвалту з боку царскай Расіі і мы працягваем Польшчы руку міру, але калі Польшча гэтага не разумее і будзе рыхтаваць напад на нас, мы гаворым палякам: вы атрымаеце ад нас такі ўрок, якога ўсё жыццё не забудзеце.

Існуючае становішча ў лагеры краін прыхільнікаў міру тлумачыць нам, чаму адносна больш слабы лагер падпальшчыкаў вайны яшчэ дагэтуль не заклікан да парадку, чаму ён мае магчымасць захапляць цэлыя краіны, здзекавацца над элементарнымі правамі народаў, пасылаць сваіх салдат у Іспанію, Кітай.

Лагер міру, безумоўна, і цяпер яшчэ мацней лагера вайны. Гэта разумеюць усе шчырыя прыяцелі міру—шырокія працоўныя масы: рабочыя, сяляне, перадавыя прагрэсіўныя колы інтэлігенцыі, якія настойваюць на рашучай барацьбе супроць фашызма і супроць вайны, на аб'яднанні сіл у абарону калектыўнай безапаснасці ўсіх буржуазна-дэмакратычных дзяржаў, на шчыльным супрацоўніцтве іх з Совецкім Саюзам—аплотам міру.

Асноўнай прычынай таго, што больш сільныя праціўнікі вайны не пазбавілі падпальшчыкаў вайны магчымасці шкодзіць, з'яўляецца палітыка зговару з агрэсарамі, якую вядуць некаторыя з краін, што лічацца ў мірным лагеры. Тав. Літвінаў у сваім выступленні на верасьнёўскім пленуме Лігі нацый у 1937 г. паказаў увесь ланцуг

уступак шантажнай палітыцы «здзейсніўшыхся фактаў», якая прывяла да сучаснага становішча. «Можна лічыць цяпер аксіёмай»,—заявіў ён,—што пасіўнасць Лігі ў час манчжурскага канфлікта мела сваім вынікам некалькі год пазней напад на Абісінію, недастатковая актыўнасць Лігі ў выпадку з Абісініяй заахвоціла іспанскі эксперымент. Непрынящце Лігай ніякіх мер у дапамогу Іспаніі заахвоціла новую атаку на Кітай». Пасля пленума Лігі нацый меў месца захват Аўстрыі, які з'явіўся вынікам беспакаранасці ўсіх папярэдніх актаў агрэсіі.

Калі праглядзець гісторыю апошніх год пад кутом погляду выяўлення прычыны беспакаранасці агрэсараў, усюды і ва ўсіх выпадках мы сустрэнемся з тым, што ўсякае супраціўленне агрэсіі ў корані падрывалася пазіцыяй англійскіх кансерватараў, якія цвярдзілі аб міры, а на справе развязвалі вайну. У 1931 г. японская агрэсія ў Манчжурыі абмяркоўвалася ў Лізе нацый. Злучаныя Штаты Амерыкі нядвухсэнсна заяўлялі, што дапамогуць Лізе ў тым выпадку калі яна акажа процідзеянне захватніцкай палітыцы Японіі. Англійскія прадстаўнікі ў Лізе былі супроць рашучых мер у надзеі, што японскія захваты прывядуць да сутычкі паміж Японіяй і СССР.

У 1935 годзе, у час абісінскай вайны, англійскі прадстаўнік у Жэневе Ідэн заявіў аб гатоўнасці Англіі ісці на ўсе санкцыі супроць Італіі, аб'яўленай агрэсарам. А ў гэты час англійскі міністр замежных спраў Самуэль Хор дагаварваўся з Лавалем і Мусаліні аб раздзеле Абісініі.

Вядома пазіцыя Англіі і ў іспанскім канфлікце. Шаноўныя лорды зачыняюць вочы на адкрытую і наглую пасылку Італіяй і Германіяй войск і снаражэння ў Іспанію для барацьбы супроць законнага іспанскага ўрада. Яны ўсяляк стрымліваюць у Францыі тыя сілы, якія былі гатовы пакончыць з камедыяй «неўмяшання», небяспечнай у першую чаргу для самой Францыі.

У японa-кітайскай вайне, якая выбухла зноў у 1937 годзе, англійскія кансерватары занялі тую-ж пазіцыю, што і ў час манчжурскага канфлікта. На Брусельскай канферэнцыі ў лістападзе 1937 г. гэтыя колы імкнуліся сутыкнуць ілбамі Японію з СССР. Зусім акрэсленую ролю адыграла палітыка Англіі і ў захваце Аўстрыі Германіяй. Лорд Галіфакс ведаў аб падрыхтоўцы захвату непасрэдна ад Гітлера яшчэ ў лістападзе 1937 г., але Англія не паварушыла і пальцам, каб прадухіліць гэты ганебны разбой.

Больш таго, за апошнія тыдні англійскія кансерватары перашлі ад палітыкі закуліснага зговару з агрэсарамі, прыкрываемага расшарквання перад Лігаю нацый, ідэяй калектыўнай безапаснасці і недзялімага міру, да палітыкі актыўнага зговару з агрэсарамі. У лютым англійскі міністр замежных спраў Ідэн, які ажыццяўляў лінію фармальнай вернасці прынцыпам Лігі нацый, быў заменен Галіфаксам, прыхільнікам адкрытага зговару з германскім і італьянскім фашызмам і японскай ваеншчынай. 16 сакавіка адбылося падпісанне англа-італьянскага пагаднення, па якому Англія зрабіла значныя ўступкі італьянскаму фашызму. Англія абавязалася правесці праз Лігу нацый прызнанне захвату Абісініі італьянскім фашызмам і фактычна санкцыяніравала італьянскую інтэрвенцыю ў Іспаніі.

Перагаворы з Германіяй пакуль лічацца афіцыяльна перарванымі бо перагаворшчык Рыбентроп павінен быў тэрмінова выехаць з Лондана для ўдзелу ў ажыццяўленні захвату Аўстрыі. Але Чэмберлен і Галіфакс ужо запэўнілі фашысцкую Германію, што захват Аўстрыі

пройдзе ёй беспакарана і што планы далейшага захвату могуць быць прадметам англа-германскіх перагавораў.

Палітыка англійскіх кансерватараў, якія групуюцца вакол Чэмберлена і Галіфакса, тлумачыцца тым, што яны разлічваюць дагаварыцца з агрэсарамі за кошт іншых краін і тым самым зняць пытанне «аб перадзеле англійскіх калоній», якое стаіць на павестцы дня. Больш за ўсё на свеце гэтыя колы баяцца росту рэволюцыйнага рабочага руху. Яны баяцца, што калі фашызм будзе разбіт у барацьбе пачатай ім супроць усяго чалавецтва, нязмерна ўзмоцняцца ва ўсім свеце пазіцыі працоўных мас, якія стогнуць пад гнётам капітала. Класавая нянавісць асляпляе англійскіх кансерватараў таксама, як яна асляпляе рэакцыйныя колы французскай буржуазіі, якія гатовы заклікаць Гітлера, каб задушыць ненавісны для іх народны фронт.

За апошнія 2—3 гады змяняўшыя адзін другога французскія ўрады, незалежна ад іх палітычнай афарбоўкі, сходзіліся на адным: усе яны пераацэньвалі значэнне Англіі ў сістэме французскай безапаснасці і недаацэньвалі сілы дэмакратычнай народнай Францыі і яе прыяцеляў у Еўропе. Французскія ўрады следавалі за Англіяй і трацілі адну за другою свае пазіцыі ў Еўропе. 7 сакавіка 1936 г., у час разрыву Германіяй Лакарнскага дагавора, англічане запрацівіліся планам рашучага адпору Германіі, з якімі выступалі некаторыя члены французскага ўрада. Захват дэмілітарызаванай зоны стаў «здзейсненым фактам». Гэта каштавала Францыі страты яе пазіцыі ў Бельгіі, якая шарахнулася ў бок Германіі і аб'явіла аб сваім «нейтралітэце» у выпадку нападу Германіі на Францыю. Гэта каштавала ёй і страты ўплыву ў Цэнтральнай Еўропе, адыходу Румыніі і Югаславіі ад Малай Антанты. «Новы курс» англійскай знешняй палітыкі абвешчанай Чэмберленам у момант, калі смяротная небяспека пагражае саюзніку Францыі—Чэхаславакіі, у момант, калі Францыя заяўляе аб сваёй гатоўнасці выканаць саюзныя абавязацельствы,—азначае прамое папярэджанне ёй з боку англійскіх кансерватараў, што ёй няма чаго разлічваць на дапамогу Англіі, калі яна не хоча дагаварыцца з агрэсарамі. На гэты зговар з агрэсарамі клічуць Францыю і рэакцыйныя колы яе буржуазіі: Лавалі, Тард'е, Фландэны і адкрытыя гітлераўскія агенты тыпу рэнегата Дорыо.

Шырокія працоўныя масы Англіі, Францыі і іншых краін, якія знаходзяцца пад пагрозай фашысцкай агрэсіі, разумеюць небяспеку, пагражаючую іх свабодзе і ўсеагульнаму міру. У Англіі і Францыі разгортваецца цяпер магутны народны рух супроць фашызма і вайны, за калектыўную безапаснасць, за недзялімы мір, за адпор агрэсарам, за дапамогу гераічнай Іспаніі і Кітаю. На чале гэтага руху народа стаяць комуністычныя партыі, даказаўшыя і ў Іспаніі і ў Кітаі сваю адданасць справе народнай барацьбы супроць фашызма, вайны і фашысцкіх агрэсараў. Погляды мірных народаў і лепшых людзей передавога прагрэсіўнага чалавецтва прыкаваны да нашай краіны, да вялікага Совецкага Саюза—непрыступнай цытадэлі соцыялізма і аплоту міру. Магутнасць СССР расце з кожным месяцам, з кожным днём. Шматмільённы совецкі народ пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, пад кіраўніцтвам любімага правадыра працоўнага чалавецтва таварыша Сталіна, згуртован як ніколі ў грозную сілу, якая стаіць на варце міру.

Сталінская Канстытуцыя, выбары ў Вярхоўны Совет СССР з'явіліся бліскучай дэманстрацыяй маральнага і палітычнага адзінства совецкага народа. Расце і мацнее з кожнай гадзінай наша непера-

можная Чырвоная Армія. Вылаўлены, разгромлены і знішчаны ворагі народа, агенты замежных разведак, шпіёны, дыверсанты, забойцы з трацкісцка-бухарынска-рыкаўскай агіднай зграі, якая марыла адчыніць ворагам вароты нашай радзімы. На ўвесь свет прагрымела слава аб гераічных учынках нашых слаўных лётчыкаў, якія завяявалі полюс, адкрылі паветраны шлях з Масквы на амерыканскае ўзбярэжжа Ціхага акіяна.

Совецкі Саюз спакойна і ўважліва сочыць за тым, што робіцца за яго рубяжамі. Таварыш Сталін яшчэ ў сакавіку 1936 г. папярэдзіў увесь свет аб актывізацыі двух ачагоў ваеннай небяспекі, якая пагражае запаліць сусветны пажар. Совецкі ўрад нядаўна паўтарыў зноў гэта папярэджанне, пасля захвату германскім фашызмам Аўстрыі.

Наша знешняя палітыка ясна ўсім: і нашым прыяцелям і нашым ворагам. Яна каротка, але з вычарпальнай яснасцю сфармулявана ў словах правадыра народаў—таварыша Сталіна: «Мы стаім за мір і адстойваем справу міру. Але мы не баімся пагроз і гатовы адказаць ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны. Хто хоча міру і дабіваецца дзелавых сувязей з намі, той заўсёды знойдзе ў нас падтрымку. А тыя, хто паспрабуюць напасці на нашу краіну,—атрымаюць сакрушальны адпор, каб уперад непавадна было ім саваць сваё свіное рыла ў наш совецкі агарод». Увесь свет ведае, памятае і паўтарае гэтыя словы.

---



Уп. Галоўлітбела № 4356.
Тыраж 7000 экз.
309.760 друк. зн. (5½ арк.)
Здана ў набор 22/IV—38 г.
Падпісана да друку 28/IV—38 г.

*Рэдкалегія*

Друкарня імя Сталіна, Менск, Дом Друку. Зак. № 3423.

